ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ ПА МАЁМАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ
# АТЛАС
# БЕЛАРУСІ

**ТОМ**
**3**

МІНСК
Белкартаграфія
2016

# УВОДЗІНЫ ДА ТРЭЦЯГА ТОМА

Трэці том Вялікага гістарычнага атласа Беларусі прысвечаны перыяду, калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Расійскай імперыі. Пашырэнне яе межаў на Беларусь адбывалася на працягу 1772—1795 гг., у 1807 г. была далучана Беластоцкая вобласць. Таму храналагічна трэці том часткова супадае з другім томам, прысвечаным перыяду, калі беларускія землі ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Аднак у трэцім томе адлюстраваны толькі тыя падзеі, якія адбываліся на землях, ужо падкантрольных Расійскай імперыі.

Уключэнне тэрыторыі Беларусі ў склад Расійскай імперыі істотным чынам паўплывала на яе далейшае развіццё: адміністрацыйнае, гандлёва-прамысловае і сацыякультурнае. Царскі ўрад імкнуўся ўніфікаваць адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел беларускіх земляў на ўзор расійскіх — як усёй тэрыторыі (паветы, правінцыі, губерні, генерал-губернатарствы), так і ў губернска-павятовым кіраванні. Будаваліся новыя крэпасці, дарогі і адміністрацыйныя будынкі, праводзіліся геадэзічныя замеры і картаграфаванне. Былыя дзяржаўныя землі і тыя, што належалі духавенству, канфіскаваныя маёнткі мясцовых землеўласнікаў, якія адмовіліся прысягнуць на вернасць новай уладзе, раздаваліся (пазней прадаваліся) расійскім чыноўнікам і вайскоўцам. Гэта з'яўлялася сродкам умацавання сацыяльнай апоры ў заходніх землях і усталёўвала новыя аграрныя адносіны, вяло да зменаў у сістэме гаспадарання.

Працэсы трансфармацыі паступова ахапілі ўсе слаі грамадства. Так, для былога набілітэту Рэчы Паспалітай працэс уваходжання ў склад расійскага дваранства супаў з нялёгкім пошукам свайго месца ў эканоміцы ва ўмовах новых гаспадарчых рэалій, асабліва пасля адмены прыгоннага права. Сяляне, набыўшы ў выніку рэформы 1861 г. асабістую свабоду, працягвалі барацьбу за зямлю і лепшую долю. Гарадскія саслоўі трапілі пад кантроль расійскай бюракратыі. Беларускае грамадства паступова пазбаўлялася рысаў традыцыйнага аграрнага ладу і набывала аблічча грамадства індустрыяльнага.

Эканамічнае развіццё Беларусі, як і ўсёй Еўропы, адчула на сабе наступствы прамысловага перавароту: з'яўленне новых паліўна-энергетычных крыніц (у першую чаргу — паравых рухавікоў), узнікненне фабрык і заводаў, значнае паляпшэнне шляхоў зносін. Адкрываліся банкі, ствараліся іншыя крэдытна-фінансавыя ўстановы, акцыянерныя таварыствы і гандлёвыя дамы. Прадпрымальнікі і рабочыя, тэхнічная інтэлігенцыя, чыноўніцтва пачынаюць вылучацца як самастойная частка грамадства. Здабыткамі XIX ст. сталі чыгункі, параходы, пошта, тэлеграф, тэлефон, аўтамабілі, грамадскі транспарт і камунальная гаспадарка ў гарадах. Дзякуючы ўсяму гэтаму пашыралася камунікацыйная прастора, на якой разгортваліся падзеі айчыннай гісторыі. Народная гаспадарка Беларусі паступова набывала рысы капіталістычнай эканомікі, усе яе галіны значна трансфармаваліся пад уплывам прамысловага перавароту і працэсаў капіталістычнай індустрыялізацыі.

Адбыліся змены ў этнаканфесійным складзе насельніцтва. Рымска-каталіцкі касцёл мусіў саступіць свае пануючае становішча праваслаўнай царкве. Новая ўлада ліквідавала ўніяцкую (грэка-каталіцкую) царкву на беларускіх землях. З адносінамі царызму да яўрэйскага насельніцтва былі напрамую звязаны абмежавальныя законы іўдзейскай рэлігіі. Разам з тым, набывала моц агульнасусветная гістарычная тэндэнцыя — свецкае жыццё значна парушыла рэлігійныя падмуркі грамадскага жыцця.

Гэта тэндэнцыя яскрава праяўлялася ў галіне адукацыі і культуры. На духоўную культуру Беларусі ў першай палове XIX ст. моцна ўплывалі польская, у другой палове XIX — пачатку XX ст. — руская культуры. Сялянства заставалася захавальнікам народнай культуры. Адукацыйныя рэформы садзейнічалі пашырэнню пачатковай адукацыі, у тым ліку і для сялян. Адкрываліся гімназіі, пачала развівацца прафесійная адукацыя. У пачатку XX ст. у адпаведнасці з патрэбамі сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага развіцця адбыліся ўдакладненні ў змесце і форме адукацыі. У параўнанні з папярэднімі эпохамі ў гэты час значна павялічыліся патокі інфармацыі. Нягледзячы на цэнзурныя забароны царскіх улад, з кожным дзесяцігоддзем пашыралася кнігадрукаванне, расла адукаванасць насельніцтва. Нават у сялянскім асяроддзі пісьменны чалавек перастаў быць выключнай з'явай.

Пачалося комплекснае вывучэнне гісторыі, мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага этнасу. У другой палове XIX ст. у айчыннай этнаграфіі з'явіўся шэраг грунтоўных навуковых работ І. Насовіча, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, А. Багдановіча і інш. У гэты час пашыраліся сфарміраваныя ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе ўяўленні аб тым, што кожны этнас уяўляе сабой нацыю і мае права на самакіраванне, калі не на ўласную дзяржаву. Новыя плыні засведчыў літаратар і этнограф Адам Кіркор, калі ў 1872 г. адзначыў у адным з лістоў: „Ёсць яшчэ думка, моцная і шматлікая, якая не хоча супольнасці ані з Польшчай, ані з Масквой, ані з маларусамі — а хоча ўласнага літоўска-беларускага жыцця, вядома, на федэрацыйных асновах". Далейшы крок да беларускай свядомасці зрабілі студэнты Пецярбургскага ўніверсітэта, якія стварылі беларускую фракцыю арганізацыі „Народная воля" і ў 1884 г. выдалі два нумары падпольнага часопіса „Гомон". Ён быў рускамоўны, але ў першым жа нумары сцвярджалася: „Мы — беларусы і павінны змагацца за мясцовыя інтарэсы беларускага народа і федэратыўную аўтаномію краіны".

Яшчэ больш выразнае афармленне гэтыя ідэі знайшлі ў праграмах беларускіх нацыянальных партый і атрымалі падчас рэвалюцыі 1905 г., калі ўрад вымушаны быў дазволіць існаванне парламенцкай сістэмы, палітычных партый і незалежнага друку. У пачатку XX ст. узнікла нацыянальнае кнігавыданне, газеты і часопісы былі разлічаны на беларускага чытача. Першыя беларускамоўныя газеты „Наша Доля" і „Наша Ніва" моцна паспрыялі пашырэнню ідэі, што беларусы ўяўляюць сабой самастойную нацыю.

Нацыятворчыя працэсы, якія адбываліся на тэрыторыі беларускіх губерняў на працягу XIX — пачатку XX ст., былі непарыўна звязаны з дзяржаватворчымі. Беларусы ў сваіх памкненнях нічым не адрозніваліся ад іншых народаў Еўропы, хіба што некалькі „спазняліся" ў пераходзе да індустрыяльнага грамадства і мелі вялікія цяжкасці на шляху да нацыянальнага самавызначэння. Таму зусім заканамернай з'явай была спроба гэтага самавызначэння ў форме палітычных намераў і дзеянняў. Выспяванне ідэі беларускай дзяржаўнасці на працягу канца XVIII — пачатку XX ст. сведчыць, што ўраду Расійскай імперыі ўдалося рэарганізаваць і ўніфікаваць тэрытарыяльна-адміністрацыйнае ўладкаванне беларуска-літоўскіх губерняў, але толькі па форме. Па змесце і сутнасці гэта прывяло да развіцця ідэі тэрытарыяльнай аўтаноміі губерняў беларускага краю. На пачатку XX ст. амаль усе палітычныя плыні, якія прадстаўлялі інтарэсы беларускай нацыі, арыентаваліся на аўтаномна-дзяржаўнае развіццё краю ў складзе дэмакратычнай Расійскай федэратыўнай рэспублікі. Але ў гады Першай сусветнай вайны пытанне беларускай дзяржаўнасці набыло іншае палітычнае гучанне. Разам з ідэяй аўтаноміі пачала прабіваць дарогу ідэя стварэння незалежнай беларускай дзяржавы.

На працягу XIX — пачатку XX ст. на тэрыторыі Беларусі праходзілі падзеі агульнарасійскага, еўрапейскага і сусветнага маштабу. Паўстанні 1830—1831 і 1863—1864 гг. вымушалі ўлады выпрацоўваць адметную стратэгію ўнутранай палітыкі на далучаных землях. Нярадка гэта адбывалася праз увядзенне надзвычайных і абмежавальных законаў, якія закранлі ўсе бакі сацыяльнага, нацыянальнага, рэлігійнага, культурнага і эканамічнага жыцця краю. Разбуральнымі войнамі сусветнага маштабу адзначаны пачатак і канец знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Спачатку гэта была эпоха напалеонаўскіх войнаў, потым — Першая сусветная, якая прывяла да краху царызму ў ходзе рэвалюцыі 1917 г.

Такім чынам, у канцы XVIII — пачатку XX ст. скаліся аб'ектыўныя і суб'ектыўныя ўмовы, якія абумовілі развіццё палітычнага руху беларусаў да набыцця нацыянальнай дзяржаўнасці — права і магчымасці самастойнага гістарычнага развіцця ў межах уласнай дзяржавы. Гэта найперш сацыяльныя і нацыянальныя супярэчнасці, якія закранлі інтарэсы карэннага насельніцтва беларускіх губерняў. Стратэгічны праект сацыяльна-эканамічнай і палітычнай мадэрнізацыі Расійскай імперыі быў разлічаны на працяглую гістарычную перспектыву. Але ініцыятары рэфармавання не ўлічылі сацыяльны кошт мадэрнізацыйнага праекта, пераклаўшы ўсе выдаткі на плечы працоўнага насельніцтва. У выніку грамадскія пераўтварэнні, у тым ліку і ў галіне мясцовага кіравання і самакіравання, у пачатку XX ст. скончыліся эпохай сацыяльных рэвалюцый. Нацыянальныя супярэчнасці былі выкліканы неадпаведнасцю паміж формай нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання Расійскай імперыі і імкненнем этнанацыянальных супольнасцяў, якія яе насялялі, да самавызначэння. Гэта была неабходная перадумова для стварэння ўласна беларускай дзяржаўнасці, якой будзе прысвечаны заключны, чацвёрты, том атласа.

Раздзелы трэцяга тома даюць уяўленне аб розных баках азначанага гістарычнага перыяду. Шэраг карт асвятляе дзейнасць расійскіх улад па замацаванні за сабой новадалучаных тэрыторый, іх ваенным і адміністрацыйным асваенні. Падрабязна паказаны падзеі вайны 1812 г., паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гг., Першай сусветнай вайны. Змястоўныя раздзелы прысвечаны сацыяльна-эканамічнаму і духоўнаму жыццю. У асобным раздзеле тома адлюстраваны асноўныя вехі грамадска-палітычнага жыцця і нацыянальнага руху. Атлас багата праілюстраваны рэпрадукцыямі карт і планаў, створаных пераважна расійскімі картографамі ў азначаны перыяд. Яны добра асвятляюць працэс картаграфічнага асваення беларускай тэрыторыі новымі ўладамі. Рад этнаграфічных карт дэманструе замацаванне ў навуковай супольнасці ўяўленняў пра адметнасць і межы рассялення беларусаў.

У якасці генеральнай карты было вырашана выкарыстаць „Спецыяльную карту Еўрапейскай Расіі" 1915 г. выдання, якая ўяўляе сабой адну з вяршынь тагачаснай расійскай картаграфіі. У якасці дадатка да яе прыведзены агульны спіс населеных пунктаў беларускіх губерняў пачатку XX ст. з пазначэннем прыналежнасці да валасцей і прывязкай да старонак і квадратаў генеральнай карты. Пры пазначэнні назваў населеных пунктаў выкарыстоўваліся гістарычныя формы, якія замацаваліся ў крыніцах і афіцыйным справаводстве XIX ст. Таму на картах дадзены назвы „Мінск", „Гродна", „Вільна", „Навагрудак" і інш., а не „Менск", „Горадна", „Вільня", „Новагародак", як гэта было пазначана ў другім томе. У раздзеле „Храналогія" ўсе даты прыведзены па старым стылі, міжнародныя пагадненні — па старым і новым.

Асноўны ўнёсак у стварэнне картаграфічнага зместу тома зрабілі супрацоўнікі Інстытута гісторыі НАН Беларусі і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у апрацоўку спіса населеных пунктаў — супрацоўнікі Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі. У рабоце над атласам прымалі ўдзел таксама прадстаўнікі іншых навучальных і архіўных устаноў Беларусі.

Аўтарскі калектыў спадзяецца, што вынікі яго працы будуць карыснымі ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі і жыццём сваіх продкаў.

Рэдакцыйны савет

## СПІС АРГАНІЗАЦЫЙ, УСТАНОЎ І АСОБ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У СТВАРЭННІ ВЯЛІКАГА ГІСТАРЫЧНАГА АТЛАСА БЕЛАРУСІ

**Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі**

### СПЕЦЫЯЛЬНЫ ЗМЕСТ АТЛАСА РАСПРАЦАВАЛІ

Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук Н. В. АНОФРАНКА (с. 88)
Дацэнт кафедры крыніцазнаўства Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук З. В. АНТАНОВІЧ (с. 95)
Дацэнт кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук В. В. ГАРБАЧОВА (с. 44)
Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі Р. У. ЗЯНЮК (с. 89)
Кандыдат гістарычных навук Л. Р. КАЗЛОЎ (с. 106–156)
Загадчык кафедры гісторыі Беларусі Новага і Навейшага часу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук А. Г. КАХАНОЎСКІ (с. 71, 72)
Намеснік дырэктара ліцэя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта В. В. КІРЫЛЕНКА (с. 62–63)
Кандыдат гістарычных навук А. Л. КІШТЫМАЎ (с. 67–70)
Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Новага і Навейшага часу Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, доктар гістарычных навук А. М. ЛУКАШЭВІЧ (с. 16–43, 45–56, 64–66, 78–79, 106–107)
Загадчык кафедры гісторыі Беларусі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, доктар гістарычных навук А. М. ЛЮТЫ (с. 67, 70)
Дацэнт кафедры мытнай справы факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук У. В. ЛЯХОЎСКІ (с. 57)
Загадчык кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, доктар гістарычных навук І. А. МАРЗАЛЮК (с. 73)
Дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, кандыдат гістарычных навук В. Л. НАСЕВІЧ (с. 5, 106–107, 205–349)
Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук Н. Я. НОВІК (с. 34)
Кандыдат гістарычных навук М. А. САКАЛОВА (с. 101)
Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. Э. САКОЛЬЧЫК (с. 48)
Дацэнт кафедры эканамічнай гісторыі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук А. Ф. САМУСІК (с. 86, 87)
Кандыдат гістарычных навук І. В. СОРКІНА (с. 73)
Загадчык аддзела гісторыі беларускай дзяржаўнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. У. УНУЧАК (с. 100–104)
Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. М. ФІЛАТАВА (с. 68, 80, 81, 90, 92–94, 96–98)
Загадчык аддзела гісторыяграфіі і метадаў гістарычнага даследавання Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. В. ЯНОЎСКАЯ (с. 67, 69, 72–77, 91, 93, 95–98)

### У РЭЦЭНЗАВАННІ ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ

**Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова, Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя М. Танка**

**Рэцэнзенты:**

Дацэнт кафедры гісторыі і культуры Беларусі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, кандыдат гістарычных навук Т. В. АПІОК
Прафесар кафедры гісторыі і культуры Беларусі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, кандыдат гістарычных навук П. Ф. ДЗМІТРАЧКОЎ
Загадчык кафедры славянскай гісторыі і метадалогіі гістарычнай навукі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, доктар гістарычных навук А. П. ЖЫТКО
Дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Новага і Навейшага часу гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, кандыдат гістарычных навук В. С. МАКАРЭВІЧ
Загадчык кафедры гісторыі і культуры Беларусі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова, кандыдат гістарычных навук Н. П. ПУРЫШАВА
Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. М. ФІЛАТАВА

Дызайн: В. А. ЛЯХАР
**Рэдагаванне, складванне і падрыхтоўка карт атласа да друку выкананы Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“ Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь**
Дырэктар М. А. ВЕРЗУН, намеснік дырэктара І. М. ШЛЫК, галоўны рэдактар Л. У. КАМПАНЕЦ, загадчык аддзела Т. І. ВАРАЧКІНА
Рэдактары атласа: Г. П. ЛЯХАВА, А. С. МАЛЫШАВА, Т. М. ПРАКАПОВІЧ
Тэхнічны рэдактар Н. М. ШЭВЕЛЬ
Карэктар Н. В. СПІРЫДОНАВА

Да зместу

# ЗМЕСТ



## ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ І АДМІНІСТРАЦЫЙНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ



## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ



## ДУХОЎНА-КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ГРАМАДСТВА



## ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ. БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ



## БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ НА КАРТАХ КАНЦА XVIII–ПАЧАТКУ XX ст.



## БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў ПАЧАТКУ XX ст.



## ГІСТОРЫКА-ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК




# ХРАНАЛОГІЯ
# АД 1772 г. ДА ЛЮТАГА 1917 г.

**1772, 28 мая** Стварэнне Магілёўскай і Пскоўскай губерняў (у склад Пскоўскай уваходзіла пяць правінцый, у т. л. дзве беларускія – Дзвінская і Полацкая). Па новай рысе заходняй мяжы быў заснаваны мытны і пагранічны кантроль

**1772, 25 ліпеня (5 жніўня), 22 жніўня (2 верасня)** Канвенцыі аб першым падзеле Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Да Расійскай імперыі адышла ўсходняя частка Беларусі

**1772** Заснаванне Магілёўскай (замест Беларускай) праваслаўнай епархіі з цэнтрам у Магілёве (1772–1795 гг. у складзе Магілёўскай, Аршанскай, Мсціслаўскай і Рагачоўскай правінцый; 1795–1796 гг. далучаны прыходы Полацкай губерні; з 1803 г. – толькі прыходы Магілёўскай губерні)

**1772–1782** Заснаванне і дзейнасць Беларускага каталіцкага епіскапства з цэнтрам у Магілёве

**1772–1795** Заснаванне Пскоўскай праваслаўнай епархіі з цэнтрам у Пскове (уваходзілі Полацкая, Віцебская і Дзвінская правінцыі)

**1772–1839** Дзейнасць Полацкага ўніяцкага архіепіскапства з цэнтрам у Полацку

**1775,7 лістапада** Прынццё „Учреждения для управления губерний Всероссийской империи". Пачатак ажыццяўлення губернскай рэформы ў Расійскай імперыі

**1776, 24 жніўня** Стварэнне Полацкай губерні з беларускіх правінцый Пскоўскай губерні

**1777, 22 сакавіка** Пачатак другога этапа губернскай рэформы ў Беларусі (скасаванне правінцый і падзел губерняў на паветы: у Магілёўскай – 12, Полацкай – 11). На працягу 1777–1778 гг. рэарганізацыя губерняў была завершана і яны атрымалі назву намесніцтваў

**1777–1780-я** Будаўніцтва палаца П. Румянцава ў Гомелі

**1778** Заснаванне С. Зорычам Шклоўскага шляхецкага вучылішча (з 1799 г. – кадэцкі корпус)

**1781** Заснаванне „приказов общественного призрения" ў Магілёве і Полацку

**1782–1918** Дзейнасць Магілёўскага каталіцкага архіепіскапства з цэнтрам у Магілёве (з 1873 г. – у Санкт-Пецярбургу)

**1793, 12 (23) студзеня** Канвенцыя аб другім падзеле Рэчы Паспалітай паміж Расіяй і Прусіяй. Да Расійскай імперыі адышлі ўкраінскія землі і цэнтральная частка Беларусі

**1793, 13 красавіка** Далучэнне рэшткаў Полацкага ваяводства да Полацкага намесніцтва; землі ад яго мяжы да р. Бярэзіны далучаны да Магілёўскага намесніцтва; на астатняй тэрыторыі стваралася Мінская губерня

**1793–1795** Дзейнасць Мінскай, Ізяслаўскай і Браслаўскай праваслаўнай епархіі з цэнтрам у Слуцку

**1794, 23 снежня (1795, 3 студзеня)** Канвенцыя паміж Расіяй і Аўстрыяй аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай. Да Расійскай імперыі адышла Літва, заходняя частка Беларусі і Украіны

**1795, 3 мая** Указ імператрыцы Кацярыны II аб рэарганізацыі Мінскай губерні ў намесніцтва (у складзе 13 паветаў). Утворана ў верасні 1795 г., пры гэтым Рагачоўскі павет быў уключаны ў склад Чарнігаўскай губерні

**1795, 13 (24) кастрычніка** Канвенцыя аб далучэнні Прусіі да пагаднення паміж Расіяй і Аўстрыяй аб трэцім падзеле Рэчы Паспалітай

**1795, 14 снежня** Указ імператрыцы Кацярыны II аб стварэнні Віленскай і Слонімскай губерняў. Па новай рысе заходняй мяжы быў заснаваны мытны і пагранічны кантроль.

**1795** Заснаванне Мінскай праваслаўнай епархіі (з цэнтрам у Слуцку, з 1799 – у Мінску)

**1795** Заснаванне Пінскага каталіцкага епіскапства з цэнтрам у Пінску

**1795** Заснаванне Інфлянцкага каталіцкага епіскапства з цэнтрам у Вільне

**1796, 8 жніўня** Пачатак рэарганізацыі Віленскай і Слонімскай губерняў у намесніцтвы. Віленскае намесніцтва стваралася ў складзе 11 паветаў, Слонімскае – 8

**1796, 12 снежня** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа: замест пяці намесніцтваў на беларускіх землях былі створаны Беларуская, Мінская і Літоўская губерні

**1796** Заснаванне „приказа общественного призрения" ў Мінску

**1796** 5-я рэвізія ўліку насельніцтва, паводле якой на тэрыторыі Беларусі (прыкладна ў сучасных яе межах) пражывала 2636 тыс. чалавек, з іх 96,5% складала сельскае, 3,5% – гарадское насельніцтва

**1796–1797** Дзейнасць Віленскай асацыяцыі – тайнага патрыятычнага таварыства

**1797, люты** Пачатак будаўніцтва Бярэзінскай воднай сістэмы. (У 1805 г. здадзена ў эксплуатацыю, у 1810–1812 гг. праведзена рэканструкцыя сістэмы)

**1797–1803** Заснаванне і дзейнасць Беларускай праваслаўнай епархіі з цэнтрам у Магілёве

**1798** Заснаванне Віленскага каталіцкага епіскапства з цэнтрам у Вільне

**1798** Заснаванне Жмудскага (Самагіцкага) каталіцкага епіскапства з цэнтрам у Варні (з 1883 г. – у Цельшах)

**1798–1828** Дзейнасць Брэсцкага ўніяцкага епіскапства з цэнтрам у Жыровічах

**1798–1869** Дзейнасць Мінскага каталіцкага епіскапства з цэнтрам у Мінску

**1799** Заснаванне Мінскай і Літоўскай праваслаўнай епархіі з цэнтрам у Мінску

**канец XVIII–1831** Дзейнасць прыватнага музея Сапегаў у Дзярэчыне, Слонімскі павет

**1801, 9 верасня** Указ імператара Аляксандра I аб аднаўленні пяці губерняў і падпарадкаванні памежных тэрыторый ваенным губернатарам. Скасаванне Літоўскай і Беларускай губерняў, падзел іх на Літоўска-Віленскую і Літоўска-Гродзенскую (з 14 жніўня 1802 г.), Беларуска-Віцебскую і Беларуска-Магілёўскую (з 27 лютага 1802 г.) губерні

**1802, 8 верасня** Рэформа дзяржаўнага кіравання ў Расіі. Стварэнне міністэрстваў

**1802** Заснаванне „приказа общественного призрения" ў Віцебску

**1803, 21 снежня** Адкрыццё Мінскай мужчынскай гімназіі

**1803–1806** Будаўніцтва палацавага ансамбля Тышкевічаў у Валожыне

**1803–1832** Адкрыццё і дзейнасць Віленскага ўніверсітэта

**1803–1832** Арганізацыя і дзейнасць Віленскай навучальнай акругі, у якую ўвайшлі навучальныя ўстановы губерняў: Віленскай, Гродзенскай, Мінскай (да 1831 г.), Магілёўскай (да 1826 г.), Віцебскай (да 1826 г.), Падольскай (да 1831 г.), Валынскай (да 1831 г.).

**1803–1917** Арганізацыя і дзейнасць Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі (з 1914 г. Петраградскай), у склад якой у 1826–1829 і 1850–1864 гг. уваходзілі навучальныя ўстановы Віцебскай і Магілёўскай губерняў

**1804, 18 верасня** Заснаванне Свіслацкай мужчынскай гімназіі

**1805, верасень** Праект А. Чартарыйскага па аднаўленні „Польскай дзяржавы" ў час вайны 1805 г. („Пулаўскі план")

**1805** Заснаванне „приказа общественного призрения" ў Гродне

**1807, 25 чэрвеня (7 ліпеня)** Падпісанне Тыльзіцкага мірнага дагавора і саюзнага трактата паміж Расіяй і Францыяй. Стварэнне Княства Варшаўскага і перадача Расіі тэрыторыі Беласточчыны (з 1808 г. – Беластоцкая вобласць)

**1808** Нарадзіўся В. Дунін-Марцінкевіч, паэт і драматург, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры

**1808** Заснаванне „приказа общественного призрения" ў Вільне

**1809, 4 чэрвеня** Праект генерала С. Галіцына аб аднаўленні „Польскага Каралеўства", прапанаваны ў запісцы на імя імператара Аляксандра I

**1809 г., 15 верасня** Заснаванне Магілёўскай мужчынскай гімназіі

**1810, сакавік–1812 г., чэрвень** Правядзенне рэкагнасцыровак заходніх губерняў з мэтай выбару месцаў пад крэпасці, умацаваныя лагеры і „выпраўлення падрабязнай карты Расіі"

**1810, май, чэрвень** Пачатак будаўніцтва крэпасцей у Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс, Латвія) і Бабруйску

**1810–1812** Стварэнне ваеннага пасялення запаснога батальёна Ялецкага мушкецёрнага (пяхотнага) палка ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губерні

**1810–1828** Дзейнасць Віленскага ўніяцкага епіскапства з цэнтрам у Вільне

**1811, май – 1812, люты** „План Агінскага" – прапановы М. Агінскага, Ф. Друцкага-Любецкага і Л. Плятэра па аднаўленні аўтаномнага Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага (запіскі ад 15 мая, 15 кастрычніка, 22 кастрычніка, 1 снежня 1811 г. і праект Канстытуцыі 27 студзеня 1812 г.)

**1811, жнівень – 1812, чэрвень** Будаўніцтва Себежскай воднай камунікацыі (злучала р. Вялікую і р. Заходнюю Дзвіну)

**1812, 16 красавіка** Увядзенне ў Курляндскай, Віленскай, Мінскай, Гродзенскай, Кіеўскай, Валынскай і Падольскай губернях, Беластоцкай і Тарнопальскай вобласцях ваеннага (надзвычайнага) становішча

**1812, 10 (22) чэрвеня** Уручэнне паслом Францыі ў Расіі Ж.А. Ларыстонам упраўляючаму Міністэрствам замежных спраў Расіі А. Салтыкову ноты з абвяшчэннем вайны

**1812, 12 чэрвеня** Пераправа галоўных сіл арміі Напалеона цераз Нёман у раёне Коўна. Пачатак вайны кааліцыі еўрапейскіх краін з Расіяй

**1812, 12 чэрвеня** Абвяшчэнне ваеннага (надзвычайнага) становішча ў Віцебскай і Магілёўскай губернях

**1812, 16 (28) чэрвеня** Сейм Княства Варшаўскага абвясціў сябе „Генеральнай канфедэрацыяй Каралеўства Польскага" і прыняў „Акт аднаўлення і незалежнасці старажытнага Каралеўства Польскага"

**1812, 19 чэрвеня (1 ліпеня)** Загад Напалеона аб стварэнні ў Вільне Камісіі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага, якой былі падпарадкаваны Віленская, Гродзенская, Мінская губерні і Беластоцкая вобласць

**1812, 24 чэрвеня** Напалеонаўскія войскі занялі Мінск

**1812, 27–28 чэрвеня** Баі паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Мірам

**1812, 2 ліпеня** Бой паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Раманавам (сучасная в. Леніна)

**1812, 2 ліпеня** Камісія Часовага ўрада ВКЛ далучылася да Генеральнай канфедэрацыі Каралеўства Польскага. Акт далучэння ўрачыста абвешчаны ў Віленскім кафедральным касцёле

**1812, 8 ліпеня** Напалеонаўскія войскі занялі Магілёў

**1812, 11 ліпеня** Бой паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Салтанаўкай

**1812, 12–15 ліпеня** Баі паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пры Кукавячыне, Астроўне і Віцебску (на р. Лучосе)

**1812, 15 ліпеня** Бой паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Кобрынам

**1812, 18–20 ліпеня** Баі паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пры Якубаве, Клясціцах, Баяршчыне і Галаўшчыне (Клясціцкія баі)

**1812, 31 ліпеня** Гарадзечненская бітва паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі

**1812, 5–6 жніўня** Бітва паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Полацкам (Першая Полацкая бітва)

**1812, 3 верасня** Бой паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Гарбацэвічамі

**1812, 6–7 кастрычніка** Бітва паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Полацкам (Другая Полацкая бітва)

**1812, 8 кастрычніка** Слонімскі бой паміж расійскім атрадам Я. Чапліца і 3-ім гвардзейскім уланскім палком Я. Канопкі

**1812, 19 кастрычніка і 1–2 лістапада** Баі паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Чашнікамі і Смалянцамі (Чашніцкія баі)

**1812, 1 лістапада** Бой паміж расійскімі і напалеонаўскімі войскамі пад Навасверджанем

**1812, 3 лістапада** Бой паміж расійскімі і напалеонаўскімі войскамі пад Койданавам

**1812, 3–4 лістапада** Ваўкавыскі бой паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі

**1812, 4 лістапада** Уступленне расійскіх войскаў 3-й Заходняй арміі ў Мінск

**1812, 9 лістапада** Бой паміж расійскімі і напалеонаўскімі войскамі пад Барысавам. Заняцце войскамі 3-й Заходняй арміі Барысава, у выніку чаго былі перасечаны шляхі адступлення арміі Напалеона

**1812, 14–16 лістапада** Баі паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі ў час пераправы Напалеона цераз Бярэзіну каля вёсак Стары Барысаў, Студзёнка і Брылі. Адыход рэшткаў Арміі Напалеона на Смаргонь і Вільна

**1812, 21 лістапада** Выданне Напалеонам у Маладзечне 29-га бюлетэня, у якім ён прызнаў сваё паражэнне

**1812, 22–23 лістапада** Бой паміж напалеонаўскімі і расійскімі войскамі пад Маладзечнам. Фактычнае спыненне супраціўлення з боку рэшткаў Арміі Напалеона

**1812, 23 лістапада** Перадача Напалеонам у Смаргоні камандавання рэшткамі арміі І. Мюрату і ад'езд імператара ў Парыж

**1812, 28 лістапада** Уступленне расійскіх войскаў у Вільну

**1812, 8 снежня** Уступленне расійскіх войскаў у Гродна

**1812, 19 снежня** Сенацкі указ аб захаванні на тэрыторыі Беларусі ваеннага становішча. Адменена 30 лістапада (12 снежня) 1813 г.

**1812, 12 снежня** Маніфест імператара Аляксандра І аб амністыі жыхарам заходніх губерняў, якія выступілі на баку Напалеона, пры ўмове іх вяртання на радзіму на працягу двух месяцаў

**1812–1820** Адкрыццё і дзейнасць Полацкай езуіцкай акадэміі

**1814, 30 жніўня** Маніфест імператара Аляксандра І аб усеагульнай і безумоўнай амністыі і вяртанні канфіскаваных або секвестраваных маёнткаў жыхарам заходніх губерняў, якія выступілі на баку Напалеона

**1814, 21 верасня (4 кастрычніка)–1815, 9 (21) чэрвеня** Венскі кангрэс, скліканы па ініцыятыве Расіі, Вялікабрытаніі, Аўстрыі і Прусіі

**1815, 9 (21) красавіка** Дагавор аб падзеле „Польшчы" на Венскім кангрэсе. Перадача Расіі большай часткі былога Княства Варшаўскага, з якой у складзе імперыі было ўтворана аўтаномнае Каралеўства Польскае (1815 г.)

**1817** Стварэнне патрыятычнага студэнцкага таварыства філаматаў у Віленскім універсітэце

**1820** Стварэнне патрыятычнага студэнцкага таварыства філарэтаў у Віленскім універсітэце

**1823** Завяршэнне будаўніцтва шашы Брэст–Варшава працягласцю 177 вёрстаў

**1825–1839** Будаўніцтва палаца І. Булгака ў Жылічах

**1828** Заснаванне мастацкай майстэрні В. Ваньковіча (Малая Сляпянка, Мінскі павет)

**1828–1839** Дзейнасць Літоўскай уніяцкай епархіі з цэнтрам у Жыровічах (пазней – у Вільне)

**1828–1839** Дзейнасць Беларускай уніяцкай епархіі з цэнтрам у Полацку

**1829–1850** Дзейнасць Беларускай навучальнай акругі. (З 1829 г. уключала навучальныя ўстановы Віцебскай і Магілёўскай губерняў, з 1831 г. далучаны навучальныя ўстановы Мінскай, 1832 – Гродзенскай, Віленскай губерняў і Беластоцкай вобласці)

**1830, 17 (29) лістапада–1831, 9 (21) кастрычніка** Паўстанне ў Польшчы, Літве і Беларусі

**1830, 1 снежня** Абвяшчэнне Гродзенскай, Віленскай, Падольскай, Валынскай губерняў і Беластоцкай вобласці на ваенным становішчы і падпарадкаванне іх галоўнакамандуючаму Дзеючай арміяй

**1831, 1 студзеня** Адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. у Віцебскай і Магілёўскай губернях

**1831, 8 студзеня–13 красавіка** Падпарадкаванне Мінскай губерні віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму генерал-губернатару

**1831, 13 красавіка** Фарміраванне на тэрыторыі Беларусі Рэзервовай арміі. Падпарадкаванне галоўнакамандуючаму арміяй Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай (з 13 красавіка), Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці (з 10 чэрвеня). Увядзенне ў Мінскай губерні пасады часовага ваеннага губернатара (існавала да студзеня 1832 г.)

**1831, 13 красавіка** Нападзенне атрада паўстанцаў пад кіраўніцтвам М. Ходзькі на Вілейку

**1831, 8 мая** Захоп паўстанцамі Дзісны

**1831, 31 мая** Сутыкненне паўстанцаў пад кіраўніцтвам генерала Д. Хлапоўскага з Віленскім пяхотным палком пад камандаваннем капітана Каморніцкага пад Лідай

**1831, 19 чэрвеня** Штурм Вільны. Паўстанцы страцілі ў бітве каля 2 тыс. чалавек

**1831, 24 ліпеня** Уваход у Навагрудак польскага атрада пад камандаваннем Г. Дэмбінскага

**1831, 31 ліпеня–30 кастрычніка** Падпарадкаванне Мінскай, Віленскай, Гродзенскай губерняў і Беластоцкай вобласці галоўнакамандуючаму Дзеючай арміі

**1832** Заснаванне Полацкай праваслаўнай епархіі з цэнтрам у Полацку

**1834–1839** Заснаванне і дзейнасць Віцебскай настаўніцкай семінарыі

**1835–1918** Дзейнасць Полацкага кадэцкага корпуса

**1837, 26 снежня** Стварэнне Міністэрства дзяржаўных маёмасцей

**1837–1841** Рэформа дзяржаўнай вёскі П. Кісялёва.

**1838** Нарадзіўся Вікенцій Канстанцін (Кастусь) Каліноўскі, кіраўнік паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі і Літве

**1839–1915** Дзейнасць Літоўскай праваслаўнай епархіі ў складзе Віленскай і Гродзенскай (да 1900 г.), Ковенскай (з 1842 г.) губерняў з цэнтрам у Вільне

**1839–1918** Дзейнасць Мінскай праваслаўнай епархіі ў складзе Мінскай губерні з цэнтрам у Мінску

**1840, 18 ліпеня** Ліквідаваны ранейшыя складаныя назвы чатырох губерняў, якія сталі называцца спрошчана: Віцебская, Магілёўская, Віленская і Гродзенская

**1840** Адмена дзеяння Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. у Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях

**1840** Нарадзіўся Ф. Багушэвіч, паэт і ідэолаг беларускага нацыянальнага адраджэння

**1840** Адкрыццё Горы-Горацкай земляробчай школы

**1841** Пачатак працы першага на тэрыторыі Беларусі паравога млына (Магілёў)

**1842, 18 снежня** Адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа: скасаванне Беластоцкай вобласці і ўключэнне яе тэрыторыі ў Гродзенскую губерню; стварэнне Ковенскай губерні з 7 паўночна-заходніх паветаў Віленскай губерні; перадача Навагрудскага павета Гродзенскай губерні ў склад Мінскай; Дзісненскага і Вілейскага (з Мінскай), Лідскага (з Гродзенскай) – Віленскай губерні

**1842** Адкрыццё музея старажытнасцей К. і Я. Тышкевічаў у Лагойску

**1842** Адкрыццё ашчадных кас пры „приказах общественного призрения"

**1842–1863** Дзейнасць Аляксандраўскага (Брэсцкага) кадэцкага корпуса

**1843** Адкрыццё Гродзенскай мужчынскай гімназіі

**1844, 15 красавіка** Прыняцце закона аб правядзенні ў заходніх губернях інвентарнай рэформы. Ажыццяўлялася да 1857 г.

**1840-я –1856** Дзейнасць аматарскага тэатра В. Дуніна-Марцінкевіча

**1848** Пераўтварэнне вышэйшага разраду Горы-Горацкай земляробчай школы ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут



Да зместу

**1849** Завяршэнне будаўніцтва шашы Масква – Брэст працягласцю 1000 вёрстаў

**1850–1917** Аднаўленне і працяг дзейнасці Віленскай навучальнай акругі (падпарадкоўваліся навучальныя ўстановы Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай, з 1864 г. – Віцебскай і Магілёўскай губерняў)

**1850** Адмена мытнай мяжы паміж Царствам Польскім і асноўнай часткай Расійскай імперыі

**1855** Завяршэнне будаўніцтва шашы Віцебск – Смаленск працягласцю 286 вёрстаў

**1856, 17 лютага** Скасаванне генерал-губернатарства з цэнтрам у Віцебску

**1856** Адкрыццё Віленскага музея старажытнасцей

**1860** Заснаванне Дзяржаўнага банка Расійскай імперыі

**1861, 19 лютага** Падпісанне імператарам Аляксандрам II маніфеста аб скасаванні прыгоннага права і „Палажэнняў аб сялянах, якія выходзілі з прыгоннай залежнасці" (складаліся з 17 заканадаўчых актаў)

**1862, вясна–лета** Стварэнне ў Варшаве Цэнтральнага нацыянальнага камітэта (ЦНК) – органа па падрыхтоўцы паўстання

**1862, 6 ліпеня** Стварэнне Віленскай ваеннай акругі ў час правядзення ваенных рэформ 1860–1870-х гг.

**1862, лета** Стварэнне ў Вільне Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК) – органа па падрыхтоўцы паўстання ў Літве і Беларусі

**1862, 15 снежня** Увод у эксплуатацыю першага чыгуначнага ўчастка на тэрыторыі Беларусі Парэчча – Гродна

**1863, 10 (22) студзеня** Пачатак паўстання ў Царстве Польскім

**1863, 18–19 студзеня** Бой паміж расійскімі войскамі і паўстанцамі У. Ціхорскага (Замэчак) каля Рудкі Бельскага павета

**1863, 20 студзеня** Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК) аб'явіў сябе Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі і абнародаваў праграмныя дакументы. Пачатак паўстання ў Літве і Беларусі

**1863, 25–26 студзеня** Бой аб'яднаных сіл паўстанцаў У. Ціхорскага з войскам генерал-лейтэнанта З. Манюкіна пад Сямятычамі Бельскага павета

**1863, 29 студзеня** Бой сіл Р. Рагінскага з расійскімі войскамі пад Нямiравам Брэст-Літоўскага павета

**1863, 1 сакавіка** Указ аб увядзенні абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губернях, Дрысенскім і латгальскіх паветах Віцебскай губерні

**1863, 7 красавіка** Бой паўстанцкага атрада А. Лашкевіча з расійскімі войскамі пад Налібакамі Слонімскага павета

**1863, 14 красавіка** Атрад Л. Плятэра разбіты расійскімі войскамі каля Краслаўкі Дынабургскага павета

**1863, 23 красавіка** Нападзенне атрада Л. Звяждоўскага (Сякера) на Горкі

**1863, 7 мая** Бой паўстанцаў У. Дыбоўскага (Зарэмба) з расійскімі войскамі каля Падбярэззя Барысаўскага павета

**1863, 7 мая** Бой паўстанцаў Стаброўскага (Любіч) з расійскімі войскамі пад Стравенікамі Трокскага павета

**1863, 16 мая** Разгром паўстанцкіх сіл В. Козела расійскім войскам пад камандаваннем палкоўніка Гала пад Владыкамі Вілейскага павета

**1863, 23 мая** Бітва паміж паўстанцамі і расійскімі войскамі каля Мілавідаў Слонімскага павета

**1863, 24 мая** Бой паўстанцаў Г. Чаховіча (Астоя) з расійскімі войскамі пад вёскай Іжа Свянцянскага павета

**1863, 1 чэрвеня** Бой паўстанцаў Ф. Влодэка з расійскімі войскамі каля Корачына на Слонімшчыне

**1863, 4 чэрвеня** Бой атрада А. Духінскага з салдатамі Рэвельскага палка і казакамі падпалкоўніка Блюменталя каля Гуты Пружанскага павета

**1863, 9 чэрвеня** Бой паўстанцаў В. Міладоўскага з расійскімі войскамі каля Крывошына Навагрудскага павета

**1863, 11 чэрвеня** Бой паўстанцаў Р. Траўгута (Кракаўскі) з расійскімі войскамі за Столін Пінскага павета

**1863, 28 чэрвеня** Бой паўстанцкага атрада Л. Звяждоўскага з расійскімі войскамі пад Ляцягамі Чэрыкаўскага павета

**1863, 28–29 чэрвеня** Баі аб'яднаных паўстанцкіх атрадаў В. Міладоўскага і А. Лашкевіча з расійскімі войскамі ў раёне Ігнатава і Драчылава на Навагрудчыне

**1863, чэрвень** Адкрыццё Магілёўскай Марыінскай жаночай гімназіі

**1863, 24 ліпеня** Зацвярджэнне рашэння аб пераводзе Горы-Горацкага земляробчага інстытута ў Санкт-Пецярбург

**1863, 23 верасня** Адкрыццё Мінскай Марыінскай жаночай гімназіі

**1863, 18 кастрычніка** Цыркуляр М. Мураўёва аб прадастаўленні трохдзесяцціннага сямейнага надзела сялянам, якія былі абезземелены ў 1846–1856 гг., і аб вяртанні надзелаў сялянам, абезземеленым пасля 1857 г.

**1863, 2 лістапада** Указ аб увядзенні абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў у Магілёўскай губерні і беларускіх паветах Віцебскай губерні

**1864, 5 сакавіка** Палажэнне аб ільготах і перавагах пры куплі зямлі ў заходніх губернях асобам рускага паходжання

**1864, 10 сакавіка** Пакаранне смерцю К. Каліноўскага на гандлёвай плошчы Лукішкі ў Вільне

**1864, 29 красавіка** Стварэнне губернскіх часовых камітэтаў па будаўніцтве праваслаўных цэркваў

**1864, 10 ліпеня** Забарона яўрэям купляць зямлю па-за гарадамі і мястэчкамі заходніх і паўднёва-заходніх губерняў

**1864, 25 ліпеня** Заснаванне Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі

**1865, люты** Адкрыццё Магілёўскай цэнтральнай школы павітух

**1865,10 снежня** Забарона асобам польскага паходжання купляць і арэндаваць зямлю ў заходніх і паўднёва-заходніх губернях

**1865** Заснаванне аддзялення Дзяржаўнага банка Расійскай імперыі ў Вільне

**1865–1879** Будаўніцтва Мікалаеўскага сабора ў Брэсце

**1866** Пачатак дзейнасці Віленскай „рисовальной" школы пад кіраўніцтвам І. Трутнева

**1867, 16 мая** Палажэнне аб пазямельным упарадкаванні дзяржаўных сялян заходніх губерняў

**1870, 17 лютага** Пачатак чыгуначнага руху на ўчастку Брэст–Цярэспаль

**1871, 16 лістапада** Завяршэнне будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі: адкрыццё рэгулярнага руху на ўчастку Смаленск–Орша–Барысаў–Мінск–Брэст

**1871–1897** Заснаванне і дзейнасць Мінскага вучылішча арганістаў

**1872, 18 студзеня** Заснаванне Полацкай настаўніцкай семінарыі

**1872** Увядзенне ў Беларусі міравых судоў

**1872** Адкрыццё рэальнага вучылішча ў Пінску

**1873, 14 студзеня** Увядзенне у эксплуатацыю ўчастка Мінск – Нова-Вільна Ландварава-Роменскай чыгункі

**1873, жнівень** Пачатак пасажырскага і таварнага руху на лініі Брэст–Бярдзічаў–Кіеў

**1873** Пачатак дзейнасці Мінскага камерцыйнага банка – найбуйнейшага прыватнага банка Беларусі

**1874, 12 лютага** Афіцыйнае адкрыццё водаправода ў Мінску

**1874, 1 ліпеня** Адкрыццё Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі

**1875, 14 студзеня** Адкрыццё Магілёўскай цэнтральнай фельчарскай школы

**1876, 29 мая** Заснаванне Мар'інагорскай ніжэйшай сельскагаспадарчай школы

**1876, 1 верасня** Стварэнне Лібава-Роменскай чыгункі ў выніку канчатковага пераходу Лібаўскай чыгункі ў падпарадкаванне Ландварава-Роменскай чыгункі

**1876, 21 верасня** Адкрыццё Свіслацкай настаўніцкай семінарыі

**1876, 1 кастрычніка** Адкрыццё Гродзенскай школы павітух

**1878, 20 кастрычніка** Адкрыццё Гомельскага тэхнічнага чыгуначнага вучылішча

**1880, 1 ліпеня** Заснаванне рэальнага вучылішча ў Мінску

**1881** Заснаванне аддзялення Дзяржаўнага банка Расійскай імперыі ў Мінску

**1883** Заснаванне аддзялення Дзяржаўнага банка Расійскай імперыі ў Магілёве

**1883** Заснаванне аддзялення Дзяржаўнага банка Расійскай імперыі ў Віцебску

**1883** Пачатак дзейнасці Сялянскага пазямельнага банка

**1884** Выданне беларускімі народнікамі двух нумароў нелегальнага часопіса „Гомон" у Санкт-Пецярбургу

**1884** Заснаванне аддзялення Дзяржаўнага банка Расійскай імперыі ў Гродне

**1885, 1 ліпеня** Адкрыццё рэальнага вучылішча ў Магілёве

**1885** Пачатак дзейнасці Дваранскага зямельнага банка

**1886** Стварэнне Палескай чыгункі з ліній: Жабінка–Пінск, Вільня–Роўна, Лунінец–Пінск, Баранавічы–Беласток, Лунінец–Гомель, Гомель–Бранск першай у Беларусі

**1892, 22 мая** Пачатак работы конкі ў Мінску (першай у Беларусі конна - чыгуначнай дарогі)

**1895, 1 студзеня** Заснаванне Рыга-Арлоўскай чыгункі ў выніку зліцця чыгунак: Рыга-Дзвінскай, Дзвінска-Віцебскай, Віцебска-Арлоўскай з Жукава-Людзінкоўскай веткай, Мітаўскай, Рыга-Бальдэраскай

**1895** Увядзенне ў эксплуатацыю першай гарадской электрастанцыі ў Мінску

**1895–1897** Фінансавая рэформа С. Вітэ

**1896, май** З'езд прадстаўнікоў Мінскай, Віленскай і Смаргонскай рабочых арганізацый – утварэнне Рабочага саюза Літвы (РСЛ)

**1896, 26 верасня** У Мінску адкрыта першая ў Беларусі тэлефонная станцыя агульнага карыстання

**1897** Першы Усеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі. Паводле яго ў Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай губернях пражывала 8 518,2 тыс. чал. (у т. л. у межах 35 паветаў – 6 493,6 тыс. чал.)

**1897, верасень** Першы з'езд прадстаўнікоў яўрэйскіх сацыял-дэмакратычных арганізацый у Вільне. Утварэнне Усеагульнага яўрэйскага рабочага саюза ў Літве, Польшчы і Расіі (Бунд)

**1897, лістапад** Заснаванне ў Віцебску прыватнай мастацкай школы Ю. Пэна

**1898, 1–3 сакавіка** Першы з'езд сацыял-дэмакратычных арганізацый Расіі ў Мінску. Стварэнне Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП)

**1898, 30 чэрвеня** Адкрыццё ў Віцебску першага ў Беларусі трамвайнага руху

**1898** Пачатак дзейнасці таварыства аматараў прыгожых мастацтваў у Мінску

**1899** Пачатак дзейнасці мастацкай школы ў Мінску

**1900, студзень** З'езд прадстаўнікоў Рабочага саюза Літвы ў Мінску, аб'яднанне яго з сацыял-дэмакратыяй Каралеўства Польскага (з 1893 г.) у новую партыю – Сацыял-дэмакратыю Каралеўства Польскага і Літвы (СДКПіЛ)

**1900** Заснаванне Гродзенскай праваслаўнай епархіі

**1901, 8 ліпеня** Заснаванне Мінскага мужчынскага камерцыйнага вучылішча

**1901, канец–1902, пачатак** Стварэнне Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР, эсэры)

**1901–1903** Дзейнасць у Мінску Яўрэйскай незалежнай рабочай партыі (ЯНРП), створанай прыхільнікамі С. Зубатава

**1902, 24 снежня** Адкрыццё пасажырскага і таварнага руху па ўсёй лініі Рыга-Арлоўскай чыгункі

**1902** Стварэнне Польскай сацыялістычнай партыі ў Літве

**1902** Стварэнне братамі І. і А. Луцкевічамі і В. Іваноўскім „Круга беларускай народнай прасветы і культуры" ў Санкт-Пецярбургу

**1903 (1904)** Стварэнне Беларускай Сацыялістычнай Грамады

**1903–1922** Выданне трохтомніка Я. Карскага „Беларусы"

**1904, студзень** Стварэнне Палескага камітэта РСДРП

**1904, сакавік** Стварэнне Паўночна-Заходняга камітэта РСДРП

**1904** Зацвярджэнне статута Мінскай лясной біржы

**1905, 9 студзеня** „Крывавая нядзеля" (расстрэл шматтысячнага мірнага шэсця працоўных у Санкт-Пецярбургу)

**1905, 1 лютага** Забастоўка рабочых майстэрняў Мінскага аддзялення Маскоўска-Брэсцкай чыгункі

**1905, 8 лютага** Забастоўка рабочых майстэрняў Лібава-Роменскай чыгункі

**1905, 6 жніўня** Маніфест імператара Мікалая II аб скліканні ў Расіі законадарадчай Дзяржаўнай думы (т. зв. „Булыгінская дума")

**1905, кастрычнік** Усерасійская палітычная стачка

**1905, кастрычнік** Стварэнне Канстытуцыйна-дэмакратычнай партыі (кадэты)

**1905, 17 кастрычніка** Маніфест імператара Мікалая II аб стварэнні парламента – Дзяржаўнай думы з заканадаўчымі паўнамоцтвамі, правам удзелу ў выбарах усіх слаёў насельніцтва. Увядзенне палітычных свабод – свабоды слова, друку, саюзаў

**1905, 18 кастрычніка** Курлоўскі расстрэл на Прывакзальнай плошчы ў Мінску 20-тысячнага мітынгу працоўных. Атрымаў назву па прозвішчы мінскага губернатара П. Курлова

**1905, лістапад** Стварэнне партыі „Саюз 17 кастрычніка" (акцябрысты) – партыі буйной буржуазіі і памешчыкаў

**1905, 11 снежня** Апублікаванне закона аб выбарах у I Дзяржаўную думу

**1905, снежань** Усерасійская палітычная стачка

**1906, 4 сакавіка** Выданне закона аб легалізацыі прафсаюзаў

**1906, 27 красавіка – 8 ліпеня** Дзейнасць I Дзяржаўнай думы

**1906, 1 верасня** Выхад у Вільне першага нумара газеты „Наша Доля"

**1906, 9 лістапада** Указ імператара Мікалая II аб праве выхаду сялян з абшчыны і замацаванні зямлі ў іх асабістую ўласнасць (набыў моц закона 14 чэрвеня 1910 г.). Пачатак правядзення сталыпінскай аграрнай рэформы

**1906, 10 лістапада** Выхад у Вільне першага нумара газеты „Наша Ніва"

**1906** Пачатак дзейнасці Гродзенска-Лібаўскай гандлёва-прамысловай біржавай арцелі

**1906** Заснаванне ў Санкт-Пецярбургу выдавецкай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца"

**1907, 20 лютага–2 чэрвеня** Дзейнасць II Дзяржаўнай думы

**1907, 1 лістапада–1912, 9 чэрвеня** Дзейнасць III Дзяржаўнай думы

**1907** Заснаванне ў Вільне выдавецтва „Наша Ніва"

**1907–1913** Дзейнасць першай беларускай тэатральнай трупы І. Буйніцкага

**1909, 1 ліпеня** Заснаванне Рагачоўскай настаўніцкай семінарыі

**1910, 1 ліпеня** Адкрыццё Віцебскага настаўніцкага інстытута

**1910, 10 лютага** Адкрыццё конкі ў Магілёве

**1910** Выданне ў Вільне „Кароткай гісторыі Беларусі" В. Ластоўскага – першай кнігі па айчыннай гісторыі, напісанай на беларускай мове з беларускіх нацыянальных пазіцый

**1911, 14 сакавіка** Увядзенне выбарных земстваў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях

**1911, 1 ліпеня** Заснаванне Аршанскай жаночай настаўніцкай семінарыі

**1911** Адкрыццё аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута ў Віцебску

**1911–1915** Дзейнасць Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільне

**1912, 27 студзеня** Першая пастаноўка п'есы Я. Купалы „Паўлінка" ў Вільне

**1912, 1 ліпеня** Скасаванне Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатарства

**1912** Пачатак дзейнасці Віцебскай гандлёвай біржы

**1912, 15 лістапада–1917, 6 кастрычніка** Дзейнасць IV Дзяржаўнай думы

**1913, 1 ліпеня** Адкрыццё Магілёўскага настаўніцкага інстытута

**1913** Заснаванне ў Вільне Беларускага выдавецкага таварыства

**1914, 1 ліпеня** Заснаванне Мінскага настаўніцкага інстытута

**1914, 1 ліпеня** Заснаванне Барысаўскай жаночай настаўніцкай семінарыі

**1914, 19 ліпеня** Абвяшчэнне Германіяй вайны Расіі. Пачатак Першай сусветнай вайны. Увядзенне ваеннага становішча на тэрыторыі Беларусі

**1914, 2 жніўня** Размяшчэнне ў Баранавічах Стаўкі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага – вышэйшага палявога органа кіравання расійскімі войскамі

**1915, 8 жніўня** Стаўка Вярхоўнага Галоўнакамандуючага перанесена ў Магілёў

**1915, 26 жніўня–19 верасня** Наступальная аперацыя германскай арміі „Свянцянскі прарыў"

**1915, кастрычнік** Стабілізацыя расійска-германскага фронту па лініі Дзвінск–Паставы–Баранавічы–Пінск

**1915** Стварэнне ў Вільне дабрачыннага Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны на чале з А. і І. Луцкевічамі і В. Ластоўскім

**1915** Стварэнне ў Вільне Беларускага народнага камітэта (БНК) на чале з А. Луцкевічам – каардынацыйнага палітычнага цэнтра беларускага руху на акупіраванай германскімі войскамі тэрыторыі

**1915** Заснаванне Гомельскай настаўніцкай семінарыі

**1916, сакавік** Наступальная аперацыя расійскіх войскаў у раёне возера Нарач

**1916, 1 чэрвеня** Заснаванне Бабруйскай жаночай настаўніцкай семінарыі

**1916, чэрвень – ліпень** Наступальная аперацыя расійскіх войскаў Заходняга фронту ў раёне Баранавіч

**1916, 15 кастрычніка** Пастаноўка ў Вільне першага спектакля беларускага тэатра пад кіраўніцтвам Ф. Аляхновіча

**1917, 27 лютага** Перамога Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі, звяржэнне самадзяржаўя



Да зместу

## ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ І АДМІНІСТРАЦЫЙНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ

Падзелы Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795), рэвалюцыя ў Францыі і напалеонаўскія войны змянілі геапалітычнае становішча ў Еўропе. У гэтых ўмовах адной з галоўных еўрапейскіх праблем XIX – пачатку XX ст. стала пытанне аб аднаўленні незалежнай дзяржаўнасці на землях былой Рэчы Паспалітай, у т. л. і на беларускіх землях. Наколькі вострай была гэтая праблема сведчыць той факт, што вакол яе разгортваліся пастаянныя палітычныя і ўзброеныя канфлікты.

У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай беларуска-літоўскія землі пераўтварыліся ў фарпост Расійскай імперыі на захадзе. З канца XVIII ст. тут праходзіла новая дзяржаўная мяжа. Суседзямі Расіі сталі Прускае каралеўства і Аўстрыйская імперыя – уплывовыя і магутныя дзяржавы. Таму расійскія ўлады шмат увагі надавалі крапасному прыкрыццю новай заходняй мяжы, а ваенныя інжынеры распрацоўвалі праекты па стварэнні фартыфікацыйных ліній абароны.

Мерапрыемствы расійскага ўрада на беларускіх землях у канцы XVIII ст. мелі супярэчлівы характар. Першапачаткова абвясціўшы, што да імперыі далучаны „рускія землі“, з цягам часу ўрад зразумеў, што гэтыя тэрыторыі маюць істотныя адрозненні ад вялікарускіх губерняў. Палітыка ўрада Расійскай імперыі была накіравана на нівеліроўку існуючых асаблівасцей (у заканадаўчым, саслоўным, эканамічным, канфесійным аспектах) далучаных тэрыторый.

Пры вызначэнні межаў новых губерняў (намесніцтваў) – Пскоўскай (1772–1776), Магілёўскай (з 1772 г.), Полацкай (1776–1796), Мінскай (з 1793 г.), Слонімскай (1795–1796), Віленскай (1795–1796) – урад кіраваўся ўласнай палітычнай і ваеннай мэтазгоднасцю. Гэта прывяло да таго, што ў часы імператрыцы Кацярыны II (1762–1796) тэрыторыя Беларусі заставалася падзеленай на часткі паміж генерал-губернатарствамі з цэнтрамі ў Магілёве, Вільне і Камянцы-Падольскім.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай новаўтвораныя губерні першапачаткова падзяляліся на правінцыі: у Магілёўскай іх было 4, у Пскоўскай – 5 (у т. л. 2 беларускія – Дзвінская і Полацкая, якія мелі свае традыцыі кіравання). Па новай рысе заходняй мяжы быў заснаваны мытны і пагранічны кантроль.

Пасля зацвярджэння ў лістападзе 1775 г. „Учреждения для управления губерний Всероссийской империи“ ў Расіі пачала ажыццяўляцца губернская рэформа. Новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел вызначаўся ў залежнасці ад колькасці насельніцтва. Тэрытарыяльныя адзінкі з насельніцтвам ад 300 да 400 тыс. рэвізскіх душ складалі губерню, ад 20 да 30 тыс. душ – павет. Падзел на правінцыі касаваўся. Некалькі губерняў маглі аб’ядноўвацца ў намесніцтва.

Рэалізацыя губернскай рэформы на беларускіх землях пачалася летам 1776 г. і ажыццяўлялася ў два этапы. Спачатку, 24 жніўня 1776 г. са складу Пскоўскай губерні ў асобную Полацкую губерню былі вылучаны беларускія правінцыі. Магілёўская губерня засталася ў ранейшых межах. 22 сакавіка 1777 г. пачаўся другі этап рэформы – ранейшыя правінцыі былі скасаваны, а замест іх уводзіліся паветы (у Магілёўскай губерні – 12, у Полацкай – 11). На працягу 1777–1778 гг. рэарганізацыя губерняў была завершана і яны атрымалі назву намесніцтваў.

У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) да Расійскай імперыі адышлі ўкраінскія землі і цэнтральная частка Беларусі. 13 красавіка 1793 г. рэшткі Полацкага ваяводства былі далучаны да Полацкага намесніцтва, а ўсе землі ад яго мяжы да р. Бярэзіны – да Магілёўскага; Мазырскі павет быў уключаны ў склад Чарнігаўскай губерні, а на астатняй тэрыторыі стваралася Мінская губерня. Але працэс фарміравання Мінскай губерні быў перапынены паўстаннем 1794 г. Урад вярнуўся да арганізацыі кіравання ў цэнтральнай частцы Беларусі толькі 3 мая 1795 г., калі Кацярына II загадала рэарганізаваць губерню ў намесніцтва. Мінскае намесніцтва ў складзе 13 паветаў было абвешчана ў верасні 1795 г., пры гэтым Рагачоўскі павет быў уключаны ў склад Чарнігаўскай губерні. У такім выглядзе яно праіснавала да снежня 1796 г.

Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) да Расійскай імперыі адышлі літоўскія, заходнебеларускія і заходнеўкраінскія землі. 14 снежня 1795 г. Кацярына II выдала ўказ аб падзеле расійскай часткі на Віленскую і Слонімскую губерні. Па знешняй мяжы новых губерняў быў заснаваны мытны і пагранічны кантроль. 8 жніўня 1796 г. пачалася рэарганізацыя гэтых губерняў у намесніцтвы. Віленскае намесніцтва стваралася ў складзе 11 паветаў, Слонімскае – 8.

Галоўная роля ў новай сістэме кіравання адводзілася інстытуту генерал-губернатарства (намесніцтва). Генерал-губернатар лічыўся прадстаўніком імператара, узначальваў мясцовую адміністрацыю падпарадкаваных яму тэрыторый, камандаваў войскамі, выконваў кантрольныя функцыі. Справы кіравання канцэнтраваліся ў руках губернатара (правіцеля).

Імператар Павел I (1796–1801) пайшоў на частковае аднаўленне на гэтых землях элементаў сістэмы кіравання, якая існавала ў часы Рэчы Паспалітай. Ён скасаваў кацярынінскі інстытут генерал-губернатараў і аднавіў дзейнасць Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. 12 снежня 1796 г. замест пяці намесніцтваў былі створаны Беларуская, Мінская і Літоўская губерні. Улада стала засяроджвацца ў руках грамадзянскіх губернатараў, якія працавалі пад наглядам ваенных губернатараў. Звычайна на гэтыя пасады прызначаліся генералы, якія камандавалі вайсковымі інспекцыямі (правобраз ваенных акруг) на тэрыторыі падначаленых губерняў. Беларускія землі ў 1796–1801 гг. уваходзілі ў склад Смаленскай, Літоўскай і Брэсцкай ваенных інспекцый. Часам у руках адной асобы канцэнтравалася ваенная і грамадзянская ўлада, што яшчэ больш ускладняла сістэму кіравання.

У пачатку XIX ст. імператарам Аляксандрам I (1801–1825) была праведзена новая адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэформа, якая амаль на 40 год вызначыла тэрытарыяльны склад беларускіх зямель. Згодна з указам ад 9 верасня 1801 г. быў адноўлены шэраг губерняў, а памежныя тэрыторыі падпарадкаваны ваенным губернатарам. На беларускіх землях стваралася пяць губерняў: Мінская (10 паветаў), Віленская (адноўлена 28 жніўня 1802 г., 11 паветаў), Гродзенская (28 жніўня 1802 г., 8 паветаў), Віцебская (27 лютага 1802 г., 12 паветаў) і Магілёўская (27 лютага 1802 г., 12 паветаў). У той жа час пры вызначэнні межаў ваенных губернатарстваў урад кіраваўся палітычнай і ваеннай мэтазгоднасцю. Гэта прывяло да таго, што з 1801 г. тэрыторыя Беларусі заставалася падзеленай паміж ваеннымі губернатарствамі: беларускім (Віцебская і Магілёўская губерні), літоўскім (Віленская і Гродзенская губерні) і кіеўскім (Мінская і Кіеўская губерні). Новыя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі атрымалі складаныя назвы: Літоўска-Віленская, Літоўска-Гродзенская (т. зв. „Литва“), Беларуска-Віцебская і Беларуска-Магілёўская („Белоруссия“) губерні. Мінская губерня афіцыйна не была аднесена ні да „Белоруссии“, ні да „Литвы“.

У пачатку XIX ст. вострае расійска-французскае эканамічнае і палітычнае супрацьстаянне прывяло да шэрагу крывавых войнаў (1805, 1806–1807, 1809, 1812–1815), у час якіх неаднаразова ўзнікалі розныя праекты аднаўлення ранейшай дзяржаўнасці на беларускіх землях („Пулаўскі план“ А. Чартарыйскага 1805 г., план С. Нямцэвіча 1806 г., праект С. Ф. Галіцына 1809 г.). У гэты перыяд заходнія губерні станавіліся месцам канцэнтрацыі расійскіх войскаў, правіянцкіх, фуражных, артылерыйскіх і іншых вайсковых запасаў, людскіх рэзерваў, што істотна ўскладняла іх сацыяльна-эканамічнае становішча.

Пасля падпісання Тыльзіцкага міру з Францыяй (чэрвень 1807 г.) да Расійскай імперыі адышла пруская частка былых зямель Рэчы Паспалітай, на якіх у 1808 г. была ўтворана Беластоцкая вобласць (4 паветы). Спецыяльнае палажэнне, якім кіравалася вобласць, улічвала прававыя нормы Расійскай імперыі, Прусіі, а таксама былых Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

Княства Варшаўскае, прадугледжанае Тыльзіцкім пагадненнем, было ўтворана імператарам Напалеонам I у дынастычнай уніі з Саксонскім каралеўствам. Пасля вайны 1809 г. з Аўстрыяй, у якой Расія выступала на баку напалеонаўскай Францыі, тэрыторыя Княства Варшаўскага значна пашырылася. І польская, па-сутнасці, дзяржава стала аказваць значны ўплыў на палітычнае становішча беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі.

Пачынаючы з сакавіка 1810 г. на тэрыторыі Беларусі разгарнуліся шматлікія рэкагнасцыроўкі, працы па картаграфаванні і ваенна-інжынерным уладкаванні будучага тэатра вайны. У першую чаргу вывучаліся раёны ўздоўж Заходняй Дзвіны, Дняпра і Бярэзіны, дзе планавалася стварыць асноўную лінію абароны. У гэты ж час пачалося будаўніцтва крэпасцей у Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс, Латвія) і Бабруйску, умацаванняў у Барысаве, Рагачове, Дрысе (цяпер – Верхнядзвінск) і інш. Вялося ўладкаванне сухапутных і водных шляхоў зносін, ствараліся правіянцкія запасы, распрацоўваліся планы ваенных дзеянняў. У памежных губернях актыўна дзейнічала расійская разведка і контрразведка.

З мэтаю забеспячэння расійскай арміі харчаваннем і фуражом 16 красавіка 1812 г. на беларускіх землях упершыню было ўведзена ваеннае становішча. Памежныя губерні падзяляліся на дзве ваенныя акругі. Курляндская, Віленская, Мінская, Гродзенская губерні і Беластоцкая вобласць прылічваліся да 1-й ваеннай акругі 1-й Заходняй арміі, а ўсе астатнія – да 2-й ваеннай акругі 2-й Заходняй арміі. Віцебская і Магілёўская губерні былі абвешчаны на надзвычайным становішчы толькі 12 чэрвеня 1812 г., з пачаткам вайны. З гэтага часу Віцебская губерня прылічвалася да 1-й ваеннай акругі, а Магілёўская – да 2-й акругі.

Палітычнае супрацьстаянне з Францыяй прывяло да з’яўлення новых праектаў аўтаноміі на беларускіх землях. Аляксандр I неаднаразова ініцыяваў праекты стварэння пад расійскім пратэктаратарам Каралеўства Польскага (праект А. Чартарыйскага, канец 1810 – пачатак 1811 г.) ці Вялікага Княства Літоўскага (праект М. К. Агінскага, сярэдзіна 1811 – пачатак 1812 г.). Але на дадзеным этапе расійскі ўрад разглядаў іх толькі як палітычную частку ваенна-стратэгічных планаў. Аднаўленне Каралеўства Польскага разглядалася Аляксандрам I з мэтай толькі наступальнай вайны, а Вялікага Княства Літоўскага – вайны абарончай.

Але аўтаномія так і не была прадастаўлена. Ігнараванне расійскімі ўладамі права беларускага рэгіёна на хаця б абмежаванае самакіраванне, у той час як іншыя тэрыторыі – Вялікае Княства Фінляндскае – яго атрымалі, вяло да росту сярод насельніцтва прафранцузскіх настрояў. На беларускіх землях распаўсюдзілася ідэя аб неабходнасці аднаўлення Рэчы Паспалітай. Менавіта таму ў 1812 г. ў час напалеонаўскага нашэсця на Расію частка мясцовага насельніцтва аказала падтрымку імператару французаў, які ў якасці палітычнай альтэрнатывы прапанаваў варыянт аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага пад сваім пратэктаратам. Але стаўка на шляхту і магнатаў Беларусі і Літвы, якім за незлічоныя ахвяраванні былі дараваны толькі дзяржаўна-адміністрацыйныя структуры ў выглядзе Камісіі часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага (1 ліпеня 1812 г.), не прынесла чакаемых вынікаў. Многія з памешчыкаў аказаліся не гатовымі ахвяраваць сваім жыццём і маёмасцю на карысць справы адраджэння Айчыны.

У 1812 г. беларускія землі сталі арэнай шматлікіх баёў. У выніку Кобрынскага бою расійскія войскі атрымалі першую перамогу. Клясціцкія баі спынілі рух напалеонаўскіх войскаў на Санкт-Пецярбург, а бітва пад Салтанаўкай дазволіла расійскім войскам злучыцца пад Смаленскам. У лістападзе 1812 г. рэшткі арміі Напалеона былі знішчаны ў час пераправы цераз Бярэзіну. Ваенныя дзеянні прывялі да велізарных матэрыяльных страт насельніцтва (больш за 160 млн рублёў асігнацыямі). Пасля разгрому напалеонаўскай арміі магнаты і шляхта, каталіцкае і ўніяцкае духавенства прынеслі пакаянне, атрымалі амністыю і захавалі свае правы і прывілеі.

Рашэнні Венскага кангрэсу (1814–1815) прывялі да перадачы Расіі большай часткі Княства Варшаўскага, з якой у складзе імперыі было ўтворана аўтаномнае Каралеўства Польскае (1815). Рэвалюцыйныя ўзрушэнні пачатку 1820-х гг. у Еўропе пахавалі надзеі на аўтаномію беларуска-літоўскага краю, паколькі ў расійскіх урадавых колах сталі пераважаць кансерватыўныя настроі. Любыя нацыянальныя праявы ў заходніх губернях разглядаліся як палітычны сепаратызм. Усё гэта прывяло да складвання на тэрыторыі Літвы і Беларусі спецыфічнага, польскага па змесце і формах, нацыянальна-вызваленчага руху.

Для ўмацнення палітычнага кантролю на беларускіх землях у 1822 г. быў адноўлены інстытут генерал-губернатарства і абмежаваны правы грамадзянскіх губернатараў. Усходняя частка Беларусі – Віцебская і Магілёўская губерні (разам са Смаленскай і Калужскай) утварылі генерал-губернатарства з цэнтрам у Віцебску. Віленская, Гродзенская, Мінская губерні (разам з Валынскай і Падольскай) і Беластоцкая вобласць адышлі пад уладу цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча па грамадзянскай частцы (меў рэзідэнцыю ў Варшаве). 29 чэрвеня 1822 г. Аляксандр I надаў свайму брату як камандуючаму Польскай арміяй і Асобным Літоўскім корпусам (1817–1831) вышэйшую ўладу над заходнімі губернямі з правам выносіць смярот-



Да змесТу

ныя прысуды.

Яшчэ большыя абмежаванні чакалі беларускія губерні ў час праўлення імператара Мікалая I (1825—1855). У гэтых умовах моладзь беларускіх, літоўскіх і польскіх зямель пачала аб'ядноўвацца ў тайныя таварыствы. У пераважнай ступені яны прайшлі шлях ад навукова-асветніцкай і маральна-этычнай дзейнасці да рэвалюцыйнай. Канчатковай іх мэтай было аднаўленне суверэннай Рэчы Паспалітай ў межах 1772 г.

Спроба ўзброеным шляхам дабіцца незалежнасці для адзінай дзяржавы палякаў, беларусаў і літоўцаў была зроблена ў 1830—1831 гг. Але яна аказалася няўдалай. Паўстанне 1830—1831 гг. яшчэ больш абвастрыла сацыяльныя і нацыянальныя праблемы грамадства беларуска-літоўскіх губерняў. У той жа час выступленне не прывяло да выпрацоўкі самастойнай палітычнай праграмы па гэтых пытаннях. Таму ў час паўстання 1830—1831 гг. на першае месца выйшла імкненне да поўнай незалежнасці Каралеўства Польскага з далучанымі да яго беларуска-літоўскімі губернямі. Не пераадолелі паўстанцы і сацыяльнага кансерватызму: праблема вызвалення сялянства — асноўнай часткі этнічных беларусаў — ад прыгону імі амаль не ўздымалася. Таму паўстанне не было падтрымана шырокімі сялянскімі масамі.

У час паўстання 1830—1831 гг. неаднаразова мянялася адміністрацыйнае і ваеннае падпарадкаванне беларускіх зямель. 1 снежня 1830 г. Гродзенская, Віленская губерні (разам з Падольскай і Валынскай) і Беластоцкая вобласць былі аб'яўлены на ваенным становішчы і падначалены галоўнакамандаючаму Дзеючай арміяй. Мінская губерня ў час паўстання пераходзіла з падпарадкавання віцебскага, магілёўскага і смаленскага генерал-губернатара (8 студзеня — 13 красавіка 1831 г.) да галоўнакамандуючых Рэзервовай (13 красавіка — 31 ліпеня) і Дзеючай (31 ліпеня — 30 кастрычніка 1831 г.) арміямі. У гэтых умовах у Мінскай губерні была ўведзена пасада часовага ваеннага губернатара (8 красавіка 1831 — 22 студзеня 1832 г.).

Пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. беларуска-літоўскія землі былі падпарадкаваны двум генерал-губернатарскім цэнтрам — у Вільне (Віленская, Гродзенская, Мінская губерні і Беластоцкая вобласць) і Віцебску (Віцебская, Магілёўская губерні разам са Смаленскай і Калужскай). Вышэйшая ўлада на тэрыторыі Беларусі ўвесь час знаходзілася ў руках ваенных. У 1831—1840 гг. на беларускіх землях на ўсіх узроўнях — у губернях, паветах і гарадах — была ўведзена расійская сістэма кіравання і судаводства, спынена дзейнасць Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Указам ад 18 ліпеня 1840 г. былі ліквідаваны і ранейшыя складаныя назвы чатырох губерняў, якія загадвалася называць спрошчана: Віцебская, Магілёўская, Віленская і Гродзенская губерні. З гэтага часу ў дачыненні да беларуска-літоўскіх губерняў улады ўсё часцей сталі выкарыстоўваць не этнічную, а геаграфічную назву „Северо-Западный край".

Адміністрацыйна-тэрытарыяльная рэарганізацыя на беларускіх землях была скончана 18 снежня 1842 г. Імператарскім указам прадугледжвалася скасаванне Беластоцкай вобласці, аб'яднанне яе тэрыторыі з Гродзенскай губерняй і стварэнне Ковенскай губерні з 7 паўночна-заходніх паветаў Віленскай губерні. Пры гэтым Навагрудскі павет Гродзенскай губерні перадаваўся ў склад Мінскай губерні, а Дзісненскі і Вілейскі — з Мінскай і Лідскі з Гродзенскай губерняў — у Віленскую. Пераўтвораныя губерні складаліся: Віленская — з 7 паветаў, Гродзенская і Мінская — з 9. У Магілёўскай губерні быў скасаваны Бабінавіцкі павет. І толькі межы Віцебскай губерні засталіся нязменнымі. На гэтым адміністрацыйна-тэрытарыяльнае пераўладкаванне ў першай палове XIX ст. спынілася.

У час Крымскай вайны (1853—1856) у заходніх губернях у чарговы раз было ўведзена ваеннае становішча. Але паколькі ваенных дзеянняў у гэтым рэгіёне не вялося, істотных змен у сістэме кіравання не адбылося: улада па-ранейшаму заставалася ў руках генерал-губернатараў. Між тым у гэты час быў узмоцнены палітычны і жандарскі кантроль. Скасавана ваеннае становішча было толькі ў пачатку 1856 г.

У пачатку праўлення імператара Аляксандра II (1855—1881) было скасавана генерал-губернатарства з цэнтрам у Віцебску (17 лютага 1856 г.). Але з пачаткам ажыццяўлення аграрнай рэформы 1861 г. і ў сувязі з антырасійскімі выступленнямі ў Польшчы (з 1861 г.) на беларускіх землях зноў стала ўводзіцца ваеннае становішча (захоўвалася часткова да 1870 г.), і было заснавана часовае Мінскае ваеннае губернатарства (5 жніўня 1861 — 16 жніўня 1862, 12 мая 1863 — 2 ліпеня 1864 г.). З пачаткам паўстання 1863—1864 гг. усе беларускія губерні былі падпарадкаваны віленскаму генерал-губернатару, які атрымаў надзвычайныя паўнамоцтвы. Адначасова з утварэннем 6 ліпеня 1862 г. Віленскай ваеннай акругі ён стаў і камандуючым яе войскамі.

Паўстанне 1863—1864 гг. было накіравана на аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772 г. Сярод удзельнікаў выступлення пераважала дробнае і беззямельнае дваранства, шляхта, што спазнала „разбор", а значную колькасць паўстанцкіх атрадаў узначальвалі былыя афіцэры расійскай арміі. Але яны не здолелі прыцягнуць на свой бок сялянства. Паўстанне 1863—1864 гг. пакінула значны след у далейшым грамадска-палітычным развіцці Беларусі, прывяло да істотных змен ва ўмовах правядзення аграрнай і іншых буржуазных рэформ.

У другой палове XIX — пачатку XX ст. у адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле беларускіх зямель прынцыповых змен не адбылося. З 1861 г. паветы былі падзелены на воласці. У Магілёўскай губерні з частак Аршанскага і ліквідаванага Копыскага паветаў быў створаны Горацкі павет (1861), у Віцебскай губерні скасаваны Суражскі павет (1866). Вышэйшая грамадзянская ўлада на працягу XIX ст. па-ранейшаму знаходзілася ў руках віленскага генерал-губернатара. Але паступова тэрыторыя генерал-губернатарства памяншалася: з 1870 г. у яго склад уваходзілі Віленская, Гродзенская і Ковенская губерні. А ў 1912 г. яно было скасавана. У той жа час у канцы XIX — пачатку XX ст. ускладнілася ваеннае кіраванне: беларускія землі былі падзелены паміж Віленскай, Пецярбургскай і Варшаўскай ваеннымі акругамі.

Сацыяльныя супярэчнасці, якія захаваліся ў Расіі ў час праўлення імператара Мікалая II (1894—1917), памножаныя на няўдалую руска-японскую вайну 1904—1905 гг., прывялі да Першай расійскай рэвалюцыі. Антыўрадавы рух масава ахапіў і беларускія землі. У час рэвалюцыі актыўна дзейнічала Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ). У праграме, прынятай на II з'ездзе партыі (студзень 1906 г.), падкрэслівалася, што БСГ арганізуе „працоўную беднату Беларускага краю без адрознення нацыянальнасцей" з канчатковай мэтай замены капіталістычнага ладу сацыялістычным. Сваёй бліжэйшай мэтай сумесна з пралетарыятам усёй Расіі партыя абвясціла звяржэнне самаўладдзя і выказалася за стварэнне Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі са свабодным самавызначэннем і культурна-нацыянальнай аўтаноміяй для народнасцей. Для Беларусі яна патрабавала аўтаноміі з мясцовым соймам у Вільне. У перыяд спаду рэвалюцыі і палітычнай рэакцыі, што наступіла пасля яе, БСГ сканцэнтравала сваю ўвагу на легальнай прапагандысцкай дзейнасці.

Абвастрэнне на мяжы стагоддзяў міжнародных адносінаў прывяло да Першай сусветнай вайны 1914—1918 гг., якая пачалася 19 ліпеня 1914 г. Галоўнай яе прычынай з'явіліся супярэчнасці паміж двума ваенна-палітычнымі блокамі — Антантай (Расія, Вялікабрытанія, Францыя) і Траістым саюзам (Германія, Аўстра-Венгрыя, Італія; з 1915 г. — саюз Германіі, Аўстра-Венгрыі, Турцыі і Балгарыі) — за перадзел каланіяльнага свету.

Германія планавала разграміць паасобку шляхам маланкавай вайны спачатку Францыю, а затым Расію. Аднак войскі краін Антанты скаардынаванымі дзеяннямі перашкодзілі гэтаму плану. Германія і Аўстра-Венгрыя мусілі ваяваць адразу на двух франтах: Заходнім і Усходнім. Расійская імперыя ўступіла ў Першую сусветную вайну дрэнна падрыхтаванай, што праявілася ўжо падчас няўдалай аперацыі ва Усходняй Прусіі (восень 1914 г.). У пачатку 1915 г. выявіўся вялізны дэфіцыт ваенных запасаў. Таму, калі канфлікт прыняў зацяжны характар, Расія паступова страчвала сваю ваенную моц.

З пачаткам вайны беларускія губерні былі аб'яўлены на ваенным становішчы. Замест скасаваных Віленскай і Варшаўскай ваенных акруг у ліпені 1914 г. былі створаны Дзвінская і Мінская ваенныя акругі на тэатры ваенных дзеянняў. У межах гэтых ваенных акруг уся ўлада належала галоўнаму начальніку, які падпарадкоўваўся начальніку забеспячэння Паўночна-Заходняга, а потым Заходняга фронту.

У першай палове 1915 г. германскія і аўстра-венгерскія войскі ажыццявілі паспяховае наступленне ў Польшчы і авалодалі гэтай тэрыторыяй. У жніўні 1915 г. пачалося наступленне праціўніка ў накірунку Коўна—Вільна—Мінск. У выніку Свянцянскага прарыву 1915 г. узнікла пагроза акружэння расійскіх войскаў і таму Стаўка Вярхоўнага галоўнакамандуючага прыняла рашэнне адвесці свае арміі на лінію Дзвінск—Паставы—Баранавічы—Пінск, дзе фронт і стабілізаваўся. На працягу 1916 г. расійскія войскі двойчы спрабавалі ажыццявіць наступленне (Нарачанская і Баранавіцкая аперацыі), але яны скончыліся няўдала.

Катастрафічныя падзеі на фронце прынеслі вялікае гора насельніцтву Беларусі. Гінула мірнае насельніцтва, руйнаваліся гарады і вёскі, знішчаліся матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. Расійскія ўлады не здолелі арганізаваць эвакуацыю з заходніх губерняў ваенных і прамысловых аб'ектаў. Некаторыя з іх, як і сельскагаспадарчыя сховішчы і пасевы, былі знішчаны адступаўшымі войскамі. Адначасова разбураліся шляхі зносін. Насельніцтва заходніх губерняў, часам у прымусовым парадку, пакідала родныя мясціны. З Польшчы, Літвы і заходняй часткі Беларусі на ўсход рушыла больш за 1 млн 700 тыс. чалавек. Становішча гэтых людзей было надзвычай цяжкім.

Першая сусветная вайна 1914—1918 гг. аказала значны ўплыў на стан грамадска-палітычнага жыцця, эвалюцыю пазіцыі розных палітычных партый і арганізацый. Манархічныя і буржуазна-ліберальныя партыі падтрымлівалі вайну і царскі ўрад і заклікалі да „абароны Айчыны". Правыя эсэры вылучылі лозунг „Спачатку перамога — потым рэвалюцыя". Бальшавікі, да якіх далучыліся левыя эсэры, выступалі за паражэнне царскай Расіі і „пераўтварэнне вайны імперыялістычнай у грамадзянскую".

На захопленай тэрыторыі заходніх губерняў Беларусі германскае ваеннае і грамадзянскае кіраўніцтва (Обер-Ост) імкнуліся праводзіць больш гнуткую нацыянальную палітыку, што стварыла магчымасць для легальнай дзейнасці беларускіх арганізацый. Восенню 1915 г. браты А. і І. Луцкевічы стварылі ў Вільне Беларускую сацыял-дэмакратычную рабочую групу, якая разгарнула актыўную дзейнасць, накіраваную на дасягненне дзяржаўнага самавызначэння. У 1916 г. германскія акупацыйныя ўлады абвясцілі беларускую мову раўнапраўнай з польскай, літоўскай і яўрэйскай мовамі. У кароткі тэрмін на акупаванай тэрыторыі была створана сетка беларускіх школ, пачалося выданне на беларускай мове адозваў, брашур і газеты „Гоман", стваралася беларускія дабрачынныя арганізацыі.

Каардынацыйным палітычным цэнтрам беларускага руху на акупаванай тэрыторыі з'яўляўся Беларускі народны камітэт на чале з А. Луцкевічам. У снежні 1915 г. быў выдадзены „Універсал Вялікага Княства Літоўскага". У ім заяўлялася, што літоўскія, беларускія, польскія і яўрэйскія арганізацыі прыступілі да ўтварэння канфедэрацыі на аснове незалежнасці Літвы і Беларусі як адзінай дзяржавы, якая забяспечыць усім нацыям усе правы ў межах дзяржавы. Але германскія ўлады не падтрымалі гэтую ідэю і аддалі перавагу літоўцам, якія ў пачатку 1917 г. абвясцілі Літоўскую Раду (Тарыбу) як вярхоўны орган Літвы. Супрацьлеглую пазіцыю заняў В. Ластоўскі, які ў канцы 1915 г. у Вільне стварыў „Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі", што выступала за стварэнне незалежнай беларускай дзяржавы.

А. М. Лукашэвіч



Да зместу

# ЗАХОДНЯЯ МЯЖА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ ў 1772–1815 гг.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- **КРАКАЎ** — Сталіца дзяржавы
- **ЯСЫ** — Сталіцы залежных дзяржаў
- Ліда — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- Рэчы Паспалітай у 1772 г.
- дзяржаў у 1815 г.
- далучаных тэрыторый
- Расійскай імперыі напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай
- Расійскай імперыі ў 1815 г.
- Мытная мяжа паміж Расійскай імперыяй і Каралеўствам Польскім (з 1815 г.)
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

1:5 200 000

**ТЭРЫТОРЫІ**

- Расійскай імперыі напярэдадні першага падзелу Рэчы Паспалітай
- якія адышлі да Расійскай імперыі
  - пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 г.
  - пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г.
  - пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г.
  - ад Асманскай імперыі ў 1774–1791 гг.
  - па Тыльзіцкім міры 1807 г.
  - па рашэнні Венскага кангрэса 1814–1815 гг.
  - у 1812 г.
- Тарнопальскай вобласці, якая ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі ў 1809–1815 гг.

92 — Памеры тэрыторый, якія адышлі да Расійскай імперыі (тыс. км²)

Лічбай 1 на карце пазначана Кракаўская рэспубліка



Расійская імператрыца Кацярына II



Расійскі імператар Аляксандр I



Да зместу

# КРЭПАСЦІ НА ЗАХОДНЯЙ МЯЖЫ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1772–1801 гг.






Да зместу

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ НА ДАЛУЧАНЫХ ДА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ ЗЕМЛЯХ. 1772–1793 гг.






Да зместу

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ НА ДАЛУЧАНЫХ ДА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ ЗЕМЛЯХ. 1794–1796 гг.




НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

- ПОЛАЦК — Цэнтры намесніцтваў Расійскай імперыі ў 1796 г.
- Орша — Цэнтры паветаў
- Талачын — Іншыя населеныя пункты

ГРАНІЦЫ

- дзяржаў
- Расійскай імперыі з 1795 г.
- намесніцтваў у 1796 г.
- паветаў у 1796 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНАТАРСТВАЎ у 1796 г.

- Беларускага
- Мінскага, Валынскага, Падольскага і Брацлаўскага
- Літоўскага, Ліфляндскага і Эстляндскага

ТЭРЫТОРЫІ

- Полацкага намесніцтва да 12 снежня 1796 г.
- Магілёўскага намесніцтва да 12 снежня 1796 г.
- Мінскага намесніцтва да 12 снежня 1796 г.
- Віленскага намесніцтва з 14 снежня 1795 г. да 12 снежня 1796 г. (да 8 жніўня 1796 г.—губерня)
- Слонімскага намесніцтва з 14 снежня 1795 г. да 12 снежня 1796 г. (да 8 жніўня 1796 г.—губерня)
- Валынскага намесніцтва (з 1795 г., з часткі Ізяслаўскага намесніцтва)
- Падольскага намесніцтва (з 1795 г., з часткі Ізяслаўскага і Брацлаўскага намесніцтва)
- Тэрыторыя, перададзеная ў Чарнігаўскае намесніцтва ў 1795 г. (Рэчыцкі павет з 29 кастрычніка 1796 г.)
- Іншыя тэрыторыі Расійскай імперыі

Лічбамі на карце пазначаны

1 Курскае намесніцтва 2 Харкаўскае намесніцтва

1:5 000 000



Да зместу

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ НА ДАЛУЧАНЫХ ДА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ ЗЕМЛЯХ. Снежань 1796–верасень 1801 г.




## ГРАНІЦЫ
- дзяржаў у 1800 г.
- Расійскай імперыі ў 1800 г.
- губерняў у 1800 г.
- паветаў у 1800 г. (Літоўскай губерні — на 1796 г.)
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі ў 1800 г.
- Орша — Цэнтры паветаў у 1800 г.
- Мір — Іншыя населеныя пункты
- ВІЛЬНА — Месцы знаходжання ваенных губернатараў

## ТЭРЫТОРЫІ ГУБЕРНЯЎ, падпарадкаваных са снежня 1796 г. ваенным губернатарам і адначасова „кіруючаму па грамадзянскай частцы“
- літоўскаму (да верасня 1801 г.)
- літоўскаму (да лістапада 1798 г.), ліфляндскаму і эстляндскаму (з лістапада 1798 да верасня 1800 г.), санкт-пецярбургскаму (з верасня 1800 да верасня 1801 г.)
- санкт-пецярбургскаму (з верасня 1800 да верасня 1801 г.)
- камянец-падольскаму (да верасня 1801 г.)
- кіеўскаму (да студзеня (мая) 1797 г.)
- кіеўскаму (да мая 1798 г. і з верасня 1800 да верасня 1801 г.), камянец-падольскаму (з мая 1798 да чэрвеня 1801 г.)
- новарасійскаму (да верасня 1801 г.)
- смаленскаму (да верасня 1801 г.)
- беларускаму грамадзянскаму губернатару (да верасня 1801 г.)
- Рэчыцкі павет Мінскай губерні (з 29 жніўня 1797 г., з 12 снежня 1796 да 29 жніўня 1797 г. уваходзіў у склад Маларасійскай губерні)
- Іншыя губерні Расійскай імперыі

Лічбай на карце пазначана:
1 Курская губерня

1:4 500 000



Да зместу

# МЫТНЫ І ПАГРАНІЧНЫ КАНТРОЛЬ НА ЗАХОДНЯЙ МЯЖЫ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1772–1782 гг.






Беларускі генерал-губернатар
З. Р. Чарнышоў (1772–1782)



Пскоўскі губернатар
М. М. Крачэтнікаў (1772–1775)



Магілёўскі губернатар
М. В. Каховскі (1772–1779)



Прэзідэнт камерц-калегіі
А. Р. Варанцоў (1773–1794)



Да зместу

# МЫТНЫ І ПАГРАНІЧНЫ КАНТРОЛЬ НА ЗАХОДНЯЙ МЯЖЫ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1795 – люты 1801 г.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

ПОЛАЦК — Цэнтры намесніцтваў Расійскай імперыі ў 1796 г.

МІНСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі ў 1800 г.

ВІЛЬНА — Месцы знаходжання ваенных губернатараў у 1800 г.

Лепель — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

дзяржаў

Расійскай імперыі з 1795 г.

намесніцтваў у 1796 г.

губерняў у 1800 г.

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Асноўныя дарогі

**МЫТНЫ КАНТРОЛЬ**

Марскія парты

Замежныя мытні

**Мытні і мытныя заставы**

мытні ў „беларускіх“ губернях (намесніцтвах), утвораныя паводле ўказа ад 9.02.1783 г. і прызначаныя да скасавання паводле ўказа ад 5.11.1795 г.

заснаваныя паводле ўказа ад 27.01.1795 г.

заснаваныя паводле ўказа ад 8.08.1795 г.

заснаваныя паводле ўказа ад 14.12.1795 г. (уведзены з 1.05.1796 г.)

перанесеныя ў іншыя месцы (з датай)

Ямпаль — Мытні, пры якіх паводле ўказа ад 8.08.1795 г. ствараліся каранціны

Мытні, якія былі скасаваны ў час праўлення імператрыцы Кацярыны II (з датай)

Мытні і заставы, якія былі скасаваны па ўказе імператара Паўла I ад 31.03.1799 г.

Мытні і мытныя заставы, якія існавалі на 27.03.1800 г.

**ПАГРАНІЧНЫ КАНТРОЛЬ**

Пагранічныя мытныя ланцуг і варта ў „беларускіх“ губернях (намесніцтвах), устаноўленыя ўказам ад 9.02.1783 г. (скасаваны ўказам ад 5.11.1795 г.)

у Брацлаўскай, Падольскай і Валынскай губернях (намесніцтвах), устаноўленыя паводле ўказа ад 8.08.1795 г.

у „Вялікім Княстве Літоўскім“, устаноўленыя паводле ўказа ад 14.12.1795 г. (уведзены з 1.05.1796 г.)

Пагранічная мытная варта ў Курляндскай губерні, устаноўленая ўказам ад 14.12.1795 г.

Мытны пагранічны нагляд у Літоўскай, Валынскай і Падольскай губернях з 27.03.1800 г.

Казацкая пагранічная варта, устаноўленая ў 1795 г. ад Ямпаля да вусця Днястра

Казацкая пагранічная варта, устаноўленая ў лютым 1800 г. на мяжы з Прусіяй паводле загада імператара Паўла I ад 12.12.1799 г. (знята загадам ад 14.12.1800 г.)

Дыстанцыі казачых палкоў, якія неслі пагранічную службу

Заўвага: 1. Лічбамі на карце пазначаны: 1 Курскае намесніцтва, 2 Харкаўскае намесніцтва, 3 Курская губерня

2. Жоўтым колерам дадзены назвы губерняў у 1800 г., якія адрозніваюцца ад назваў намесніцтваў

1:5 000 000

# МЫТНЫ І ПАГРАНІЧНЫ КАНТРОЛЬ НА ЗАХОДНЯЙ МЯЖЫ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. Сакавік 1801 – 1815 г.



# РАСІЙСКАЕ АПЕРАТЫЎНАЕ ПЛАНАВАННЕ Ў 1803–1804 гг. ВАЙНА 1805 г.






Да зместу




| Колькасць войскаў (тыс. чал.) / Краіны 3-й кааліцыі | Разліковая | Па аператыўным плане | Для ваенных дзеянняў |
|---|---|---|---|
| Англія | 5 | 5 | – |
| Аўстрыя | 250 | 220 | каля 230 |
| Германскія дзяржавы | 35 | – | – |
| Данія | 16 | – | – |
| Неапалітанскае каралеўства | 20 | 15 | 15 |
| Прусія | 100 | 60 | – |
| Расія | 180 | 181 | каля 125 |
| Швецыя | 16 | 16 | – |
| Усяго | 622 | 437 (497 з Прусіяй) | каля 370 |
| | | | |
| Францыя | – | – | 290 |



Да зместу

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЕЎРОПА Ў ЧАС ВОЙНАЎ 1806–1807 гг.

| Краіны | Колькасць войскаў краін 4-й кааліцыі, якія былі выстаўлены для ваенных дзеянняў (тыс. чал.) |
|---|---|
| Англія | – |
| Прусія (разам з Саксоніяй) | 250 |
| Расія | 120 |
| Швецыя | – |
| Усяго | 370 |
| | |
| Францыя з саюзнымі кантынгентамі | 330–360 |






Да зместу

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў ЧАС ВАЙНЫ 1809 г.






Да зместу

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. Верасень 1801 – 1822 г.






Да зместу

# ПЛАНЫ ПРЫКРЫЦЦЯ ЗАХОДНІХ ГРАНІЦ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (1810–1812 гг.) І ВЯДЗЕННЯ ВАЕННЫХ ДЗЕЯННЯЎ



# РАЗВЕДКА І КОНТРРАЗВЕДКА Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ (1810 – чэрвень 1812 г.)






Да зместу

# РАСІЙСКІЯ ПРАЕКТЫ АДНАЎЛЕННЯ КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАГА І ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА (1810–чэрвень 1812 г.)




**ПРАЕКТ А. ЧАРТАРЫЙСКАГА–ІМП. АЛЯКСАНДРА I (снежань 1810–красавік 1811 г.)***

- Тэрыторыя Каралеўства Польскага паводле прапаноў імператара Аляксандра I ад 31 студзеня (12 лютага) 1811 г.
- „Польскія“ землі аўстрыйскай Галіцыі, якія падлягалі абмену (са згоды Аўстрыйскай імперыі)
- Землі Валахіі і Малдавіі, занятыя расійскай арміяй у ходзе вайны з Турцыяй 1806–1812 гг., якія імп. Аляксандр I прапанаваў у якасці кампенсацыі за аўстрыйскую частку Галіцыі
- КАРАЛЕЎСТВА ПРУСІЯ — Магчымыя саюзнікі Расійскай імперыі па антынапалеонаўскай кааліцыі
- 50 000 чал. — Разліковая колькасць войскаў Расійскай імперыі і магчымых саюзнікаў, неабходная для рэалізацыі праекта

**Прадугледжвалася ўвядзенне ліберальнай канстытуцыі, назначэнне на пасады ва ўладных структурах і арміі ўраджэнцаў „польскіх“ земляў, прыняцце імп. Аляксандрам I тытула „польскага караля“*

**ПЛАН М. К. АГІНСКАГА (май 1811–люты 1812 г.)****

- Тэрыторыя аўтаномнага Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), акрэсленая ў запісцы М. К. Агінскага ад 15 (27) мая 1811 г. і яго праекце указа аб новай арганізацыі заходніх губерняў ад 22 кастрычніка (3 лістапада) 1811 г.
- ВІЛЬНА — Сталіца аўтаномнага ВКЛ
- АС — Адміністрацыйны савет, падпарадкаваны „Літоўскай“ канцылярыі на чале з міністрам статс-сакратаром (у Санкт-Пецярбургу)
- ВТ — Стварэнне ў Вільне Вярхоўнага трыбунала як вышэйшай судовай інстанцыі па крымінальных і грамадзянскіх справах
- Княства Варшаўскае, якое ў выпадку вайны з Напалеонам планавалася аб'яднаць з ВКЛ і ўтварыць Каралеўства Польскае (прапановы ў запісках М. К. Агінскага ад 15 (27) кастрычніка і 1 (13) снежня 1811 г.)
- К — Праект Канстытуцыі ВКЛ, падрыхтаваны 27 студзеня (8 лютага) 1812 г.

**Разліковая колькасць узброеных сіл ВКЛ у складзе расійскай арміі, прыведзеная ў праекце К. Любамірскага ад 2 (14) снежня 1811 г. (50 тыс. чал.)**

Рэгулярныя войскі (30 тыс. чал.)

- Уланскія палкі і іх колькасць
- Пяхотныя палкі і іх колькасць
- Апалчэнне (20 тыс. чал.)

***Прадугледжвалася наданне Статуту ВКЛ 1588 г. статусу асноўнага грамадзянскага закона ВКЛ, польскай мове—статусу мовы справаводства, назначэнне на пасады ва ўладных структурах і арміі ўраджэнцаў ВКЛ, вылучэнне асігнаванняў на народную адукацыю ў ВКЛ на спецыяльны рахунак дзяржаўнага бюджэту, прыняцце імп. Аляксандрам I тытула „польскага караля“*

1:5 500 000

# РЭКАГНАСЦЫРОЎКІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (1810 г.)






Да зместу

# РЭКАГНАСЦЫРОЎКІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (1811–чэрвень 1812 г.)






Да зместу

# РАЗМЯШЧЭННЕ ВАЙСКОВЫХ, ХАРЧОВЫХ І ФУРАЖНЫХ СКЛАДОЎ. ВАЕННЫЯ ШЛЯХІ ЗНОСІН. 1810–1812 гг.






Да зместу

# ВАЙНА 1812 г. НАСТУПЛЕННЕ АРМІІ НАПАЛЕОНА (чэрвень–кастрычнік)




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВАРШАВА — Сталіцы дзяржаў
- МІНСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- Вязьма — Іншыя населеныя пункты
- ВІЦЕБСК — Цэнтры асобных генерал-губернатарстваў

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў
- губерняў Расійскай імперыі
- Вялікага Княства Літоўскага
- асобных генерал-губернатарстваў

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Месцы дыслакацыі войскаў: напалеонаўскіх, расійскіх

- на пачатак вайны
- у ходзе вайны

Рэзервовыя карпусы расійскіх армій

- на пачатак вайны
- сфарміраваныя ў час вайны

- Напрамкі руху і дзеянняў напалеонаўскіх войскаў
- Адыход расійскіх войскаў
- Напрамкі ўдараў расійскіх войскаў
- Раёны і напрамкі дзеянняў партызанскіх атрадаў
- Падыход рэзерваў
- Разгортванне войскаў апалчэння
- 22.07 Злучэнне 1-й і 2-й Заходніх армій
- 17.08 Прыняцце Кутузавым камандавання расійскімі арміямі
- Таруцінскі манеўр Кутузава
- Сканцэнтраванне расійскай арміі да пачатку контрнаступлення
- Месцы фарміравання апалчэнняў

Месцы і даты бітваў

- 31.07 з перамогай напалеонаўскіх войскаў
- 2.08 з перамогай расійскіх войскаў
- Крэпасці

Магазіны

- знішчаныя адступаючымі расійскімі войскамі
- якія вывезлі расійскія войскі
- захопленыя войскамі Вялікай арміі і вырабаваныя мясцовым насельніцтвам
- Саляныя
- 3 Колькасць магазінаў

1:6 500 000


Напалеон I Банапарт


Маршал Францыі Л. Н. Даву


Вестфальскі кароль Жэром Банапарт


Галоўнакамандуючы 1-й Заходняй арміяй генерал М. Б. Барклай дэ Толі


Галоўнакамандуючы 2-й Заходняй арміяй генерал П. І. Баграціён


Галоўнакамандуючы 3-й Абсервацыйнай арміяй А. П. Тармасаў



Да зместу

# АСНОЎНЫЯ БАІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У ЧАС НАСТУПЛЕННЯ АРМІІ НАПАЛЕОНА

## БОЙ КАЛЯ в. САЛТАНАЎКА 11.07.1812 г.




## АДСТУПЛЕННЕ РАСІЙСКІХ АРМІЙ 3–22.07.1812 г.





Французскі генерал Ж. М. Дэсэ


Расійскі генерал К. В. Ламберт


Расійскі генерал М. М. Раеўскі


Французскі генерал Ж. Л. Рэнье

## БОЙ ПРЫ г. КОБРЫН 15.07.1812 г.




**РАСІЙСКІЯ ВОЙСКІ**

- Пяхотны полк
- разгорнуты
- пабатальённа
- Батальён пяхотнага палка
- Кавалерыйскі полк
- Артылерыя
- Стралковыя (егерскія) ланцугі
- Мінёрная рота М. Р. Сазонава 2-га піянернага палка
- Высоўванне войскаў да месца бітвы
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў
- Перадыслакацыя войскаў у час бітвы

**НАПАЛЕОНАЎСКІЯ ВОЙСКІ**

- Лінейны пяхотны полк (пабатальённа)
- Батальён лінейнага пяхотнага палка
- Кавалерыйскі полк
- Артылерыя
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў
- Перадыслакацыя войскаў у час бітвы
- Грэбля, пабудаваная французскімі войскамі
- Месцазнаходжанне ў час бою: а — М. М. Раеўскага; б — Л. Н. Даву

Скарачэнні, прынятыя на карце:

| | | | |
|---|---|---|---|
| аб | артылерыйская брыгада | лпп | лінейны пяхотны полк |
| Апп | Алексапольскі пяхотны полк | НГпп | Ніжагародскі пяхотны полк |
| Арпп | Арлоўскі пяхотны полк | НІпп | Новаінгерманландскі пяхотны полк |
| бат. | батальён | Ппп | Палтаўскі пяхотны полк |
| еп | егерскі полк | Спп | Смаленскі пяхотны полк |
| зап. бат | запасны батальён | | |
| Лпп | Ладажскі пяхотны полк | | |

*Паводле іншых дадзеных батальён 41-га егерскага палка (удзел гэтага палка ў баі ставіцца пад сумненне)

Маштаб 1:110 000

**РАСІЙСКІЯ ВОЙСКІ**
**Размяшчэнне і дзеянні войскаў**

5 00–8 00

- Пяхотны полк
- Кавалерыйскі полк
- Эскадрон (сотня)
- Артылерыя
- Ланцуг спешаных драгунаў
- Напрамкі руху, удараў і адыход войскаў

9 00–13 30

- Пяхотны полк
- Кавалерыйскі полк
- Эскадрон (сотня)
- Артылерыя
- Напрамкі руху і ўдараў войскаў

Казацкія пікеты

**НАПАЛЕОНАЎСКІЯ ВОЙСКІ**
**Размяшчэнне і дзеянні войскаў**

5 00–8 00

- Батальён Саксонскага Каралеўскага пяхотнага палка
- Рота Саксонскага пяхотнага палка Нізэмейшэля (Нізэмойшэля)
- Эскадрон уланскага палка прынца Клеменса (Клемента)
- Ланцуг пяхотных стралкоў
- Артылерыя
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў

9 00–13 30

- Рота Саксонскага пяхотнага палка Нізэмейшэля (Нізэмойшэля)
- Эскадрон уланскага палка прынца Клеменса (Клемента)
- Артылерыя
- Напрамкі руху, удараў і адыход войскаў
- Капітуляцыя рэштак брыгады

Маштаб 1:148 000

Скарачэнні, прынятыя на карце:

| | |
|---|---|
| Агп | Александрыйскі гусарскі полк |
| Апп | Апшэронскі пяхотны полк |
| Бкп | Башкірскі конна-казацкі полк |
| ДкпБ | Данскі казацкі полк падпалкоўніка Ф. А. Барабаншчыкава 2-га |
| ДкпУ | Данскі казацкі полк вайсковага старшыны М. А. Уласава 2-га |
| еп | егерскі полк |
| кар | конна-артылерыйская рота |
| лар | лёгкая артылерыйская рота |
| Лгп | Лубенскі гусарскі полк |
| Пгп | Паўлаградскі гусарскі полк |
| пр | піянерная рота капітана Куцэвіча |
| Рпп | Ражскі пяхотны полк |
| Сдп | Старадубаўскі драгунскі полк |
| ТЕуп | Татарскі (Еўпатарыйскі) уланскі полк |
| Цдп | Цвярскі драгунскі полк |
| эск | эскадрон |



Да зместу

## БАІ КАЛЯ в. КЛЯСЦІЦЫ 18–19.07.1812 г.

### БОЙ 18 ліпеня 1812 г.




**РАСІЙСКІЯ ВОЙСКІ**
**Размяшчэнне і дзеянні войскаў**

пасля 14 00
- Батальён пяхотнага палка
- Кавалерыйскі полк
- Артылерыя

пасля 17 00
- Батальён пяхотнага палка
- Артылерыя
- Прасоўванне войскаў да месца бітвы
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў

пасля 20 00
- Батальён пяхотнага палка
- Прасоўванне войскаў да месца бітвы
- Напрамкі ўдараў

**НАПАЛЕОНАЎСКІЯ ВОЙСКІ**
**Размяшчэнне і дзеянні войскаў**

пасля 14 00
- Батальён пяхотнага палка
- Кавалерыйскі полк
- Артылерыя
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў

пасля 20 00
- Батальён пяхотнага палка
- Артылерыя
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў

Скарачэнні, прынятыя на карце:

| | |
|---|---|
| бат.ар | батарэйная артылерыйская рота |
| Ггп | Гродзенскі гусарскі полк |
| ен ен | егерскі полк |
| кар | конна-артылерыйская рота |
| кд | кавалерыйская дывізія |
| Клп | Калужскі пяхотны полк |
| лін.пп лін.пп | лінейны пяхотны полк |
| лпп лпп | лёгкі пяхотны полк |
| Спп | Сеўскі пяхотны полк |

Маштаб 1:24 000

### БОЙ 19 ліпеня 1812 г.




### АГУЛЬНЫ ХОД БАЁЎ 18–20.07




- Наступленне галоўных сіл расійскіх войскаў 18–20.07
- Адступленне напалеонаўскіх войскаў 19.07
- Размяшчэнне авангарда І. П. Кульнева ў ноч на 20.07 і яго разгром
- Адступленне расійскага авангарда і дывізіі Сазонава 20.07
- Наступленне Вердэ 20.07
- Пазіцыі бакоў
  - пад вечар 18.07
  - каля 6 гадзін раніцы 19.07
  - на сярэдзіну дня 20.07

**РАСІЙСКІЯ ВОЙСКІ**
**Размяшчэнне і дзеянні войскаў**

3 00–5 00
- Батальён пяхотнага палка
- Кавалерыйскі полк
- Артылерыя
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў

5 00–7 00
- Напрамкі ўдараў

8 00–10 00
- Батальён пяхотнага палка
- Кавалерыйскі полк
- Батальённыя калоны
- Артылерыя
- Напрамкі руху і ўдараў войскаў
- Сектары артылерыйскага абстрэлу
- Спалены мост

**НАПАЛЕОНАЎСКІЯ ВОЙСКІ**
**Размяшчэнне і дзеянні войскаў**

3 00–5 00
- Батальён пяхотнага палка
- Артылерыя
- Напрамкі ўдараў і адыход войскаў

5 00–7 00
- Адыход войскаў

8 00–10 00
- Пяхотны полк
- Батальённыя калоны
- Артылерыя
- Адыход войскаў

Скарачэнні, прынятыя на карце:

| | |
|---|---|
| бат. ар | батарэйная артылерыйская рота |
| глар | гарматы лёгкай артылерыйскай роты |
| Ггп | Гродзенскі гусарскі полк |
| еп | егерскі полк |
| зб | запасны батальён |
| Клп | Калужскі пяхотны полк |
| лар | лёгкая артылерыйская рота |
| лін.пп | лінейны пяхотны полк |
| лпп | лёгкі пяхотны полк |
| Мпп | Магілёўскі пяхотны полк |
| Пгп | Паўлаградскі грэнадзёрскі полк |
| Ппп | Пермскі пяхотны полк |
| пд пд | пяхотная дывізія |
| ппПл | пяхотны полк Партугальскага легіёна |
| Рдп | Рыжскі драгунскі полк |
| Спп | Сеўскі пяхотны полк |
| Ядп | Ямбургскі драгунскі полк |

Маштаб 1:24 000



Да зместу

Да зместу

# ОРГАНЫ НАПАЛЕОНАЎСКАЙ АДМІНІСТРАЦЫІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ (чэрвень–лістапад 1812 г.)



# БАІ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ У ЧАС АДСТУПЛЕННЯ АРМІІ НАПАЛЕОНА



## АДСТУПЛЕННЕ АРМІІ НАПАЛЕОНА (кастрычнік – снежань 1812 г.)




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- **ВАРШАВА** — Сталіцы дзяржаў
- МІНСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- Вязьма — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў
- губерняў Расійскай імперыі

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Сканцэнтраванне войскаў

- расійскай арміі
- напалеонаўскай арміі

Напрамкі ўдараў расійскіх войскаў

Раёны і напрамкі дзеянняў армейскіх партызанскіх атрадаў

Напрамкі дзеянняў асобных атрадаў войскаў напалеонаўскай арміі

Адыход напалеонаўскай арміі

Месцы і даты бітваў

- 12.10 з перамогай напалеонаўскіх войскаў
- 26.10 з перамогай расійскіх войскаў

Умацаваныя лагеры расійскіх войскаў

Крэпасці

23.11 Ад'езд Напалеона з арміі ў Парыж

Маніфест імператара Аляксандра I ад 12 (24).12.1812 г. аб прабачэнні жыхароў заходніх губерняў Расіі, якія здрадзілі ў 1812 г.

Маніфест імператара Аляксандра I аб заканчэнні вайны, абвешчаны 25.12.1812 (6.01.1813) г.

1:6 500 000



Галоўнакамандуючы ўсімі расійскімі арміямі генерал-фельдмаршал М. І. Кутузаў



Галоўнакамандуючы 3-й Заходняй арміяй П. В. Чычагоў



Камандзір 1-га Асобнага корпуса генерал П. Х. Вітгенштэйн



Маршал Францыі Н. Ш. Удзіно



Аўстрыйскі генерал-фельдмаршал К. Ф. Шварцэнберг



Камандзір 2-га Рэзервовага корпуса генерал Ф. Ф. Эртэль



Маршал Францыі Л. дэ Гувіён-Сен-Сір



Да зместу

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ І УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА ПАСЛЯ ВЕНСКАГА КАНГРЭСА 1815–1830 гг.




**ТЭРЫТОРЫІ, ЯКІЯ АДЫШЛІ ПА РАШЭННЯХ ВЕНСКАГА КАНГРЭСА 1814–1815 гг.**

- да Расійскай імперыі
- да каралеўства Прусія
- Кракаўская рэспубліка (1814–1846 гг., з 1847 г. у складзе Аўстрыйскай імперыі)

**АРГАНІЗАЦЫЯ МЫТНАГА (ПАМЕЖНАГА) КАНТРОЛЮ НА ЗАХОДНЯЙ ГРАНІЦЫ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ ў 1819–1822 гг. (па МЫТНЫМ СТАТУЦЕ 1819 г.)**

- Расійскае Галоўнае ўпраўленне гандлёвых і мытных спраў у „Каралеўстве (Царстве) Польскім“

**Расійскія мытні**

- Галоўныя 1-га класа (складачныя)
- Галоўныя 2-га класа
- 3-га класа (дэкларацыйныя)
- 4-га класа (кантрольныя)
- 4-га класа
- Польскія мытні 3-га класа (дэкларацыйныя)

- Сярэдняя лінія, вызначаная па Мытным статуце 1819 г.
- Гродзенская акруга — Назвы расійскіх мытных акруг
- Размежавальныя лініі расійскіх мытных акруг
- Гродзенская брыгада — Мытная пагранічная варта, заснаваная паводле „Палажэння аб уладкаванні пагранічнай мытнай варты“ ад 5.08.1827 г.
- Граніца губерняў, над якімі 29.06.1822 г. імператарскім указам Сената цэсарэвічу Канстанціну Паўлавічу была прадастаўлена ўлада „галоўнакамандуючага дзеючай арміі“, з падпарадкаваннем гэтых тэрыторый па ваеннай і грамадзянскай частцы
- Граніца Віцебскага, Магілёўскага, Смаленскага (з 1823 г.) і Калужскага (з 1826 г.) генерал-губернатарства
- Граніца Ліфляндскага, Курляндскага, Эстляндскага і Пскоўскага (з 1823 г.) генерал-губернатарства (1819–1829 гг.)
- Граніца Тульскага, Варонежскага, Арлоўскага, Разанскага і Тамбоўскага генерал-губернатарства ў 1819–1827 гг.

- МІНСК — Цэнтры губерняў, у якіх ў 1816–1819 гг. былі прызначаны губернатары — мясцовыя ўраджэнцы
- ВІЦЕБСК — Цэнтры генерал-губернатарстваў у 1822–1823 гг.

**РАЁНЫ ДЫСЛАКАЦЫІ**

- Польскай арміі
- Асобнага Літоўскага корпуса ў 1817–1822 гг. са штаб-кватэрамі
- 24-й пяхотнай дывізіі
- 25-й пяхотнай дывізіі
- Літоўскай уланскай дывізіі
- Асобнай грэнадзёрскай брыгады (з 1823 г.)
- Ліда — Месцы дыслакацыі палкоў
- КП — Галоўная кватэра галоўнакамандуючага Польскай арміяй і Асобным Літоўскім корпусам цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча
- 1А 2А — Галоўныя кватэры 1-й і 2-й армій
- Крэпасці ў 1819 г.



Да зместу

Да зместу

# ПАЎСТАННЕ 1830–1831 гг. У БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯХ



# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1822–1841 гг.







**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- **ВАРШАВА** — Сталіца Каралеўства Польскага
- МІНСК — Цэнтры губерняў і абласцей Расійскай імперыі ў 1822 г., губерняў Каралеўства (Царства) Польскага ў 1837 г.
- Орша — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі ў 1822 г.
- Клецк — Іншыя населеныя пункты
- ВІЦЕБСК — Цэнтры генерал-губернатарстваў у 1822–1823 гг.

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у 1822 г.
- Расійскай імперыі ў 1822 г.
- губерняў і абласцей Расійскай імперыі ў 1822 г., Каралеўства Польскага ў 1837 г.
- паветаў у 1822 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- Каралеўства Польскае (у складзе Расійскай імперыі з 1815 г.)
- Віленскае і Гродзенскае генерал-губернатарствы (да 1823 г. — Літоўскае ваеннае губернатарства)
- Віцебскае, Магілёўскае, Смаленскае і Калужскае (з 1826 г.) генерал-губернатарствы (1823–1856 гг.)
- Тэрыторыі, падпарадкаваныя з 29.06.1822 г. цэсарэвічу Канстанціну Паўлавічу, як галоўнакамандуючаму дзеючай арміі ў ваеннай і грамадзянскай частцы
- Мінскае часовае ваеннае губернатарства 8.04.1831–22.01.1832; з 10.01.1834 г. губерня падпарадкавана віленскаму ваеннаму губернатару, упраўляючаму па грамадзянскай частцы Віленскай губерні, гродзенскаму, беластоцкаму і мінскаму генерал-губернатару
- Беластоцкая вобласць з 30.10.1831 г. падпарадкавана часоваму ваеннаму віленскаму і гродзенскаму губернатару
- Іншыя губерні Расійскай імперыі

1:4 000 000

- Мінская губерня, падпарадкаваная віцебскаму, магілёўскаму і смаленскаму генерал-губернатару з 8.01 па 13.04.1831 г.
- Тэрыторыі, аб'яўленыя 1.12.1830 г. на ваенным становішчы і падпарадкаваныя галоўнакамандуючаму Дзеючай 1-й арміі І. І. Дзібічу (да 10.06.1831 г.)
- Тэрыторыі, падпарадкаваныя 13.04.1831 г. галоўнакамандуючаму Рэзервовай арміяй П. А. Талстому
- Тэрыторыі, падпарадкаваныя з 10.06.1831 г. па 31.07.1831 г. галоўнакамандуючаму Рэзервовай арміяй П. А. Талстому
- Тэрыторыі, падпарадкаваныя з 31.07.1831 г. па 30.10.1831 г. галоўнакамандуючаму 1-й арміі

1:8 000 000



Да зместу

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1842–1856 гг.






Да зместу

# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. 1856–1870 гг. ВАЕННЫЯ АКРУГІ. 1862–1870 гг.




## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

- ◎ ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ⊙ ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі ў 1870 г.
- ○ НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- ○ Капыль — Іншыя населеныя пункты
- ВІЛЬНА — Цэнтры генерал-губернатарстваў і ваеннага губернатарства

## ГРАНІЦЫ

- Расійскай імперыі ў сярэдзіне XIX ст.
- губерняў Расійскай імперыі ў 1870 г., Каралеўства Польскага ў 1867 г.
- паветаў Расійскай імперыі ў 1870 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

## ТЭРЫТОРЫІ

- Горацкага павета (створаны з часткі Аршанскага і ліквідаванага Копыскага паветаў) у 1861 г.
- Суражскага павета, скасаванага ў 1866 г.
- Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага (з 1856 г.) генерал-губернатарства
- Мінскага часовага ваеннага губернатарства (5.08.1861–16.08.1862 гг., 12.05.1863–2.07.1864 гг.)
- Кіеўскага, Валынскага і Падольскага генерал-губернатарства
- Каралеўства Польскага (да 1874 г.)
- Іншыя губерні Расійскай імперыі
- 1863–1869 — Перыяд, калі губерня часова падпарадкоўвалася віленскаму генерал-губернатару

1:3 000 000

## ВАЕННЫЯ АКРУГІ

- Рыжская (з 30.04.1864 па 26.09.1870 гг.)
- Віленская (з 6.07.1862 г.), Віцебская губерня ўвайшла ў склад акругі ў 1863 г.
- Кіеўская (з 6.07.1862 г.)
- Варшаўская (з 6.07.1862 г.)
- Санкт-Пецярбургская (з 6.08.1864 г.)
- Харкаўская (з 6.08.1864 г.)
- Маскоўская (з 6.08.1864 г.)



Да зместу

Да зместу

# ПАЎСТАННЕ 1863–1864 гг. У БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯХ



# АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ПЕРАЎТВАРЭННІ Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ. ВАЕННЫЯ АКРУГІ. 1871–1914 гг.




| НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ | |
|---|---|
| ВІЦЕБСК | Цэнтры губерняў Расійскай імперыі |
| ОРША | Цэнтры паветаў Расійскай імперыі |
| НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| Капыль | Іншыя населеныя пункты |
| ВІЛЬНА | Цэнтр ваеннай акругі |
| РЫГА | Цэнтры генерал-губернатарстваў |

**ГРАНІЦЫ**

- Расійскай імперыі ў пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНАТАРСТВАЎ**

- Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага (да 1.07.1912 г.)
- Кіеўскага, Валынскага і Падольскага
- Варшаўскага (з 1874 г.)
- Прыбалтыйскага часовага (1905–1909 гг.), Ліфляндскага, Курляндскага і Эстляндскага (да 1876 г.)

**ТЭРЫТОРЫІ ВАЕННЫХ АКРУГ**

- Санкт-Пецярбургскай
- Віленскай
- Варшаўскай
- Кіеўскай з 1888 г. (да 1888 г. – у Харкаўскай ваеннай акрузе)
- Маскоўскай

1:3 000 000

**ВІЛЕНСКІЯ, ГРОДЗЕНСКІЯ І КОВЕНСКІЯ ГЕНЕРАЛ-ГУБЕРНАТАРЫ**


В. М. Троцкі (1897–1901)


П. Д. Святаполк-Мірскі (1902–1904)


А. А. Фрэзе (1904–1905)


К. Ф. Крશывіцкі (1905–1909)



Да зместу

# ПАДЗЕІ РЭВАЛЮЦЫІ 1905–1907 гг. НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ




| НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ | |
|---|---|
| ВІЦЕБСК | Цэнтры губерняў Расійскай імперыі |
| ОРША | Цэнтры паветаў Расійскай імперыі |
| НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| Капыль | Іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ ПАДЗЕІ 1905–1907 гг.**

- Гарады, ахопленыя
- ГОРКІ — Кастрычніцкай усерасійскай палітычнай стачкай 1905 г.
- СЛУЦК — Снежаньскай усерасійскай палітычнай стачкай 1905 г.
- Чыгункі, ахопленыя стачкамі ў 1905–1907 гг.
- Выступленні салдат
- 18.10.1905 — Расстрэлы дэманстрацый і ўзброеныя сутыкненні працоўных з паліцыяй і войскамі (з датамі)
- Паветы, у якіх адбываліся ўзброеныя сутыкненні сялян з паліцыяй
- Месцы яўрэйскіх пагромаў

**МЯСЦОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ, УТВОРАНЫЯ Ў ЧАС РЭВАЛЮЦЫІ 1905—1907 гг.**

- РСДРП (Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя)
- Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў
- Саюз 17 кастрычніка
- КДП (Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя)
- Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Літвы і Беларусі

**ПАРТЫІ І АРГАНІЗАЦЫІ, ЯКІЯ АКТЫЎНА ДЗЕЙНІЧАЛІ ПАДЧАС РЭВАЛЮЦЫІ**

- Кансерватыўныя арганізацыі
- Беларуская сацыялістычная грамада
- Найбольш актыўныя арганізацыі Бунда
- Яўрэйская незалежная рабочая партыя
- З'езд настаўнікаў Мінскай губерні (нелегальны), ліпень 1906 г.

Выданне газет (1906 г.)

- „Наша Ніва"
- „Наша Доля"

1:3 000 000



Да зместу

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА. ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НА РАСІЙСКА-ГЕРМАНСКІМ ФРОНЦЕ ў 1914 г.




| Кольхасны склад расійскай дзеючай арміі на Заходнім тэатры ваенных дзеянняў (тыс.) | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Ніжніх чыноў | | Коней | | |
| Дата | Афіцэраў | Урачоў | Класных чыноў | страявых | нестраявых | страявых | запражных артылерыйскіх | абозных |
| 1.10.1914 | 31,9 | 6,3 | 8,5 | 1920,4 | 314,4 | 170,4 | 159,9 | 249,1 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВЕНА — Сталіца дзяржавы
- МАГІЛЁЎ — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- Бабруйск — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў
- губерняў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Чыгункі

**АБВЯШЧЭННЕ ВАЙНЫ**

- 19.07.(1.08).1914 — Германіяй Расіі
- 24.07.(6.08).1914 — Аўстра-Венгрыяй Расіі
- 19.07.(1.08).1914 — Расіяй Германіі
- 24.07.(6.08).1914 — Расіяй Аўстра-Венгрыі

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Германскія і аўстра-венгерскія войскі / Расійскія войскі

- Разгортванне войскаў у пачатку вайны
- Дзеянні войскаў
- Перамяшчэнне войскаў
- Перагрупоўванне войскаў
- ① Усходне-Пруская аперацыя 17.08–14.09
- ② Галіцыйская бітва 19.08–26.09
- ③ Варшаўска-Івангародская аперацыя 28.09–8.11
- ④ Лодзінская аперацыя 11–22.11
- Стаўкі Вярхоўных галоўнакамандуючых
- Штабы франтоў
- 9А 5А — Нумары армій

Межы ваенных акруг на тэатры ваенных дзеянняў

- Петраградскай (з 11.09.1914 г.)
- Дзвінскай (з 07.08.1914 г.)
- Мінскай (з 10.08.1914 г.)
- Кіеўскай
- Адэскай
- Штабы Дзвінскай і Мінскай акруг (падпарадкаваны начальніку забеспячэння Паўночна-Заходняга фронту)
- Лінія фронту ў канцы кампаніі
- Крэпасці

Скарачэнні, прынятыя на карце:

- к к — корпус
- кд — кавалерыйская дывізія
- пд пд — пяхотная дывізія

Заўвага. Даты прыведзены па новым стылі

1:5 500 000

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА. ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НА РАСІЙСКА-ГЕРМАНСКІМ ФРОНЦЕ ў 1915 г.

Колькасны склад расійскай дзеючай арміі на Заходнім тэатры ваенных дзеянняў (тыс.)

| Дата | Афіцэраў | Урачоў | Класных чыноў | Ніжніх чыноў: страявых | Ніжніх чыноў: нестраявых | Коней: страявых | Коней: запражных артылерыйскіх | Коней: абозных |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1.02.1915 | 40,4 | 9,6 | 13,1 | 2236,9 | 431,8 | 245,3 | 228,9 | 386,9 |
| 15.09.1915 | 48,9 | 8,4 | 12,4 | 2645,8 | 485,5 | 327,0 | 273,0 | 520,6 |




НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

- ВЕНА — Сталіца дзяржавы
- МАГІЛЁЎ — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- Бабруйск — Іншыя населеныя пункты

ГРАНІЦЫ

- дзяржаў
- губерняў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Чыгункі

ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ

Войскі цэнтральных дзяржаў — Расійскія войскі

- Дзеянні войскаў
- Перамяшчэнне войскаў
- Адыход войскаў з баямі

1. Карпацкая аперацыя 23.01 — сярэдзіна красавіка
2. Аўгустоўская аперацыя 7—22.02
3. Праснышская аперацыя 10.02—7.03
4. Гарліцкі прарыў і адступленне расійскіх войскаў 2.05 — верасень
5. Свянцянскі прарыў і яго ліквідаванне 9—19.09

Межы ваенных акруг на тэатры ваенных дзеянняў

- Петраградская (з 11.09.1914 г.)
- Дзвінская (з 07.08.1914 г.)
- Мінская (з 10.1914 г.)
- Кіеўская
- Адэская

- Стаўкі Вярхоўных галоўнакамандуючых
- Штабы франтоў
- 9А 3А — Нумары армій
- Штабы Дзвінскай і Мінскай акруг (падпарадкаваны начальніку забеспячэння Паўночна-Заходняга, затым Паўночнага і Заходняга франтоў)

- Лінія фронту на пачатак кампаніі
- Прамежкавыя лініі абароны расійскіх войскаў
- Лінія фронту ў канцы кампаніі
- Крэпасці
- Аблога крэпасці
- Інтэндацкія склады вайсковых акруг

Скарачэнні, прынятыя на карце:
кд — кавалерыйская дывізія
пд — пяхотная дывізія

Заўвага. Даты прыведзены па новым стылі

1:5 500 000



Галоўнакамандуючы войскамі Заходняга фронту генерал А. Е. Эверт



Да зместу

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА. ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НА РАСІЙСКА-ГЕРМАНСКІМ ФРОНЦЕ ў 1916 г.




| Кольксасны склад расійскай дзеючай арміі на Заходнім тэатры ваенных дзеянняў (тыс.) | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Ніжніх чыноў | | Коней | | |
| Дата | Афіцэраў | Урачоў | Класных чыноў | страявых | нестраявых | страявых | запражных артылерыйскіх | абозных |
| 1.02.1916 | 80,6 | 12,1 | 22,5 | 4587,1 | 943,9 | 379,0 | 316,2 | 772,6 |
| 1.09.1916 | 101,4 | 13,8 | 29,7 | 4760,0 | 970,7 | 418,0 | 362,0 | 839,2 |
| 1.11.1916 | 103,7 | 14,0 | 31,9 | 5068,3 | 1113,8 | 414,0 | 365,7 | 878,9 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

ВЕНА — Сталіца дзяржавы

МАГІЛЁЎ — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі

Бабруйск — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

дзяржаў

губерняў Расійскай імперыі

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Чыгункі

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Войскі цэнтральных дзяржаў | Расійскія войскі | Румынскія войскі

Разгортванне войскаў

Дзеянні войскаў

Перамяшчэнне войскаў

① Наступленне расійскіх войскаў каля возера Нарач і Дзвінска 18—30.03

② Наступальная аперацыя войскаў Паўднёва-Заходняга фронту 4.06 — пачатак верасня

14.(27).08.1916 Уступленне Румыніі ў вайну на баку Антанты

28.08 Наступленне румынскіх войскаў у Трансільваніі

③ Утварэнне Румынскага фронту (снежань) у выніку паражэння румынскай арміі ў час наступлення германа-аўстрыйскіх войскаў 20.09 — снежань

Межы ваенных акруг на тэатры ваенных дзеянняў

Петраградскай (з 11.09.1914 г.)

Дзвінскай (са жніўня 1915 г.)

Мінскай (са жніўня 1915 г.)

Кіеўскай

Адэскай

Стаўкі Вярхоўных галоўнакамандуючых

Штабы франтоў

Штабы Дзвінскай і Мінскай акруг (падпарадкаваны начальніку забеспячэння Паўночнага і Заходняга франтоў)

8А 3А Нумары армій

Лінія фронту на пачатак кампаніі

Лінія фронту ў канцы кампаніі

Размежавальныя лініі паміж франтамі расійскай арміі

Крэпасці

Скарачэнні, прынятыя на карце:

д дывізія

к корпус

пд пд пяхотная дывізія

Заўвага. Даты прыведзены па новым стылі

1:5 500 000



Да зместу

СВЯНЦЯНСКІ ПРАРЫЎ 1915 г.






Да зместу

# БАРАНАВІЦКАЯ АПЕРАЦЫЯ 20.06(3.07)–12(25).07.1916 г.






Галоўнакамандуючы германскім Усходнім фронтам генерал-фельдмаршал Леапольд Вітэльсбах



Камандуючы 4-й расійскай арміяй генерал А. Ф. Рагоза



Да зместу

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА. ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НА РАСІЙСКА-ГЕРМАНСКІМ ФРОНЦЕ ў 1917 г.




| Акруга | Колькасць ваеннапалонных | | |
|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку розных | У тым ліку франтавых |
| Петраградская | 61 795 | 39 795 | 22 000 |
| Дзвінская | 56 947 | 41 447 | 15 500 |
| Мінская | 78 247 | 59170 | 19 077 |
| Кіеўская | 406 078 | 156 078 | 250 000 |
| Адэская | 217 566 | 114 481 | 103 085 |

Колькасць замежных ваеннапалонных у вайсковых акругах на 1.09.1917

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВЕНА — Сталіца дзяржавы
- МАГІЛЁЎ — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- Бабруйск — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў
- губерняў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Чыгункі

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Войскі цэнтральных дзяржаў — Расійскія войскі — Дзеянні войскаў

1. Мітаўская аперацыя 5—12.01
2. Наступленне расійскіх войскаў на Тарнопальскім напрамку 1—13.07
3. Контрудар германскіх войскаў і адыход расійскіх войскаў 19—28.07
4. Наступленне германскіх войскаў пад Рыгай 1—6.09

Межы ваенных акруг на тэатры ваенных дзеянняў

- Петраградскай (з 11.09.1914 г.)
- Дзвінскай (са жніўня 1915 г.)
- Мінскай (са жніўня 1915 г.)
- Кіеўскай
- Адэскай

- Штабы франтоў
- Штабы Дзвінскай і Мінскай акруг (падпарадкаваны начальніку забеспячэння Паўночнага і Заходняга франтоў)
- 8 А 3 А — Нумары армій
- Лінія фронту на пачатак кампаніі
- Лінія фронту ў канцы кампаніі

- Размежавальныя лініі паміж франтамі расійскай арміі
- Узброеныя выступленні ў войсках
- 16.03 — Даты змены ўлады у губернскіх цэнтрах
- 17.03 — Даты стварэння першых Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў у Беларусі
- Выканаўчы камітэт армій Заходняга фронту (з красавіка 1917 г.)
- Усталяванне Савецкай улады
- Дагавор аб перамір'і 2(15).12.1917 г.
- Ліквідацыя Стаўкі Вярхоўнага галоўнакамандуючага
- Крэпасці

Скарачэнні, прынятыя на карце:
пд — пяхотная дывізія

Заўвага. Даты прыведзены па новым стылі

1:5 500 000



Да зместу

## ТЭРЫТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ПЕРЫЯД ГЕРМАНСКАЙ АКУПАЦЫІ. 1915–1917 гг.






Да зместу


Генеральная Карта
ГРОДНЕНСКОЙ ГУБЕРНІИ
и
БѢЛОСТОКСКОЙ ОБЛАСТИ
Съ показаніемъ почтовыхъ и большихъ проѣзжихъ дорогъ, станцій и разстоянія между оными верстъ.
Сочинена по новѣйшимъ и достовѣрнымъ свѣденіямъ
1820 года.
въ Ст. Петербургѣ
Гродно
Grodno
Białystok
Бѣлостокъ
Sokołka
Соколка
Bielsk
Бѣльскъ
Волковыскъ
Wołkowisk

## САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

Пасля далучэння да Расійскай імперыі эканоміка Беларусі апынулася ў новых палітычных і гаспадарчых умовах. Царскі ўрад праводзіў тут палітыку насаджэння рускага памеснага землеўладання. Былыя дзяржаўныя і духоўныя землі, канфіскаваныя маёнткі мясцовых землеўласнікаў, якія адмовіліся прысягнуць на вернасць новай уладзе, а таксама ўдзельнікаў паўстання 1794 г. раздаваліся расійскім вяльможам, ваенным і грамадзянскім чыноўнікам. За 1772—1801 гг. было канфіскавана больш за 445 тыс. і падаравана ў спадчыннае валоданне з розных зямельных фондаў каля 380 тыс. рэвізскіх (мужчынскіх) душ сялян. У выніку на беларуска-літоўскіх землях з'явілася больш за 200 новых землеўладальнікаў. Большасць падараванняў (звыш 2/3 ад агульнай колькасці) адбылося пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай з зямель Віцебшчыны і Магілёўшчыны. Так, графу Завадоўскаму дасталася Магілёўская эканомія (25 860 сялян), генерал-аншэфу князю Пацёмкіну — Крычаўскае староства (14 250 душ), генерал-фельдмаршалу графу Румянцаву — Гомельскае староства (11 100 прыгонных), генерал-фельдмаршалу графу Чарнышову — Чачэрскае староства (5 100 сялян). Падараванні і канфіскацыі маёнткаў (а пазней продаж з імператарскага дазволу) адлюстроўвалі сутнасць дзяржаўнай аграрнай палітыкі на беларускіх землях. Раздача (продаж) дзяржаўных і канфіскаваных прыватных маёнткаў рускім тытулаваным дваранам з'яўлялася для царскага ўрада сродкам умацавання яго сацыяльнай апоры ў заходніх землях. З іншага боку дзяржаўная аграрная палітыка і змены суб'ектаў землеўладання ўсталёўвалі новыя аграрныя адносіны, вялі да змен у сістэме гаспадарання.

З канца 1830-х гг. ажыццяўлялася рэформа адміністрацыйна-гаспадарчага кіравання дзяржаўнай вёскай. Пачатак быў пакладзены стварэннем міністэрства дзяржаўных маёмасцей (1838 г.), якому былі перададзены агульнакіраўнічыя функцыі, што раней былі сканцэнтраваны ў Дэпартаменце дзяржаўных маёмасцей міністэрства фінансаў. Правадніком рэформы стаў міністр дзяржаўных маёмасцей П. Д. Кісялёў. У 1840—1850-я гг. праводзілася люстрацыя — падрабязнае апісанне маёнткаў і вызначэнне памераў сялянскага землекарыстання і павіннасцей. У выніку рэформы павіннасці дзяржаўных сялян (складалі каля 1/5 часткі ўсяго сялянства Беларусі) зменшыліся, зямельныя надзелы павялічыліся. З 1844 г. у дзяржаўных уладаннях Беларусі ліквідаваліся фальваркі, сяляне пераводзіліся на грашовы аброк. Памеры яго адпавядалі даходу, які атрымлівала казна па інвентарах і арэндных кантрактах. Пазней былі адменены даніна і дадатковыя адпрацовачныя павіннасці. Перавод на аброк палепшыў эканамічны стан сялян: яны атрымалі большую свабоду для гаспадарчай дзейнасці.

19 лютага 1861 г. Аляксандр II падпісаў маніфест і зацвердзіў праекты „Палажэнняў" аб адмене прыгону ў Расіі, якія атрымалі сілу закона. У маніфесце былі выкладзены асноўныя пачаткі рэформы. Адмена прыгону абвяшчалася добраахвотным ахвяраваннем і дабрадзействам дваранства. Закон аб адмене прыгону складаўся з „Агульнага палажэння», мясцовых „Палажэнняў", „Палажэнняў" аб уладкаванні дваровых людзей, выкупе, губернскіх і павятовых па сялянскіх справах установах. У „Агульным палажэнні" былі выкладзены правілы для ўсіх губерняў Расійскай імперыі, дзе меліся прыгонныя. Яно вызначала асабістыя і маёмасныя правы сялян, парадак кіравання і выканання імі казённых, земскіх і грамадскіх павіннасцей. Сяляне атрымалі шэраг грамадзянскіх (асабістых, сямейных, маёмасных) правоў: заключаць дагаворы, узбуджаць іскі, несці асабістую адказнасць перад судом, свабодна ўступаць у шлюб, браць удзел у рабоце органаў сялянскага кіравання, пераходзіць у іншыя саслоўі і сялянскія абшчыны, адлучацца месца жыхарства, паступаць на службу і ў навучальныя ўстановы, свабодна займацца гандлем і промысламі, валодаць рухомай і нерухомай маёмасцю. Разам з тым у значнай меры захаваўся з адменай прыгону пазаэканамічны прымус сялян. Памешчыкі засталіся ўласнікамі ўсёй зямлі маёнткаў. Сяляне на працягу 9 гадоў па-ранейшаму былі прымацаваны да надзелаў. Да заключэння выкупных здзелак сяляне былі на становішчы „часоваабавязаных", але і пасля заканчэння вызначанага тэрміну селянін толькі з дазволу памешчыка меў права выкупу палявой зямлі.

У Беларусі рэфармаваннем былі ахоплены 1860,3 тыс. душ прыватнаўласніцкіх сялян. Рэформа праводзілася паводле агульных узаконенняў і двух мясцовых „Палажэнняў". На Магілёўскую і Віцебскую (акрамя Дрысенскага і латгальскіх паветаў) губерні распаўсюджвалася мясцовае „Палажэнне" для губерняў „вялікарасійскіх, наварасійскіх і беларускіх". У Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай, Мінскай губернях, Дрысенскім і латгальскіх паветах Віцебскай губерні дзейнічала асобнае мясцовае „Палажэнне". Паводле першага мясцовага „Палажэння" памеры вышэйшага душавога надзелу па асобных паветах ваганіся ад 4 да 5,5 дзесяцін, ніжэйшага — ад 1,3 да 1,8 дзесяцін. Паводле другога — за сялянскай грамадой замацоўваліся надзельныя землі, якія знаходзіліся ў пастаянным карыстанні сялян на 19 лютага 1861 г. Але калі памер надзелу быў вышэйшы за інвентарны ці ў памешчыка заставалася менш чым 1/3 угоддзяў маёнтка, праводзілася адпаведная адрэзка сялянскай зямлі.

Праводзячы адрэзкі, адмежаванне і развярстанне агульных і цераспалосных зямельных угоддзяў, памешчыкі мелі магчымасць забіраць у сялян лепшыя ворныя землі, сенажаці, пашу, вадапоі, усё гэта выкарыстоўвалася для закабалення сялян. У выніку „Палажэнні" абумовілі рост абеззямелення сялянства, пралетарызацыю яго асноўнай масы. Згодна з імі за пастаяннае карыстанне надзельнай зямлёй часова абавязаныя сяляне да пераводу на выкуп павінны былі па-ранейшаму адбываць грашовыя (аброк) і адпрацовачныя (паншчына) феадальныя павіннасці. Памер іх вызначаўся ўстаўнымі граматамі. Уздым сялянскага руху супраць памешчыкаў у Беларусі і Літве, пачатак паўстання ў Каралеўстве Польскім прымусілі царскі ўрад пайсці на пэўныя ўступкі былым прыгонным, каб прыцягнуць іх на свой бок. Указам ад 1 сакавіка 1863 г. у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Ковенскай губернях, Дрысенскім і латгальскіх паветах Віцебскай губерні абавязковыя адносіны паміж сялянствам і памешчыкамі спыняліся. Сялян, што адбывалі паншчыну, пераводзілі на аброк з памяншэннем яго на 20% супраць аброчных плацяжоў, вызначаных устаўнымі граматамі. З 1 студзеня 1864 г. спыняліся абавязковыя адносіны ў Магілёўскай і астатніх паветах Віцебскай губерняў. Такім чынам, пасля рэформы 1861 г. сельская гаспадарка Беларусі набыла таварна-капіталістычны характар. Развіццё капіталістычных адносін у ёй выяўлялася ў росце прадукцыйных сіл, ураджайнасці і асабліва памераў гандлёвай прадукцыі збожжа, бульбы, лёну, жывёлагадоўлі, паглыбленні спецыялізацыі, паляпшэнні агратэхнікі і тэхнічнай узброенасці сельскагаспадарчай вытворчасці, паступовым выцясненні кабальных форм працы вольным наймам, класавай дыферэнцыяцыі сялянства.

На пачатку XX ст. адбылася яшчэ адна аграрная рэформа — Сталыпінская (названая па прозвішчы старшыні Савета Міністраў П. А. Сталыпіна). Галоўны змест рэформы заключаўся ў разбурэнні сельскай пазямельнай абшчыны, насаджэнні дробнакапіталістычнай сялянскай зямельнай уласнасці і хутарской сістэмы формы землекарыстання, перасяленні беззямельных і малазямельных сялян у Сібір, на Далёкі Усход, у Сярэднюю Азію, Казахстан і іншыя ўскраінныя рэгіёны Расійскай імперыі.

Адпаведныя зрухі адбываліся і ў прамысловым сектары. На тэрыторыі Беларусі былі прадстаўлены ўсе тры асноўныя формы арганізацыі прамысловасці XIX ст. — дробнатаварная, мануфактурная і фабрычная вытворчасць. Пасля адмены прыгоннага права і рэформ 1860—1870-х гг. яны захаваліся і атрымалі далейшае развіццё. Пры гэтым значна ўзрасла роля фабрычна-заводскай прамысловасці, якая ўпэўнена заняла дамінуючае месца ў прамысловым сектары беларускай эканомікі. Яна з'яўлялася лідарам тэхнічнага прагрэсу, на ёй базіраваліся новыя для Беларусі вытворчасці прамысловых тавараў. Мануфактурная і дробнатаварная вытворчасць, хоць і саступалі фабрычна-заводскай па тэхнічным ўзбраенні і ступені канцэнтрацыі прадукцыйных сіл, у агульным памеры вытворчасці займалі значнае месца. Тут нават назіраліся некаторыя рысы канцэнтрацыі вытворчасці. Так, мястэчка Смаргонь стала цэнтрам гарбарнай прамысловасці, мястэчка Дуброўна спецыялізавалася на вытворчасці талесаў, Копысь — кафлі.

Прамысловасць Беларусі канца XVIII — першай паловы XIX ст. у асноўным абапіралася на мясцовую сыравінную базу. Гэта вызначыла развіццё яе вядучых галін — харчовай і тэкстыльнай. У харчовай прамысловасці дарэформеннай Беларусі галоўнай галіной было вінакурства, пазней да яе далучылася вытворчасць цукру. У мукамольнай прамысловасці былі прадстаўлены ўладальнікі прадпрыемстваў з усіх саслоўяў і ўсе формы арганізацыі вытворчасці: дробнатаварная, мануфактурная і фабрычная. У 1841 г. пачаў працаваць першы ў Беларусі паравы млын (Магілёў). Пазней такія млыны з'явіліся ў Пінску і Віцебску. Тытунёвыя прадпрыемствы належалі купцам і мяшчанам і размяшчаліся толькі ў гарадах. Пачынаючы з другой чвэрці XIX ст. вельмі хутка развіваліся такія новыя для Беларусі галіны прамысловасці, як свечачная і мылаварная. Па памерах вытворчасці і дасканаласці тэхнічнага абсталявання значна вызначаўся Альбрэхтаўскі стэарынава-свечачны і мылаварны завод варшаўскага купца Р. Боттэ (наваколле Пінска)—адно з лепшых прадпрыемстваў у Еўропе. У тэкстыльнай прамысловасці ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. панавала вытворчасць палатняных, з 20-х гг. XIX ст. — ваўняных тканін. Да ліку лепшых прадпрыемстваў Беларусі належалі суконныя фабрыкі ў Альбярціне (Гродзенская губ.) і Парэччы (Мінская губ.). Яны, як і шэраг іншых беларускіх прадпрыемстваў, неаднаразова ўдзельнічалі ў айчынных і замежных выстаўках і атрымлівалі высокія ўзнагароды, што сведчыла аб адпаведнасці іх прадукцыі еўрапейскім і сусветным узорам.

Попыт на металічныя вырабы разам з высокімі коштамі на прывазное жалеза прывёў да кароткачасовага ўздыму беларускай чорнай металургіі. З 1828 па 1860 г. колькасць выплаўленага і перарobленага ў Беларусі жалеза ўзрасла з 5,3 да 245 тыс. пудоў, а сума вытворчасці з 10,8 да 569,1 тыс. руб. Найбольш стабільна працавалі металургічныя і металаапрацоўчыя прадпрыемствы Храптовіча ў Вішневе (Ашмянскі пав.), Барысаўшчынскі металургічны завод (Барысаўскі пав.), Старынкаўскі чыгунаплавільны і машынабудаўнічы завод памешчыка Бенкендорфа (Чэрыкаўскі пав.). На перапрацоўцы лясных багаццяў Беларусі базіраваліся шматлікія галіны лясной прамысловасці: лесапілаванне, вытворчасць будаўнічага гонту, суднабудаўніцтва, экіпажнае майстэрства, паташныя, дзягцярныя, смалакурныя і шкіпінарныя прадпрыемствы.

У пасляэформенны час вядучае месца засталося за рознымі галінамі харчовай прамысловасці. Другараднае значэнне мелі тэкстыльная, гарбарная, шкляная, сілікатна-будаўнічая. Якасныя змены адбыліся ў лясной прамысловасці. Побач з вывазам сырога лесу ўзніклі прадпрыемствы па глыбокай пераапрацоўцы драўніны. Лідарам у гэтай галіне стала Добрушская папяровая фабрыка. Даволі вялікія папяровыя фабрыкі дзейнічалі паблізу Чашнікаў у Лепельскім пав. („Скіна", заснавана ў 1885 г.) і ў Шклове (заснавана ў 1890 г.). Да ліку прамысловых галін Беларусі, якія развіваліся вельмі дынамічна, адносілася вытворчасць запалак. У канцы XIX ст. буйныя запалкавыя фабрыкі дзейнічалі ў Барысаве, Койданаве, Мазыры, Пінску і Навабеліцы. Шматлікія прадпрыемствы лясной прамысловасці Беларусі выраблялі дошкі, гонт, паркет, шпалы, запалкавую саломку, драўняную масу, картон. Відавочным сведчаннем канцэнтрацыі вытворчасці ў лесахімічнай прамысловасці было з'яўленне ў канцы XIX ст. буйных заводаў сухой перагонкі драўніны ў Аршанскім, Рагачоўскім і Сенненскім паветах. Гарбарная, шкляная і сілікатна-будаўнічая галіны прамысловасці паступова павялічвалі памеры вытворчасці.

Новай з'явай у эканоміцы Беларусі другой паловы XIX ст. было будаўніцтва асобных прадпрыемстваў, якія займалі выключнае, часта манапольнае становішча ў адпаведнай вытворчасці. Так, у Гродне была пабудавана алоўкавая фабрыка. У Віцебску пачала дзейнічаць фабрыка акуляраў і аптычных прылад — першая ў Расійскай імперыі. Адзіным у паўночна-заходніх губернях суднабудаўнічым заводам стаў завод у Пінску.

На пачатку XX ст. пры захаванні той галіновай структуры вытворчасці, якая склалася ў XIX ст., амаль што ў кожнай галіне адбываліся перамены. Па-першае, больш рэзка вызначылася роля адносна буйных прадпрыемстваў — лідараў у сваёй галіне, як старых (але значна мадэрнізаваных), так і пабудаваных нанава. Па-другое, ва ўсіх галінах ішла тэхналагічная перабудова, назіраўся рост энергаўзбраення праз укараненне не толькі паравых рухавікоў, але і рухавікоў унутранага згарання і электрарухавікоў.

Сведчаннем канцэнтрацыі і манапалізацыі вытворчасці стала з'яўленне сіндыкатаў і манапалістычных аб'яднанняў. У 1905 г. быў створаны сіндыкат кафельных заводчыкаў у Копысі, у 1906 г. — сіндыкат піваварных заводчыкаў паўночна-заходняга краю ў Оршы, у 1911 г. — сіндыкат „Продакон", куды ўвайшлі ўладальнікі канвертавых фабрык Брэста, Вільна і Адэсы. Здаралася, што беларускія прад-



Да зместу

прымальнікі былі ініцыятарамі агульнарасійскіх манапольных аб'яднанняў. Так, князь Друцкі-Сакалінскі быў сярод тых, хто ў 1912 г. стварыў трэст дрожджава-вінакурных заводаў, у які першапачаткова ўвайшло 36 прадпрыемстваў з агульным капіталам у 15 млн руб.

Пасля правядзення ў 1895—1897 гг. міністрам фінансаў С. Ю. Вітэ рэформы рубель стаў адной з самых стабільных грашовых адзінак у свеце. Гэта садзейнічала прытоку замежных капіталаў і агульнаму ажыўленню эканамічнага жыцця. У 1860 г. быў заснаваны Дзяржаўны банк Расійскай імперыі, яго аддзяленні ў 1881—1885 гг. былі адкрыты ва ўсіх беларускіх губернскіх гарадах. Па колькасці ўлічаных вэксаляў мінскае аддзяленне Дзяржбанка на рубяжы стагоддзяў займала пятае месца ў Расійскай імперыі. У якасці саслоўных крэдытных устаноў дзейнічалі іпатэчныя дзяржаўныя банкі — Сялянскі пазямельны банк (з 1883 г.), Дваранскі зямельны банк (з 1885 г.). Новы дзяржаўны курс у галіне фінансава-крэдытных адносін выявіўся ў дазволе на дзейнасць прыватных банкаў. У 1873 г. пачаў сваю дзейнасць Мінскі камерцыйны банк — найбуйнейшы прыватны банк Беларусі. У перыяд прамысловага пад'ёму 90-х гг. банк адкрыў 11 філіялаў, у тым ліку 9 — за межамі беларускіх губерняў. Дробнае і кароткачасовае крэдытаванне ажыццяўлялі банкірскія і банкаўскія канторы. На тэрыторыі Беларусі дзейнічалі агульнарасійскія і рэгіянальныя прыватныя камерцыйныя банкі: Пецярбургска-Азоўскі, Арлоўскі, Варшаўскі, Рыжскі, Адэскі, Віленскі, Беластоцкі і шэраг іншых.

У канцы XVIII — першай палове XIX ст. беларускія губерні ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі, мелі больш развітую сістэму шляхоў зносін. Гэта з'явілася вынікам інтэнсіўнага будаўніцтва водных і сухапутных шляхоў. У 1799 г. пачаліся работы па паляпшэнні Агінскага канала. Быў рэканструяваны і Каралеўскі канал, які па ўказе ад 9 снежня 1846 г. пачаў называцца Дняпроўска-Бугскім. У 1797 г. імператар Павел I зацвердзіў праект будаўніцтва Бярэзінскай сістэмы, якая злучыла басейны Дняпра і Заходняй Дзвіны. Мытныя спрэчкі паміж Прусіяй і Расійскай імперыяй у першай чвэрці XIX ст. прывялі да думкі злучыць Нёман і Віслу водным шляхам у абыход прускіх зямель. Так нарадзіўся праект Аўгустоўскай воднай сістэмы на стыку беларускіх і польскіх губерняў. Яе будаўніцтва вялося ў 1824—1839 гг. У выніку ў першай палове XIX ст. амаль што ўсе буйныя рэкі Беларусі былі злучаны штучнымі воднымі шляхамі. Да пачатку 1860-х гг. даўжыня суднаходных шляхоў па пяці беларускіх губернях складала каля 4 тыс. км., сплаўных — прыкладна ўдвая больш. Напярэдадні Першай сусветнай вайны ў паўночна-заходніх губернях на 1 тыс. кв. вёрстаў прыходзілася 46 вёрстаў водных шляхоў, у той час як па 50 губернях Еўрапейскай Расіі гэты паказчык складаў прыкладна 19 вёрстаў.

З 1817 г. у Расійскай імперыі пачалося будаўніцтва шашэйных дарог. Да 60-х гг. XIX ст. праз Беларусь прайшлі такія важныя сухапутныя шляхі, як шаша Брэст—Варшава (будаўніцтва скончылася ў 1823 г., працягласць 177 вёрстаў), Масква—Брэст (1849 г., 1000 вёрстаў), Віцебск—Смаленск (1855 г., 286 вёрстаў), Магілёў—Бабруйск (1850 г., 107 вёрстаў). Шаша з Пецярбурга ў Кіеў атрымала афіцыйную назву Беларускага тракта. Новымі сродкамі транспарту стаў аўтамабіль. У 1909—1914 гг. некаторыя беларускія гарады і населеныя пункты звязвалі рэгулярныя аўтамабільныя маршруты.

Асаблівае значэнне для развіцця эканомікі Беларусі мела інтэнсіўнае чыгуначнае будаўніцтва, якое разгарнулася з 1860-х гг. Праз Гродна ў 1862 г. прайшла чыгунка Санкт-Пецярбург—Варшава. У 1866—1868 гг. Віцебск і Полацк сталі станцыямі Рыга-Арлоўскай чыгункі. У 1871 г. з усходу на захад Беларусь перасекла чыгунка Масква—Брэст. Праз два гады пачаўся рух на беларускім участку (Смаргонь—Маладзечна—Мінск—Асіповічы—Бабруйск—Жлобін—Гомель) Лібава-Роменскай чыгункі. У той жа час праз Брэст прайшла чыгунка з Украіны да мяжы з Прусіяй. Такім чынам, беларускія губерні атрымалі надзейны сродак зносін з Пецярбургам і Масквой, Украінай, партовымі гарадамі Рыгай і Лібавай, Варшавай і Заходняй Еўропай. 8 жніўня 1887 г. на станцыі Гомель урачыста было адзначана завяршэнне будаўніцтва сеткі казённых Палескіх чыгунак. У 1902 г., як вынік будаўніцтва чыгункі Віцебск—Жлобін, чыгуначную сувязь апошнім з беларускіх губернскіх гарадоў атрымаў Магілёў. У 1907 г. была здадзена ў эксплуатацыю чыгуначная лінія Полацк—Сядлец, якая прайшла праз Вілейку, Маладзечна, Ліду, Масты, Ваўкавыск, Свіслач. Характэрнай рысай таго часу стала будаўніцтва чыгуначных адгалінаванняў ад асноўных магістралей, для абслугоўвання мясцовых патрэб. Гэта былі чыгуначныя веткі Асіповічы—Старыя Дарогі—Урэчча, Вярэйцы—Градзянка, Васілевічы—Хойнікі. У 1913 г. насычанасць Беларусі чыгункамі была ў 1,8 разоў вышэй, чым па Еўрапейскай частцы Расійскай імперыі. Кожны рэгіён Беларусі, праз які праходзіла чыгунка, атрымліваў моцны стымул для эканамічнага росту. Так, за першыя 25 гадоў эксплуатацыі Палескіх чыгунак іх грузаабарот узрос у 50 разоў. Колькасць усіх фабрык і заводаў у раёне Палескіх чыгунак узрасла з 674 да 4 000 з гадавой вытворчасцю каля 60 млн руб.

Развіццё шляхоў зносін (асабліва чыгуначнага транспарту) і выхад на рынак вялікай колькасці прамысловай прадукцыі выклікалі адпаведныя змены ў структуры гандлю. У першай палове XIX ст. гандаль ажыццяўляўся ў асноўным па водных шляхах. У 1844 г. па рэках Беларусі было перавезена грузаў на 8,8 млн руб., а ў 1860 г. — на 18 млн руб. Асабліва павялічыўся сплаў лесу — асноўнага экспартнага тавару Беларусі. У структуры ўнутранага гандлю пераважалі кірмашы. Па колькасці кірмашоў вылучаліся Магілёўская, Мінская і Гродзенская губерні. Найбуйнейшымі з іх былі Бешанковіцкі, Гомельскі, Зэльвенскі, Мінскі, Свіслацкі і інш. З другой паловы XIX ст. кірмашы страцілі сваё значэнне, на іх змену прыйшлі крамы. Да канца XIX ст. гандаль у крамах сканцэнтраваў 95 % усяго гарадскога ўнутранага гандлёвага абароту. Некаторыя гарады мелі гандлёвы абарот звыш 1 млн руб. Тавараабарот у сельскай мясцовасці быў нізкі і значна адставаў ад гарадскога. Па паказчыках на душу насельніцтва ў 1900 г. ён быў меншы за тавараабарот у гарадах у 7 разоў.

На працягу XIX ст. адбыліся змены і ў структуры знешняга гандлю. Па агульных паказчыках па-ранейшаму пераважаў вываз сельскагаспадарчай прадукцыі і лесаматэрыялаў. Разам з тым устойлівым попытам на знешнім рынку сталі карыстацца не толькі беларуская сыравіна (лён, мяса і жывёла, птушка, яйкі, шчаціннe, сыры лес), але і вырабы сельскагаспадарчай прамысловасці (масла, сыр, крухмал), а таксама фабрычна-заводскай вытворчасці (папера, запалкі, дыхта, льняная пража, апрацаваныя скуры). Як і раней, Беларусь заставалася раёнам развітога вінакурства, чыя прадукцыя перавышала патрэбу мясцовага рынку і ў значнай колькасці ішла за межы беларускіх губерняў. У пачатку XX ст. Беларусь цалкам пераўтварылася ў раён увозу збожжавых грузаў. Вываз збожжа за мяжу быў нязначны. Асноўная маса беларускага збожжа ішла на ўнутраны рынак для спажывання мясцовым насельніцтвам і на патрэбы вінакурнай і піваварнай прамысловасці. У 1901—1913 гг. на Беларусь прыходзілася 10,4 % усерасійскага вывазу льновалакна. Штогод вывозілася каля 1530 тыс. пудоў ільнянога семя. Прынцыпова новай з'явай у арганізацыі гандлю стала ўзнікненне біржаў. У 1904 г. быў зацверджаны статут Мінскай лясной біржы. У 1906 г. пачала дзейнічаць Гродзенска-Лібаўская гандлёва-прамысловая біржавая арцель, з 1912 г. — Віцебская гандлёвая біржа. Буйныя прадпрыемствы мелі свае гандлёвыя аддзяленні ў розных гарадах. Напрыклад, у 1914 г. Добрушская папяровая фабрыка мела прадстаўніцтвы ў Мінску, Вільне, Варшаве, Кіеве, Адэсе, Елізаветградзе, Растове-на-Доне, Саратаве, Харкаве.

Важнай мерай, якая падтрымлівала развіццё не толькі гандлю, але і ўсёй эканомікі, з'яўлялася дзяржаўная мытная палітыка. Пратэкцыяніцкі курс, якога Расійская імперыя прытрымлівалася ў 1822—1850 гг., павінен быў садзейнічаць станаўленню капіталістычных тэндэнцый у развіцці гаспадаркі і ўмацаваць уплыў яе знешнегандлёвых сувязей на сусветным рынку. У той жа час паміж Царствам Польскім і асноўнай часткай Расійскай імперыі існавала мытная мяжа. Менавіта яе адмена па ўказе ад 21 красавіка 1850 г. прывяла да значнага памяншэння абаротаў самых буйных кірмашоў на захадзе Беларусі ўздоўж мытнай мяжы.

Асноўныя зрухі ў жыцці беларускіх гарадскіх паселішчаў канца XVIII — 50-х гг. XIX ст. звязаны са змяненнем іх адміністрацыйнага статусу. Паводле законаў Расійскай імперыі яе гарады падзяляліся на губернскія, павятовыя і заштатныя. Захавалася роля Вільна як агульнага цэнтра Беларусі і Літвы. Гэтаму садзейнічаў статус Віленскага генерал-губернатарства, сканцэтраванне там адміністрацыйнай улады і культурнага жыцця. Разам з гарадамі істотную ролю ў эканамічным жыцці Беларусі адыгрывалі мястэчкі. Ад вёсак іх адрознівала права на вядзенне гандлю, рамёстваў, ад гарадоў — адсутнасць сістэмы гарадскога самакіравання і гарадскіх правоў для местачковага насельніцтва. У параўнанні з гарадамі мястэчкі не адыгрывалі адміністрацыйнай ролі, саступалі ім па развіцці прамысловасці. Разам з тым гандлёвае значэнне шэрагу мястэчак не толькі не саступала гарадам, а іншы раз і перабольшвала памеры гарадскога гандлю (Бешанковічы, Зэльва, Прыбарава, Свіслач, Стоўбцы, Целяханы).

Усяго ў Беларусі перад пачаткам Першай сусветнай вайны налічвалася 45 гарадоў: чатыры губернскія (Віцебск, Гродна, Магілёў, Мінск); 31 павятовы (Ашмяны, Бабруйск, Барысаў, Брэст, Вілейка, Ваўкавыск, Гомель, Гарадок, Горкі, Дзісна, Дрыса, Ігумен, Клімавічы, Кобрын, Лепель, Ліда, Мазыр, Мсціслаў, Навагрудак, Орша, Пінск, Полацк, Пружаны, Рэчыца, Рагачоў, Слонім, Слуцк, Стары Быхаў, Сянно, Чавусы, Чэрыкаў); 10 пазаштатных (Адэльск, Бабінавічы, Відзы, Докшыцы, Друя, Копысь, Нясвіж, Радашковічы, Сураж, Смаргонь — з 1904 г. са статусам безпавятовы). Да 80 % гарадскога жыллёвага фонду складалі аднапавярховыя жылыя дамы. Найвышэйшы паказчык каменнай забудовы (ад 40 да 47% усёй забудовы, даныя на 1910 г.) назіраўся ў Гродне, Брэсце і Лідзе. У 1895 г. у Мінску пачала працаваць першая гарадская электрастанцыя, пазней яны з'явіліся ў Віцебску, Гродне і Пінску. У 13 гарадах (Барысаве, Віцебску, Гомелі, Горках, Гродне, Ігумене, Магілёве, Мазыры, Мінску, Пінску, Рэчыцы, Слоніме, Старым Быхаве) дзейнічала тэлефонная сувязь. Водапровод у 1910 г. меўся ў сямі гарадах — чатырох губернскіх, а таксама ў Гомелі, Мазыры і Слоніме. У Мінску дзейнічала конка, у Віцебску — трамвай.

Для ўліку насельніцтва на тэрыторыі Беларусі былі распаўсюджаны перапісы (рэвізіі), якія ўлічвалі толькі тыя саслоўі і групы насельніцтва, якія павінны былі плаціць падаткі. Збор статыстычнай інфармацыі аб прывілеяваных саслоўях і групах (дваранах, духавенстве, дзяржаўных служачых) ажыццяўляўся праз губернскія канцылярыі, духоўныя ўстановы, ваеннае ведамства і звычайна прымяркоўся да тэрміну правядзення рэвізій. Па даных 5-й рэвізіі (1796 г.) на тэрыторыі Беларусі (прыкладна ў сучасных яе межах) пражывала 2 636 тыс. чалавек, з іх 96,5% складала сельскае, 3,5% — гарадское насельніцтва. Да канца 1850-х гг. адбылося нязначнае павелічэнне колькасці насельніцтва з 2 636 да 3 398 тыс. чалавек (на 28,9%). Суадносіны паміж гарадскім і сельскім насельніцтвам змяніліся на карысць гарадскога: 91,6% — сельскае, 8,4% — гарадское.

Змены, што адбыліся ў складзе насельніцтва Беларусі да канца XIX ст., былі адлюстраваны перапісам 1897 г. Усяго на гэты час у пяці губернях (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай) зафіксавана 8 518,2 тыс. чал. (у т. л. у межах 35 паветаў — 6 493,6 тыс. чал.). Беларусы (па роднай мове) складалі 5 404,4 тыс. чал. (63,5%), з іх: у Віленскай — 56,1%; Віцебскай — 53,0%; Гродзенскай — 44,0%; Мінскай — 76,0%; Магілёўскай — 82,4%. Па саслоўным прынцыпе насельніцтва размяркоўвалася: спадчынныя дваране — 2,4%; сяляне — 75,3; мяшчане — 20,9; асабістыя дваране і чыноўнікі— 0,4% і інш. Удзельная вага пісьменнага насельніцтва склала: у Віленскай губ. — 33,9%; Віцебскай — 25,2%; Гродзенскай — 33,1%; Магілёўскай — 23,3%; Мінскай — 23,8%. У канфесійных адносінах насельніцтва Беларусі было даволі стракатым. Вялікая частка насельніцтва (прыкладна ў сучасных яе межах) была праваслаўнай (4 599,4 тыс. або 70,8% разам з аднаверцамі); 13,5% (879,7 тыс. чал.) складалі рыма-каталікі, 822,9 тыс. чал. (12,7%) — іўдзеі. Акрамя гэтага, на тэрыторыі Беларусі пражывала 64,7 тыс. стараверaў (1%); 24,5 тыс. пратэстантаў (0,4%) і 9,6 тыс. мусульман (0,1%). На 1 студзеня 1914 г. колькасць насельніцтва пяці губерняў павялічылася да 11 869,6 тыс. чал., з якіх гарадское насельніцтва складала 13,4% (па 35 паветах — адпаведна 8 952,8 тыс. чал. і 10,9%).

Такім чынам, на працягу XIX — пачатку XX ст. сацыяльна-эканамічнае аблічча Беларусі значна змянілася: адбыліся колькасныя і якасныя змены ў сацыяльным, этнаканфесійным, адукацыйным складзе насельніцтва, народная гаспадарка Беларусі паступова набывала рысы капіталістычнай эканомікі, усе яе галіны значна трансфармаваліся пад уплывам прамысловага перавароту і працэсаў капіталістычнай індустрыялізацыі.

А. Л. Кіштымаў, В. В. Яноўская



Да зместу

## ЗМЕНЫ Ў СТРУКТУРЫ ЗЯМЕЛЬНЫХ УЛАДАННЯЎ У БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯХ. 1772–1801 гг.






Да зместу




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- **МІНСК** — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ПОЛАЦК — Цэнтры паветаў
- Копысь — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у 1800 г.
- Рэчы Паспалітай у 1772 г.
- Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай

Падзелаў Рэчы Паспалітай

- 1-га падзелу (1772 г.)
- 2-га падзелу (1793 г.)
- 3-га падзелу (1795 г.)
- губерняў Расійскай імперыі ў 1800 г.
- паветаў Расійскай імперыі ў 1800 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ ГУБЕРНЯЎ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ Ў 1800г.**

- Літоўскай
- Беларускай
- Мінскай
- Іншыя губерніі Расійскай імперыі

**ЦЭНТРЫ МАЁНТКАЎ, ПАДАРАВАНЫХ РАСІЙСКІМІ ЎЛАДАМІ Ў СПАДЧЫННУЮ ЎЛАСНАСЦЬ**

**Прыналежнасць па тыпу ўласнасці да канфіскацыі**

- Дзяржаўныя
- Магнацкія
- Царкоўныя (духоўныя)
- Шляхецкія

Тэрыторыі маёнткаў, падараваных расійскімі ўладамі ў спадчынную ўласнасць (цэнтры маёнткаў не вызначаны: 1 Непаротаўскае войтаўства, 2 Ісцецкае войтаўства)

**КАНФІСКАЦЫІ І ПАДАРАВАННІ ЗЯМЕЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ ВКЛ ЗА ПЕРЫЯД 1772–1801 гг. ПА ГУБЕРНЯХ**
(тыс. рэвізскіх душ; удзельная вага (%))




154,7 Канфіскацыі (тыс. рэвізскіх душ)
63,7 Падараванні (тыс. рэвізскіх душ)
29,7 Удзельная вага (%)

**Тыпы маёмасці ВКЛ**

- Прыватныя маёнткі
- Каралеўскія эканоміі
- Каронныя старостыы
- Царкоўныя (духоўныя маёнткі)
- Нявызначаныя

Лічбамі на карце абазначаны цэнтры маёнткаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 Дубневічы | 4 Пазнякова | 7 Машэніна | 10 Леснікі |
| 2 Смотрава | 5 Горнава | 8 Параф'янаў | 11 Граеўскія Старынкі |
| 3 Захарава | 6 Ушакова | 9 Пяршай | 12 Мілейчыцы |

1:2 000 000

**КАНФІСКАЦЫІ І ПАДАРАВАННІ ЗЯМЕЛЬНАЙ УЛАСНАСЦІ ВКЛ ЗА ПЕРЫЯД 1772–1801 гг. ПА ЎСІХ ГУБЕРНЯХ**
(тыс. рэвізскіх душ; удзельная вага (%))




**Тыпы маемасці ВКЛ**

- Прыватныя маёнткі
- Духоўныя маёнткі
- Каронныя старостыы
- Нявызначаныя
- Каралеўскія эканоміі

1 мм слупка — 2 тыс. рэвізскіх душ



Да зместу

# РЭФОРМЫ Ў ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ ў першай палове XIX ст.




| НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ | |
|---|---|
| ◎ ВІЦЕБСК | Цэнтры губерняў з 18 снежня 1842 г. |
| ⊙ ОРША | Цэнтры паветаў з 18 снежня 1842 г. |
| ○ НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| ○ Капыль | Іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- Расійскай імперыі з 1815 г.
- губерняў Расійскай імперыі з 18 снежня 1842 г.
- паветаў з 18 снежня 1842 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**РЭФОРМА П. Д. КІСЯЛЁВА**

Павелічэнне зямельных надзелаў дзяржаўных сялян (у працэнтах)

- 85
- 30–36
- 15

Змяншэнне павіннасцей дзяржаўных сялян (у працэнтах)

- 63–65
- 29–52

**ІНВЕНТАРНАЯ РЭФОРМА**

1855, 1852, 1847–1848 — Увядзенне інвентарных правіл у губернях згодна з асобнымі „Палажэннямі" (па гадах)

- Тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе прыгоннае права было адменена ў пачатку XIX ст.
- Іншыя губерні Расійскай імперыі

1:3 000 000



Міністр дзяржаўных маёмасцей Расійскай імперыі генерал П. Д. Кісялёў



Карціна К. Русецкага „Жняя".



Да зместу

# СКАСАВАННЕ ПРЫГОННАГА ПРАВА Ў ЗАХОДНІХ ГУБЕРНЯХ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ




Віленскі генерал-губернатар У. І. Назімаў

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

◎ ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі

○ Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

Расійскай імперыі

губерняў Расійскай імперыі

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

20.11.1857 — Рэскрыпт Аляксандра II на імя віленскага генерал-губернатара У. І. Назімава. Пачатак публічнай падрыхтоўкі аграрнай рэформы

1.03.1863 — Указ аб адмене з 1.05.1863 г. часоваабавязанага становішча сялян у Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губернях і ў чатырох паветах Віцебскай губерні і памяншэнні на 20% выкупных плацяжоў

2.11.1863 — Указ аб адмене з 1.01.1864 г. часоваабавязанага становішча сялян у Магілёўскай і ў васьмі паветах Віцебскай губерні і памяншэнні на 20% выкупных плацяжоў

Мяжа тэрыторый, дзе паводле закона ад 16.05.1867 г. дзяржаўныя сяляне былі пераведзены на абавязковы выкуп (залічваліся ў разрад сялян-уласнікаў)

**Зямельныя надзелы памешчыцкіх сялян паводле „Мясцовых палажэнняў" 1861 г.**

Паводле „Вялікарасійскіх палажэнняў"

- першая (нечарназёмная) паласа з душавым надзелам 1,0—7,0 дзесяцін
- другая (чарназёмная) паласа з душавым надзелам 0,9—6,0 дзесяцін
- трэцяя (сцяпная) паласа з душавым надзелам 3,0—12,0 дзесяцін

Паводле „Мясцовага палажэння" для Левабярэжнай Украіны

- з душавым надзелам 1,4—4,0 дзесяцін

Тэрыторыі губерняў, у якіх сялянскія надзелы былі павялічаны (у працэнтах)

- да 20
- больш за 20

Тэрыторыі губерняў, у якіх сялянскія надзелы былі паменшаны

1:4 000 000

Паводле „Мясцовага палажэння" для Правабярэжнай Украіны

- у сялян засталіся ўсе землі, якімі яны карысталіся паводле інвентарных правіл 1847 г. і 1848 г.

Паводле „Мясцовага палажэння" для Беларусі і Літвы

- у сялян засталіся ўсе землі, якімі яны карысталіся да 19 лютага 1861 г.

Тэрыторыі з пераважным захаваннем абшчыннага сялянскага землекарыстання

падворнага сялянскага землекарыстання

Тэрыторыі Расійскай імперыі, дзе прыгоннае права было адменена ў пачатку XIX ст.

Лічбай 1 пазначана Кацярынаслаўская губерня

# СТАЛЫПІНСКАЯ АГРАРНАЯ РЭФОРМА




| | НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ |
|---|---|
| ◎ ВІЦЕБСК | Цэнтры губерняў Расійскай імперыі |
| ○ ОРША | Цэнтры паветаў Расійскай імперыі |
| ○ НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| ○ Капыль | Іншыя населеныя пункты |

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Доля сялянскіх гаспадарак, якія ў 1907—1915 гг. выйшлі з абшчын і перасяліліся на хутары і адрубы (у працэнтах)

- менш за 10
- 10—25
- 25—35
- 35—50
- 50—65

- Раёны традыцыйнага хутарскога рассялення
- Губерні, у якіх у 1911 г. былі ўведзены земствы

**Раёны адыходніцтва**

- Паўночны
- Паўночна-Усходні
- Паўночна-Заходні
- Паўднёва-Усходні
- Заходні
- Паўднёвы

- Напрамкі адыходніцтва
- (24) Колькасць адыходнікаў на 100 сялянскіх двароў

Заўвага. Звесткі дадзены ў сучасных граніцах Рэспублікі Беларусь

1:3 000 000



Старшыня Савета міністраў і міністр унутраных спраў Расійскай імперыі П. А. Сталыпін



Срэбны медаль Віленскага сельскагаспадарчага таварыства



Да зместу

**УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ у 1908 г. (у працэнтах)**

- Буйныя (цэнзавыя)
- Дробныя
- Саматужна-рамесныя

1 клетка – 1%

**УСЕРАСІЙСКІЯ ЎНІВЕРСАЛЬНЫЯ ВЫСТАЎКІ XIX ст., на якіх была прадстаўлена Беларусь**

| Гады | Месцы правядзення |
|---|---|
| 1882 г. | Масква |
| 1893 г. | Кіеў |
| 1896 г. | Ніжні Ноўгарад |

**МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ XIX–пачатку XX ст., на якіх была прадстаўлена Беларусь**

| Гады | Месцы правядзення |
|---|---|
| 1851, 1862 г. | Лондан |
| 1873 г. | Вена |
| 1876 г. | Філадэльфія |
| 1878, 1889, 1900 г. | Парыж |
| 1885 г. | Антверпен |
| 1893 г. | Чыкага |
| 1901 г. | Глазга |
| 1904 г. | Сент-Луіс |
| 1907, 1908, 1909(2), 1912, 1913–1914 гг. | Санкт-Пецярбург |
| 1911 г. | Турын |
| 1914 г. | Лейпцыг |




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- Расійскай імперыі ў пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ПРАМЫСЛОВЫЯ ЦЭНТРЫ (у залежнасці ад аб'ёма вытворчасці ў 1901 г., руб.)**

- больш за 1 000 000
- 100 000–1 000 000
- менш за 100 000

**Галіны прамысловасці**

- Металаапрацоўчая
- Хімічная
- Дрэваапрацоўчая
- Папяровая
- Будаўнічых матэрыялаў
- Шкляная
- Тэкстыльная
- Гарбарная, шчацінная
- Харчовая
- Іншыя

Колькасць прамысловых прадпрыемстваў па губернях, 1908 г. (1 мм слупка – 20 прадпрыемстваў)

Агульная колькасць рабочых па губернях, тыс. чал., 1908 г. (1 мм слупка – 300 рабочых)

**Фабрычна-заводскія акругі з 1894 г.**

1. Санкт-Пецярбургская
2. Маскоўская
3. Варшаўская
4. Кіеўская

- Межы фабрычна-заводскіх акруг з 1894 г.
- Межы Віленскай фабрычна-заводскай акругі (1882–1894 гг.)

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ БЕЛАРУСІ ПА ГАЛІНАХ ВЫТВОРЧАСЦІ, пачатак XX ст. (у працэнтах)**




- Лесанарыхтоўчая і дрэваапрацоўчая
- Харчовая
- Шкляная
- Тэкстыльная
- Гарбарная
- Металаапрацоўчая
- Іншыя

**РАЗМЕРКАВАННЕ ГАРАДСКІХ ПРАМЫСЛОВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ ПА ГУБЕРНЯХ**




- 2-я палова XVIII ст.
- 30-я гг. XIX ст.
- канец 60-х гг. XIX ст.

1 см – 20 прадпрыемстваў

1:3 000 000



Да зместу

# БАНКАЎСКАЯ СІСТЭМА ў канцы XVIII–пачатку XX ст.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- Расійскай імперыі ў пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**БАНКІ І АДДЗЯЛЕННІ БАНКАЎ У БЕЛАРУСІ ў 1870–1914 гг.**

- Дзяржаўныя банкаўскія ўстановы
- Аддзяленні
  1. Дзяржаўнага банка
  2. Сялянскага пазямельнага банка
  3. Дваранскага зямельнага банка
- Мясцовыя і рэгіянальныя банкі
  1. Банк узаемнага крэдыту
  2. Гарадскія грамадскія банкі
  3. Купецкі банк
  4. Мікалаеўскі сельскі банк
  5. Камерцыйныя банкі
  6. Віленскі акцыянерны зямельны банк
- T — Таварыствы ўзаемнага крэдыту
- Аддзяленні камерцыйных банкаў
  1. Арлоўскага камерцыйнага банка
  2. Віленскага прыватнага камерцыйнага банка
  3. Злучанага камерцыйнага банка
  4. Варшаўскага прыватнага камерцыйнага банка
  5. Маскоўскага міжнароднага гандлёвага банка
  6. Рыжскага камерцыйнага банка
  7. Руска-Азіяцкага банка
  8. Мінскага камерцыйнага банка
  9. Пецярбургска-Азоўскага камерцыйнага банка
  10. Паўночнага банка
  11. Беластоцкага камерцыйнага банка
  12. Рускага гандлёва-прамысловага банка
  13. Руска-французскага банка
  14. Азова-Данскога камерцыйнага банка
  15. Адэскага гандлёва-прамысловага камерцыйнага банка
  16. Руска-Паўднёвага прамысловага банка
  17. Пецярбургскага міжнароднага камерцыйнага банка

**КРЭДЫТНЫЯ ЎСТАНОВЫ НА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ЗЕМЛЯХ (1772–1860 гг.)**

- Прыказы грамадскага апекавання („призрения“)
- K — Ашчадныя касы

1:3 000 000

**ДАЎГІ КРЭДЫТНЫМ УСТАНОВАМ ПАД ЗАКЛАД ПАМЕШЧЫЦКІХ МАЁНТКАЎ ПА ГУБЕРНЯХ (на 1.01.1857 г.)**






Да зместу

# ШЛЯХІ ЗНОСІН у канцы XIX – пачатку XX ст.




**ШЛЯХІ ЗНОСІН**

- Чыгункі
- 1871 — Гады пабудовы асобных участкаў чыгунак
- Шашэйныя дарогі
- Іншыя дарогі
- Каналы суднаходныя

Назвы каналаў, пазначаных на карце лічбамі

1. Бярэзінская водная сістэма
2. Аўгустоўскі канал
3. Агінскі канал
4. Дняпроўска-Бугскі канал

- Асноўныя водныя шляхі
- Галоўныя рачныя прыстані ў канцы XIX—пачатку XX ст.

**КОЛЬКАСЦЬ ЧЫГУНАЧНАЙ СЕТКІ ПА ГУБЕРНЯХ у 1903 г. (на 1 000 вёрстаў плошчы)**

- больш за 30
- 15–20
- 20–30
- менш за 15

**ПРАЦЯГЛАСЦЬ ЧЫГУНАЧНАГА ШЛЯХУ У БЕЛАРУСКІХ ГУБЕРНЯХ у 1874, 1903, 1912 гг. (у вёрстах)**

1874 г. 1903 г. 1912 г.

1 мм слупка — 25 вёрстаў

МІНСК Найбуйнейшыя чыгуначныя станцыі Беларусі

**ГРУЗААБАРОТ НАЙБУЙНЕЙШЫХ ЧЫГУНАЧНЫХ СТАНЦЫЙ ў 1913 г. (усяго тыс. пудоў)**

- больш за 30 000
- 25 000—30 000
- 20 000—25 000
- 15 000—20 000
- 10 000—15 000
- менш за 10 000

Адпраўлена грузаў (%) Прыбыла грузаў (%)

**ПАСАЖЫРАПАТОК ЧЫГУНАЧНЫХ СТАНЦЫЙ (па колькасці прададзеных квіткоў)**

- больш за 400 000
- 200 000—400 000
- 100 000—200 000
- 50 000—100 000

**ВОДНЫЯ ШЛЯХІ ПА ГУБЕРНЯХ у 1911 г. (у вёрстах)**




- Выключна для сплаваў платоў
- Суднаходныя

1 мм слупка — 100 вёрстаў

**ШТУЧНЫЯ ВОДНЫЯ ШЛЯХІ БЕЛАРУСІ: КАНАЛЫ І ШЛЮЗАВАНЫЯ РЭКІ (у вёрстах)**

| Назва воднай сістэмы | Каналаў | Шлюзаваных участкаў рэк | Усяго |
|---|---|---|---|
| Дняпроўска-Бугская | 76 | 125 | 201 |
| Агінская | 51 | 116 | 167 |
| Бярэзінская | 20 | 83 | 103 |
| Вісла-Нёманская | 95 | | 95 |



Да зместу

# УНУТРАНЫ І ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ у XIX–пачатку XX ст.






Да зместу

# САЦЫЯЛЬНАЯ СТРАТЫФІКАЦЫЯ НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ І СУМЕЖНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ.
## Канец XVIII–пачатак XX ст.






Да зместу

# СКЛАД НАСЕЛЬНІЦТВА БЕЛАРУСІ І СУМЕЖНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ ПАВОДЛЕ ПЕРАПІСУ 1897 г. ПА ВЕРАВЫЗНАННЯХ, РОДНАЙ МОВЕ, АДУКАЦЫЙНЫМ УЗРОЎНІ




## ДОЛЯ БЕЛАРУСАЎ У НАСЕЛЬНІЦТВЕ ПА ПАВЕТАХ (па роднай мове, у працэнтах, 1897 г.)

- больш за 75
- 50–75
- 25–50
- 10–25
- 1–10
- менш за 1

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ СКЛАД НАСЕЛЬНІЦТВА ПА ГУБЕРНЯХ (па роднай мове, 1897 г.)

- Беларусы
- Рускія
- Палякі
- Яўрэі
- Іншыя

1 клетка адпавядае 1%



Віленская губерня · Магілёўская губерня · Віцебская губерня · Мінская губерня · Гродзенская губерня

## УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА ПІСЬМЕННАГА НАСЕЛЬНІЦТВА ПА ГУБЕРНЯХ (ад 10 год і старэй), у працэнтах, 1897 г.




- Дваране і чыноўнікі
- Хрысціянскае духавенства
- Ганаровыя грамадзяне, мяшчане і іншыя гарадскія саслоўі
- Сяляне
- Усяго пісьменнага насельніцтва

## РАЗМЕРКАВАННЕ НАСЕЛЬНІЦТВА ПА ГУБЕРНЯХ (па веравызнаннях, у працэнтах, 1897 г.)

- Праваслаўныя і аднаверцы
- Стараабрадцы
- Рыма-каталікі
- Лютэране
- Іўдзеі
- Рэфарматы
- Мусульмане
- Іншыя





Да зместу

## МАГІЛЁЎ, сярэдзіна XIX ст.




Царквы, манастыры

Касцёлы, кляштары

Ратуша

Жылая забудова

Асобныя пабудовы

Могілкі

Лічбамі на карце пазначаны

1 Экзерцыргаўз
2 Сабор Святога Іосіфа
3 Кафедральны касцёл Святога Станіслава (Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі)
4 Васкрасенская царква
5 Касцёл Святога Казіміра (фарны)
6 Богаяўленская царква
7 Званіца Богаяўленскага манастыра
8 Дом віцэ-губернатара і саветнікаў
9 Будынак акруговага суда, урачэбнай управы і архіва
10 Тэрыторыя замка
11 Дом губернатара
12 Будынак „присутственных мест“ (пазней—губернскага праўлення)
13 Спаса-Праабражэнская царква, комплекс манастыра
14 Званіца Спаса-Праабражэнскага манастыра
15 Свята-Успенская царква
16 Комплекс Свята-Мікалаеўскай царквы
17 Пакроўская царква
18 Касцёл Святога Антонія і кляштар бернардзінцаў
19 Свята-Троіцкая царква
20 Царква Святых Пятра і Паўла

1:16 000



Магілёў, пачатак XX ст.

## Поразава (мястэчка Гродзенскай губерні), 1868 г.




Свята-Троіцкая царква

Касцёл Святога Архангела Міхаіла

Асобныя пабудовы

Агароды

Лічбамі на плане пазначаны

1 Царкоўны пляц
2 Яўрэйская школа з прышколкам
3 Яўрэйская лазня (міква)
4 „Грамадскі пляц і дом на Ротны двор“
5 Рынак
6 Крамы
7 Багадзельня касцёла

1:6 000



Да зместу



ГРОДНА, 1880 г.
Артылерыйскія казармы
Нёман
Гараднічанка
Гродзенская застава
Скідзельская застава
на Белосток
Садовая вул.
Якаўлеўскі прасп.
Замкавая вул.
Купецкая
Татарская
Мельнавая
Аўгустоўская
Ласасянская
Ніжняя
Хлебная прыстань
Новаалександраўская
Жандарская
Фарштацкая
Іерусалімская
Новадворская вул.
Набярэжная вул.
Гост. плошча
Рыбная пл.
Мінская
Казачая вул.
Цэрквы, манастыры
Касцёлы, кляштары
Сінагога
Жылая забудова
Асобныя будынкі
Могілкі
Чыгунка
Яры
1:17 000
Лічбамі на карце пазначаны
1 Лютэранская кірха
2 Дом віцэ-губернатара і губернскае праўленне
3 Тэатр
4 Архірэйскі дом
5 Дом псіхічнахворых
6 Царква Аляксандра Неўскага
7 Яўрэйскі прытулак
8 Яўрэйскія школы
9 Акруговая лячэбніца
10 Дамы дабрачыннага таварыства
11 Вакзал С.-Пецярбургска—Варшаўскай чыгункі
12 Марыінская жаночая гімназія
13 Мужчынская гімназія
14 Будынак Барыса-Глебскай царквы, часткова разбурана ў 1853 г. у выніку апоўзня
15 Летні ваенны шпіталь
16 Сафійскі сабор
17 Замак
18 Пажарная каманда
19 Гасціны двор
20 Царква Раства Прасвятой Багародзіцы і манастыр
21 Турма
22 Касцёл Святога Францішка Ксаверыя (фарны)
23 Крамы
24 Зімні ваенны шпіталь
25 Барыса-Глебскі манастыр
26 Жандарскі манеж
27 Касцёл брыгітак
28 Будынак скасаванага касцёла кармелітаў
29 Касцёл Адшукання Святога Крыжа (прыходскі)
30 Яўрэйская лячэбніца
31 Воданапорная вежа
32 Казармы
33 Касцёл Маці Божай Анёльскай і кляштар францысканцаў
34 Капліцы на могілках
35 Фарштацкі сарай
36 Парахавыя склепы
37 Правіянцкі магазін




Да зместу




Лічбамі на карце пазначаны

1 Кальварыйскія каталіцкія могілкі, касцёл
2 Праваслаўныя Старажоўскія могілкі, царква
3 Піваварны завод „Багемія“
4 Духоўная семінарыя праваслаўнага ведамства
5 Плошча Траецкая Гара. Сельска-гаспадарчы рынак
6 Жаночае духоўнае вучылішча праваслаўнага ведамства
7 Шпітальныя могілкі
8 Губернскі земскі шпіталь
9 Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха, Залатагорскі), могілкі
10 Шпалерныя фабрыкі
11 Юбілейная плошча
12 Кацярынінская царква
13 Нізкі рынак
14 Царква мужчынскага Свята-духаўскага манастыра
15 Гарадская сядзіба XVIII ст.
16 Дом Гайдукевіча
17 Комплекс жылых дамоў XVIII—пач. XIX ст.
18 Архіў
19 Гасціны двор і крамы, Азова-Данскі камерцыйны банк
20 Петрапаўлаўскі сабор
21 Дзяржаўныя ўстановы
22 Марыінскі касцёл (прыходскі)
23 Будынак былога жаночага кляштара базыльянак
24 Жылы дом XVIII ст.
25 Дом губернатара
26 Гарадскі сквер
27 Акруговы суд і дзяржаўныя ўстановы
28 Будынак былога мужчынскага кляштара дамініканцаў
29 Будынак былога гарадскога тэатра
30 Гасцініца „Еўропа“
31 Гасцініца „Мачыз“
32 Гарадская дума
33 Рэальнае вучылішча
34 Артылерыйскія казармы
35 Вайсковыя праваслаўныя могілкі з царквой
36 Электрастанцыя
37 Вайсковы шпіталь
38 Жаночы Праабражэнскі манастыр з царквой
39 Яўрэйскія могілкі
40 Лютэранскія могілкі з капліцай
41 Архірэйскі дом і Крыжовая царква
42 Пішчалаўскі турэмны замак
43 Багадзельня
44 Рэстаран „Селект“
45 Гасцініца „Адэса“
46 Лютэранская кірха
47 Гасцініца „Парыж“
48 Аляксандраўскі сквер
49 Воданапорная вежа
50 Туалет
51 Земскі музей
52 Капліца Аляксандра Неўскага
53 Фантан „Лебедь і амур“
54 Гарадскі тэатр
55 Гасцініца „Новомосковская“
56 Дом дваранскага „собрания“
57 Мужчынская гімназія
58 Жаночая Марыінская гімназія
59 Гасцініца „Гарні“
60 Былая паштовая станцыя
61 Губернатарскі сад
62 Прывакзальная царква ў гонар Казанскага абраза Божай Маці
63 Таполевая алея на Каломенскай вуліцы
64 Прыватная гімназія Фалькові ча
65 Казармы
66 Камерцыйнае вучылішча
67 Гімназія Рэйман
68 Парк (дэпо) Мінскай конкі
69 Віленскі базарчык
70 Закрытыя яўрэйскія могілкі
71 Яўрэйская бальніца
72 Кашарскі машынабудаўнічы завод
73 Казённы вінны склад
74 Вакзал Лібава-Роменскай чыгункі (Віленскі вакзал)
75 Драджжа-вінакурны завод
76 Вакзал Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (Брэсцкі вакзал)
77 Гарадская скатабойня
78 Майстэрні Маскоўска-Брэсцкай чыгункі
79 Крухмальна-патачны завод „Сокал“
80 Завод „Тэхнолаг“



Да зместу




Лічбамі на карце пазначаны

1 Гарадскі водаправод
2 Царква Святой Тройцы (Чорная) і могілкі
3 Дом „Трудолюбия“
4 Царква Святой Тройцы і могілкі
5 Турма
6 Кафляны завод М. Буднікава
7 Духоўнае мужчынскае вучылішча праваслаўнага ведамства
8 Гарадская бальніца
9 Прытулак для састарэлых чыноўнікаў
10 Губернская чарцёжная
11 Гарадскі тэатр
12 Лесаахоўны камітэт
13 Спаса-Праабражэнская царква
14 Губернскае жандарскае ўпраўленне
15 Царква Успення Прасвятой Багародзіцы
16 Дваранская апека, павятовы з'езд, павятовае па воінскай павіннасці „присутствие“
17 Гарадское паліцэйскае ўпраўленне. 1-я паліцэйская часць
18 Дзіцячы прытулак (Вялікі) і губернскае па воінскай павіннасці „присутствие“
19 Дырэкцыя народных вучылішчаў
20 Паштова-тэлеграфная кантора
21 Акцызнае ўпраўленне
22 Казённая палата і казначэйства
23 Аптэка Вайнкопа
24 Свята-Мікалаеўская царква (прыпісная)
25 Царква Святога Іаана Багаслова
26 Дом губернатара
27 Сінагога
28 Кантрольная палата
29 Мяшчанская ўправа
30 Губернскае „присутствие“
31 Духоўная семінарыя праваслаўнага ведамства
32 Кантора водаправода
33 Царква Успення Прасвятой Багародзіцы
34 Яхт-клуб
35 Аптэка А. Ясколда
36 2-е „Общественное собрание“
37 Губернская тыпалітаграфія і рэдакцыя Віцебскіх губернскіх ведамасцяў
38 Гарадская дума, управа, гарадскі грамадскі банк
39 Свята-Васкрасенская (Рынкавая) царква
40 Капліца ў гонар пяцідзесяцігоддзя ўз'яднання ўніятаў
41 Касцёл Святога Антонія (прыходскі)
42 Павятовае паліцэйскае ўпраўленне
43 Аддзяленне Маскоўскага міжнароднага банка
44 Гасцініца Бразі
45 Свята-Мікалаеўская царква і могілкі
46 Дом дваранскага „собрания“, канцылярыя губернскага прадвадзіцеля дваранства
47 Мэбляваныя пакоі Капулцэвіча
48 Мужчынская гімназія
49 Акруговы суд
50 Архірэйскі дом, Царкоўна-археалагічны музей („древлехранилище“), Брацкая бібліятэка-чытальня, крама
51 Кафедральны сабор Мікалая Цудатворца
52 1-е „Общественное собрание“, склад сельскагаспадарчых машын, таварыства сельскай гаспадаркі
53 Дзіцячы прытулак (Малы)
54 Губернскі архіў
55 Благавешчанская царква
56 Губернская ўправа па справам земскай гаспадаркі
57 Гасцініца Кушняра
58 Кантора натарыуса К. Рота
59 Кантора натарыуса П. Самакваса
60 Пажарнае дэпо
61 Аддзяленне Дзяржаўнага банка
62 Гасцініца „Бристоль“
63 Кантора натарыуса Е. А. Гэс-дэ-Кальвэ
64 1-я крама грамадскага спажывання
65 Кантора натарыуса В. Сомава
66 Аптэка фон-Рэйдэмейстэра
67 Губернскі зямельны банк
68 Станцыя трамвая
69 Кантора трамвая
70 Царква Святога Іаана Прадцечы
71 Лазарэт
72 Дэпо трамвая
73 Сінагога
74 Васкрасенская царква (Заручаўская)
75 Гарадскі рамесны прытулак
76 Царква Раства Хрыстова
77 1-е гарадское 4-кл. вучылішча
78 Жаночая гімназія ведамства імператрыцы Марыі
79 Губернскі статыстычны камітэт
80 Царква Сашэсце Святога Духа
81 Жаночае вучылішча праваслаўнага духоўнага ведамства
82 Аддзяленне Сялянскага пазямельнага банка
83 Гарадскія казармы
84 Жаночая турма
85 Пакроўская царква
86 2-я паліцэйская часць
87 Аптэка Бернштэйна
88 Воданапорная вежа
89 Казармы
90 Дом начальніка шашэйнай дыстанцыі
91 Паштовы двор (конная пошта)
92 Царква Уздвіжання Крыжа Гасподняга
93 Фабрыка па вырабу кардона
94 Казённы вінны склад
95 Кафляны завод Г. Буднікава
96 Касцёл Святой Варвары (прыходскі)
97 Епархіяльны свечачны завод
98 Свята-Ільінская царква
99 Свята-Пакроўская царква
100 Казармы нестраявой роты
101 Упраўленне павятовага воінскага начальніка
102 Піваварны завод
103 Фабрыка па вырабу акуляраў
104 Маслабойны завод
105 Тытунёвая фабрыка
106 Яўрэйская бальніца і амбулаторыя
107 Садовая гаспадарка
108 Лютэранская кірха
109 Свята-Мікалаеўская царква (батальённая)
110 Таварыства Чырвонага Крыжа
111 3-я паліцэйская часць
112 Сад „Европа“
113 2-е гарадское 4-кл. вучылішча
114 Сімяонаўская (Богаяўленская) царква
115 Канцылярыя начальніка 4-й суднаходнай дыстанцыі
116 Вакзал
117 2-я крама грамадскага спажывання
118 Аптэка Р. Ульрыха
119 Ваеннае „собрание“
120 Праваслаўная духоўная кансісторыя
121 Елагскі віядук
122 Чыгуначна-ліцейны завод Грынберга
123 Царква Святых Пятра і Паўла і царква Прасвятой Багародзіцы (прапісная)
124 Садовае таварыства
125 Паравы млын, лесапільня і сукнавальня К. Пішчуліна
126 Інтэндацкія склады
127 Артылерыйскія казармы
128 Казармы
129 Свята-Міхайлаўская царква і могілкі
130 Жывёлапрыгонны двор
131 Гарадская скатабойня
132 Лесапільны завод



Да зместу


ГОМЕЛЬ, 1910 г.
Цэрквы
Касцёл
Сінагога
Заводы
Асобныя пабудовы
Могілкі
Балоты
Яры
Пешаходныя масты
Лічбамі на карце пазначаны
1 Новыя праваслаўныя могілкі, часоўня
2 Яўрэйскія могілкі
3 Сартавальная станцыя Лібава-Роменскай чыгункі
4 Маслабойны завод Шэвелева
5 Чыгуналіцейны завод Дубінскага
6 Піваварны завод Лекерта
7 Царква Свяціцеля Мікалая Цудатворца
8 Чыгуналіцейны завод Дзераскіна
9 Кузні
10 Вайсковыя склады
11 Турма
12 Конная пошта
13 Ваенная царква
14 Казармы інжынернага ведамства
15 Гарадскія казармы
16 Пажарны трэк і тэатр
17 Гарадское вучылішча
18 Майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі
19 Вакзал
20 Мужчынская гімназія
21 Прыходскае рамеснае вучылішча
22 Гарадская бальніца
23 Паштова-тэлеграфная кантора
24 Зборны пункт
25 Яўрэйская бальніца
26 Палеская вадакачка
27 Гарадскі прыёмны пакой
28 Гарадскі грамадскі банк
29 Вочная лячэбніца
30 Праабражэнская царква і прыходскае жаночае вучылішча
31 Купальні
32 Троіцкая царква
33 Земская ўправа
34 Руска-Азіяцкі банк
35 Жаночая гімназія
36 Духоўнае вучылішча праваслаўнага ведамства
37 Прадуктовы магазін
38 Лазні Лагорыя
39 Паліцэйскае ўпраўленне
40 Водаправодная станцыя
41 Гасціны двор
42 Гарадская ўправа
43 Летні будынак „Общественного собрания"
44 Гарадская пажарная
45 Касцёл у імя Святой Кацярыны (Унебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі)
46 Капліца
47 Сабор Пятра і Паўла
48 Палац Паскевічаў
49 Чыгуналіцейны і машынабудаўнічы завод Фруміна
50 Дзіцячы прытулак Паскевічаў
51 Лазні Рудзіеўскага
52 Стараверская царква
53 Царкоўнапрыходскае вучылішча
54 Ільінская царква
55 Стараверскія могілкі
56 Стараверскі малітоўны дом
57 Лесапільны завод Лявіцна
1:14 500
Сож
Парк
Парк князя Паскевіча
Базарная плошча
Конная плошча
Выселак Манастырок
на Санкт-Пецярбург
на Брэст
на Чарнігаў
на Бранск
на Бахмач



Да зместу

ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ БЕЛАРУСІ І СУМЕЖНЫХ ТЭРЫТОРЫЙ у канцы XIX – пачатку XX ст.






Да зместу




## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

**Паводле адміністрацыйнага значэння і тыпу населішча**

- Цэнтры губерняў
- Цэнтры паветаў
- Іншыя гарады
- Мястэчкі
- Сёлы

**Па колькасці жыхароў**

**Гарады**

| | |
|---|---|
| МІНСК | больш за 50 000 |
| МАГІЛЁЎ | 25 000–50 000 |
| БАРЫСАЎ | 10 000–25 000 |
| ЧЭРЫКАЎ | 2 000–10 000 |
| БАБІНАВІЧЫ | менш за 2 000 |

**Мястэчкі**

| | |
|---|---|
| Ружаны | 2 000–10 000 |
| Дашкаўка | менш за 2 000 |
| *Лучай* | Населеныя пункты сельскага тыпу |

## КАМУНАЛЬНАЯ ГАСПАДАРКА ГАРАДОЎ БЕЛАРУСІ, XIX – ПАЧАТАК XX СТ.

- Электрастанцыі
- Вадаправод
- Тэлефон
- Конка
- Трамвай

## ГРАНІЦЫ

- Расійскай імперыі
- губерняў на пачатак XX ст.
- паветаў
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
- Тэрыторыя Пукаўскай воласці, перададзеная з Ігуменскага ў Слуцкі павет у 1890 г.

## ШЛЯХІ ЗНОСІН

- Чыгункі
- Шашэйныя дарогі
- Іншыя дарогі
- Каналы суднаходныя

1:2 000 000



Віцебск XIX ст.



Полацк 1889–1891 гг.



Да зместу

## ДУХОЎНА-КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ГРАМАДСТВА

Далучэнне тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі абумовіла значныя змены ў развіцці яе культуры і адукацыі. Палітычныя падзеі канца XVIII ст. паклалі пачатак фарміраванню новых узаемаадносінаў паміж культурамі Расіі і Беларусі, тэрыторыя якой яшчэ працяглы час заставалася пад уплывам польскай культуры.

На Магілёўшчыне і Віцебшчыне, далучаных да Расійскай імперыі ў 1772 г., працягвала існаваць сфарміраваная на працягу стагоддзяў сістэма шляхецкай адукацыі: дзейнічалі калегіумы і школы розных каталіцкіх і базыльянскага ордэнаў. Вядучай навучальнай установай рэгіёна лічыўся Полацкі езуіцкі калегіум, які ў 1812 г. (існаваў да 1820 г.) атрымаў статус акадэміі з правамі і прывілеямі ўніверсітэта, у падпарадкаванне яго ўвайшлі ўсе езуіцкія школы Расійскай імперыі. У канцы 1780-х — пачатку 1790-х гг. на Віцебшчыне і Магілёўшчыне пачалі ствараца рускія народныя вучылішчы, у губернскіх цэнтрах — галоўныя 4-х класныя, павятовых — малыя 2-х класныя. Навучанне ў іх было бясплатным, але яны не маглі стаць моцнымі канкурэнтамі для прыкляштарных вучылішчаў, тым больш, што давалі агульнаадукацыйныя веды ў значна меншым аб'ёме.

Пасля другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай да ўсходнебеларускіх навучальных устаноў далучыліся школы, якія працавалі ў цэнтральнай і заходняй Беларусі пад кіраўніцтвам Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай — акадэмічныя акруговыя і павятовыя. Апроч іх існавалі прыкляштарныя вучылішчы, дзе навучанне вялося па праграмах і падручніках Адукацыйнай камісіі: піярскія, базыльянскія, дамініканскія, місіянерскія, а таксама пратэстанцкія школы ў Кейданах і Слуцку. Да ліку сярэдніх навучальных устаноў адносілася невялікая колькасць прыватных пансіёнаў. Дзейнічалі таксама яўрэйскія навучальныя ўстановы.

У 1803 г. Галоўная Літоўская школа атрымала статус імператарскага Віленскага ўніверсітэта, які ўзначаліў наваўтвораную Віленскую навучальную акругу. У падпарадакаванне апошняй увайшлі навучальныя ўстановы Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай, Кіеўскай, Валынскай, Падольскай губерняў, з 1810 г. — Беластоцкай вобласці. Была ўтворана трохступеньчатая сістэма адукацыі, якая прадугледжвала існаванне прыходскіх і павятовых вучылішчаў, а таксама гімназій, што ствараліся, як правіла, на базе наяўных школ.

На працягу XIX ст. Віленская навучальная акруга неаднаразова рэарганізоўвалася, а яе навучальныя ўстановы час ад часу перадаваліся пад юрысдыкцыю іншых навучальных акруг. Так, у 1824 г. навучальныя ўстановы Віцебскай і Магілёўскай губерняў былі перададзены ў падпарадкаванне Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі і заставаліся там да 1829 г., калі стварылі самастойную Беларускую навучальную акругу (існавала да 1850 г.). У 1831 г. да яе былі далучаны навучальныя ўстановы Мінскай, а ў 1832 г. — Гродзенскай і Віленскай губерняў, а таксама Беластоцкай вобласці. У 1850 г. Віленская навучальная акруга была адноўлена. Але навучальныя ўстановы Віцебскай і Магілёўскай губерняў да 1864 г. знаходзіліся ў падпарадкаванні Санкт-Пецярбургскай навучальнай акругі. З 1864 г. усе навучальныя ўстановы тэрыторыі Беларусі зноў апынуліся ў складзе Віленскай навучальнай акругі і заставаліся там да пачатку Першай сусветнай вайны.

Віленскі ўніверсітэт быў самай буйной вышэйшай навучальнай установай імперыі і самым аўтарытэтным культурным і навуковым цэнтрам зямель былога ВКЛ. Колькасць яго навучэнцаў стабільна ўзрастала. У 1808 г. тут навучалася 300 студэнтаў, у 1824 г. —900, у 1830 г. — 1300. У 1832 г. Віленскі ўніверсітэт быў закрыты, замест яго ў Вільне былі створаны медыка-хірургічная і рымска-каталіцкая духоўная акадэміі. На пачатку 1840-х гг. яны былі пераведзены адпаведна ў Кіеў і Пецярбург.

З 1848 г. пачаў працаваць Горы-Горацкі земляробчы інстытут — першая ў Расіі вышэйшая навучальная аграномічная ўстанова, арганізаваная на базе земляробчай школы (створанай у 1840 г.). Тут вучылася моладзь з усёй Расійскай імперыі. Да пачатку 1860-х гг. на тэрыторыі Беларусі дзейнічала 576 навучальных устаноў усіх тыпаў, у якіх навучалася 17 тыс. чалавек, або 0,5% ад агульнай колькасці насельніцтва.

У сувязі з паўстаннем 1863 — 1864 гг. Горы-Горацкі земляробчы інстытут і 8 сярэдніх навучальных устаноў Віленскай навучальнай акругі былі закрыты. А на ўзроўні пачатковай адукацыі пачалі ствараца царкоўныя школы праваслаўнага ведамства (царкоўна-прыходскія і „школы граматы“). Да канца XIX ст. школы праваслаўнага ведамства мелі на гэтай ступені значную перавагу: у Мінскай губерні — 80%, Віленскай — больш за 70%, Магілёўскай — 85% ад агульнай колькасці пачатковых школ. Але значных поспехаў у справе народнай адукацыі яны не дасягнулі: па даных перапісу 1897 г. 77% дарослых жыхароў заставаліся непісьменнымі.

На пачатку XX ст. царкоўнапрыходскія школы пачалі замяняцца народнымі вучылішчамі. За 1905 — 1914 гг. колькасць вучняў народных вучылішчаў на тэрыторыі Беларусі павялічылася амаль у 3 разы і дасягнула 305 тыс. У 1914 г. колькасць пачатковых школ усіх тыпаў складала 7 682, у іх навучалася 1/5 частка дзяцей школьнага ўзросту. Колькасць сярэдніх навучальных устаноў (гімназій і рэальных вучылішчаў) вырасла за 1900 — 1914 гг. з 28 да 122. Для падрыхтоўкі выкладчыкаў у 1906 — 1919 гг. былі створаны настаўніцкія інстытуты ў Віцебску, Магілёве, Мінску і настаўніцкія семінарыі ў Бабруйску, Барысаве, Гомелі, Оршы і Рагачове. У 1911 — 1914 гг. у Віцебску працавала аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута.

Першыя працы па этнаграфічным вывучэнні этнічнай тэрыторыі Беларусі з'явіліся ў канцы XVIII — першай трэці XIX ст. Публікацыі гэтага часу былі прысвечаны фальклору, традыцыям і насілі фрагментарны, апісальны характар. Сярод першых даследчыкаў старажытнага беларускага пісьменства былі польскія вучоныя Т. Чацкі, С. Ліндэ, рускі бібліёграф В. Сопікаў. Даследаванні вялі прафесары Віленскага ўніверсітэта І. Даніловіч, І. Анацэвіч, М. Баброўскі. Гісторыя, этнаграфія, фальклорныя пошукі былі вельмі папулярныя ў асяроддзі студэнтаў, многія з якіх былі ўраджэнцамі Беларусі. У 1840 — 50-я гг. выйшлі ў свет працы некаторых даследчыкаў, якія сталі этапнымі ў гісторыі развіцця беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі: „Беларусь“ (1840) А. Рыпінскага, „Сялянскія песні з-пад Нёмана і Дзвіны“ (1837 — 1846) Я. Чачота, „Народныя песні пінскага люду“ (1851) і інш. Ананімныя паэмы „Энеіда навыварат“ (аўтарам лічаць В. Равінскага) і „Тарас на Парнасе“ (найбольш верагодны аўтар— К. Вераніцын) паклалі пачатак новай беларускай літаратуры. Распачалося комплекснае вывучэнне гісторыі, мовы, матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага этнасу. У другой палове XIX ст. у айчыннай этнаграфіі з'явіўся шэраг навуковых работ, выкананых на высокім навуковым і метадычным узроўні. Гэта працы І. Насовіча, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, А. Багдановіча і інш.

Цэнтрамі тэатральнай, музычнай і мастацкай культуры ў канцы XVIII — пачатку XX ст. былі губернскія гарады — Вільна, Віцебск, Гродна, Магілёў, Мінск. Хуткімі тэмпамі рос культурны патэнцыял павятовага Гомеля. А вось вядомыя ў ранейшы перыяд культурныя беларускія цэнтры — Нясвіж, Слуцк, Слонім, Брэст, Навагрудак, Дзярэчын, Пінск — паступова страчвалі сваю былую веліч. Толькі Полацк па-ранейшаму захоўваў сваё культурнае аблічча да 1820 г., дзякуючы Полацкай езуіцкай акадэміі, пры якой дзейнічаў факультэт вольных мастацтваў, філасофіі і іншых прыродазнаўчых і грамадскіх навук, тэатр і дзве бібліятэкі — пры акадэміі і кляштары.

У канцы XVIII — першай палове XIX ст. прыватнаўласніцкія тэатры дзейнічалі ў Нясвіжы, Шклове, Гродне, Ружанах, Магілёве, Дзярэчыне, Міры, Слоніме, Глуску, Чачэрску, Шчорсах, Гомелі, Віцебску і інш. У Дукоры меўся прыватны цырк прадвадзіцеля дваранства Л. Оштарпа. Пастаянныя тэатральныя калектывы дзейнічалі ў Вільне, Гродне, Мінску. Значнай падзеяй у тэатральным жыцці Беларусі стала пастаноўка 9 лютага 1852 г. у мінскім гарадскім тэатры першай беларускай оперы „Сялянка“ (аўтар лібрэта В. Дунін-Марцінкевіч, кампазітары С. Манюшка, К. Кжыжаноўскі). У пачатку XX ст. поруч з прафесійнымі пачалі дзейнічаць народныя тэатры. Наладжваліся беларускія вечарыны. Узнік мастацкі калектыў пад кіраўніцтвам І. Буйніцкага, які ў 1907 г. у Палевічах (Дзісненскі павет) стварыў аматарскі тэатр. У гарадах беларуска-літоўскіх губерняў гастралявалі тэатральныя калектывы, у склад якіх уваходзілі вядомыя артысты, такія як М. Савіна, В. Давыдаў, А. Южын, К. Варламаў, А. Яблачкіна. У 1890 г. у Мінску быў адкрыты гарадскі тэатр, а ў 1898 г. узнікла „Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў“.

Жывапіс Беларусі ў першай палове XIX ст. прайшоў шлях ад класіцызму да рэалізму. Яго развіццё адбывалася ў цесным узаемадзеянні з мастацтвам польскага, украінскага, рускага і літоўскага народаў. У 1828 г. пачала працаваць майстэрня Валенція Ваньковіча ў в. Малая Сляпянка (Мінскі павет). Значны след амаль ва ўсіх жанрах выяўленчага мастацтва пакінулі І. Хруцкі, Я. Дамель, В. Дмахоўскі. У канцы XIX — пачатку XX ст. назіраецца ўздым мастацкага жыцця, ствараюцца прыватныя мастацкія школы, наладжваюцца першыя выставы ў Віцебску (1890), Мінску (1891). На гэты час прыпадае дзейнасць новага пакалення беларускіх мастакоў — Я. Кругера, Ф. Рушчыца, В. Бялыніцкага-Бірулі, Ю. Пэна.

Развівалася друкарская справа. У першай трэці XIX ст. у Беларусі працавала 36 друкарняў, у тым ліку 30 прыватных, з-пад станкоў якіх выйшла ў свет 725 кніг. З 1838 г. губернскія друкарні беларускага краю, да якіх у 1834 г. далучылася магілёўская губернская друкарня, пачалі выпускаць „Губернские ведомости“ — афіцыйныя газеты, якія выходзілі да 1917 г. У 1830-я гг. актыўна папаўняліся фонды бібліятэк пры гімназіях і вучылішчах. Важнымі асяродкамі распаўсюджвання і папулярызацыі рускай літаратуры прызначаны былі стаць першыя публічныя бібліятэкі, якія пачалі адкрывацца з 1830 г. у губернскіх гарадах. Найбуйнейшымі прыватнымі кнігазборамі валодалі князі Радзівілы, Сапегі, Храптовічы.

На пачатку XX ст. колькасць друкарняў у Беларусі значна павялічылася. Па даных на 1910 г. іх было: у Мінскай губерні — 32, Магілёўскай — 29, Віленскай — 48, Віцебскай — 21, Гродзенскай — 21. Акрамя гэтага дзейнічалі 34 літаграфіі і 26 тыпалітаграфій. З 1901 па 1914 г. у беларуска-літоўскіх губернях павялічылася колькасць перыядычных выданняў — з 15 да 109. Большасць газет і кніг друкавалася на рускай мове. У пачатку XX ст. узніклі беларускія выдавецтвы „Загляне сонца і ў наша ваконца“ (1906 г., Пецярбург), „Наша ніва“, „Наша хата“ (Вільна), „Саха“ (Мінск) і інш. У 1914 г. у Беларусі налічвалася 851 бібліятэка з кніжным фондам 423 тыс. экз., найбуйнейшая з іх — Мінская публічная бібліятэка імя А.С. Пушкіна, створаная ў 1900 г.

Новыя ўмовы, у якіх апынулася Беларусь пасля далучэння да Расійскай імперыі, аказалі прыкметны ўплыў на развіццё горадабудаўніцтва і архітэктуры. Ужо ў канцы XVIII ст. гарады краю трапілі ў сістэму горадабудаўнічых пераўтварэнняў. Рэарганізацыя і рэканструкцыя планіроўкі гарадоў, у першую чаргу губернскіх і павятовых, мела на мэце ліквідаваць рэшткі сярэднявечных фартыфікацыйных збудаванняў, валоў, бастыёнаў, асабліва там, дзе яны стрымлівалі планіровачнае развіццё горада (Магілёў, Мінск, Рэчыца і інш.); упарадкаваць хаатычную забудову мяшчанскіх сядзіб, ліквідаваць крывыя вуліцы і завулкі; вызначыць галоўныя кірункі (восі) развіцця забудовы і ў адпаведнасці з імі стварыць квартальную вулічную сетку. Праекты рэгулярнай планіроўкі гарадоў Беларусі ў асноўных рысах былі ўвасоблены ў жыццё да сярэдзіны XIX ст. Агульным стылістычным напрамкам у архітэктуры гэтага часу быў класіцызм, які знайшоў сваё адлюстраванне ў забудове гарадоў Беларусі.

У другой палове XIX ст. адбываліся значныя змены і ў архітэктуры, дзе панаваў эклектызм. Звычайна банкі і навучальныя ўстановы афармляліся пад класіцызм, касцёлы — у стылі неаготыкі, праваслаўныя цэрквы — у псеўдавізантыйскім або псеўдарускім стылях.

У канцы XVIII ст. на землях Вялікага Княства Літоўскага, якія адышлі да Расійскай імперыі, пражывала каля 39% уніятаў, 38% католікаў, 10% іудзеяў, 6,5% праваслаўных, 4% старавераў, астатнія 2,5% прыходзіліся на пратэстантаў, мусульман і караімаў. На далучаных землях царскі ўрад дазволіў дзейнасць усіх канфесій. Але гэтая верацярпімасць была адноснай. Дзяржава, дзе пануючай была праваслаўная царква, паставіла каталіцкую царкву, што вяршэнствавала да гэтага часу, у становішча „терпимой“. Працэс змены статусу гэтых канфесій за-



Да зместу

цягнуўся практычна да сярэдзіны XIX ст. Прыкладна да гэта ж часу адбывалася адміністрацыйна-структурнае ўпарадкаванне канфесій і структуры кіравання, ішла выпрацоўка тэрміналагічнага апарату афіцыйнага карыстання. Магістральным напрамкам гэтых пераўтварэнняў была ўніфікацыя структуры канфесій (у першую чаргу хрысціянскіх) з праваслаўнай царквой. Дадзеныя абставіны вызначылі ўжыванне розных тэрмінаў на картах, прысвечаных стану рымска-каталіцкай царквы ў першай і другой паловах XIX ст. („біскупства-епархія“, „кляштар-манастыр“ і г. д.).

Палітыка Расійскай імперыі, скіраваная на ўмяшанне свецкай улады ў справы царквы з мэтай пераўтварэння царкоўнай структуры ў разнавіднасць дзяржаўнага апарату, была распаўсюджана і на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў. Адбывалася гэта шляхам стварэння сеткі прыходаў, набліжэння межаў епархій да межаў губерняў, падпарадкавання царкоўных структур духоўным праўленням і кансісторыям. І калі праваслаўныя і стараверы былі падпарадкаваны Свяцейшаму Урадаваму Сіноду, то ўсе астатнія ў канчатковым выніку — Дэпартаменту духоўных спраў замежных веравызнанняў Міністэрства ўнутраных спраў.

У канцы 1827 — пачатку 1828 гг. з'явіўся праект скасавання ўніяцкай царквы. Асноўная яго ідэя заключалася ў тым, каб адарваць уніятаў ад уплыву каталіцтва шляхам скасавання часткі базыльянскіх кляштараў, стварэння асобнай ад каталіцкай грэка-ўніяцкай духоўнай калегіі, адкрыцця новых навучальных устаноў для перападрыхтоўкі юнакоў у праваслаўных традыцыях. Таксама прадугледжвалася ліквідаваць залежнасць уніяцкага духавенства ад памешчыкаў-католікаў, якія, з'яўляючыся ктітарамі, аказвалі не толькі матэрыяльную дапамогу царкве, але і ўплывалі на выбар кандыдатуры святара ў сваім маёнтку.

12 лютага 1839 г. у Полацку ў прысутнасці вышэйшага ўніяцкага духавенства быў падпісаны Саборны акт з просьбай аб далучэнні ўніяцкай царквы да праваслаўнай. Пастанова Св. Сінода была зацверджана Мікалаем І. Усе святочныя богаслужэнні з гэтай нагоды прайшлі спакойна, не выклікаючы сур'ёзных пратэстаў. На былых уніяцкіх святароў былі распаўсюджаны ўсе тыя пастановы, якія тычыліся праваслаўнага духавенства. Перавод уніятаў у праваслаўе значна павялічыў колькасць праваслаўнага духавенства і вернікаў у краі. Але, як для вернікаў, так і для духавенства, працэс гэты быў даволі складаны і доўгі.

У выніку канфесійнай палітыкі канца XVIII — першай паловы XIX ст. большая частка насельніцтва Беларусі стала праваслаўнай. На пачатку 1860-х гг. у пяці губернях (Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай) пражывала 2 645,7 тыс. праваслаўных (разам са старaверамі), 1 333,8 тыс. католікаў, 10,8 тыс. пратэстантаў, 463,2 тыс. іудзеяў, 3,7 тыс. мусульман.

Для ўзмацнення пазіцый праваслаўнай царквы ў беларуска-літоўскіх губернях хуткімі тэмпамі будаваліся і рамантаваліся праваслаўныя храмы, пераводзіліся з унутраных губерняў святары. Для праваслаўных цэркваў прыстасоўвалі зачыненыя пасля паўстання 1863 — 1864 гг. касцёлы. За некалькі гадоў пасля паўстання ў цэлым па Расійскай імперыі праваслаўнымі сталі больш за 80 тыс. католікаў. Большая частка гэтых пераходаў прыпадала на Літоўскую (ахоплівала Віленскую, Гродзенскую і Ковенскую губерні) і Мінскую епархіі — адпаведна 30 і 37 тыс. чалавек. Многія пераходы адбываліся пад прымусам, у выніку шантажу і падману. Садзейнічала гэтаму і дараванне розных правоў, прывілеяў эканамічнага характару. Згодна з перапісам 1897 г. колькасць праваслаўных і аднаверцаў складала 60% ад агульнай колькасці насельніцтва пяці губерняў (па 35 беларускіх паветах гэтая лічба склала 4 599,4 тыс. ці 70,8%). Рост колькасці праваслаўных вернікаў абумоўліваў будаўніцтва новых цэркваў і адкрыццё новых прыходаў. Калі ў пачатку 1860-х гг. у чатырох праваслаўных епархіях (Літоўскай, Мінскай, Магілёўскай, Полацкай) дзейнічала 2 826 цэркваў (прыходскіх і прыпісных), то ў пачатку 1870-х гг. — 3 039, 1880-х гг. — 3 211, 1890-х гг. — 3 793. Павялічвалася і колькасць праваслаўных святароў. Так, у Магілёўскай епархіі ў 1877 г. налічвалася 567 свяшчэннаслужыцеляў, у 1892 г. — 590, у 1904 г. — 672.

У мэтах распаўсюджвання і замацавання праваслаўнай веры было вырашана адрадзіць „брацкі“ рух. У 1864 г. былі зацверджаны асноўныя правілы для заснавання праваслаўных царкоўных брацтваў. Найбольш вядомымі на тэрыторыі Беларусі сталі брацтвы ў Полацку, Магілёве, Віцебску. Гэтым жа мэтам — зацвярджэнню пазіцый праваслаўя ў беларускіх губернях — служылі і праваслаўныя манастыры. Царскія ўлады надавалі значную ўвагу іх развіццю. Тым не менш, нягледзячы на тое, што ў 1860 — 1890-я гг. было заснавана некалькі манастыроў, агульная іх колькасць на тэрыторыі Беларусі зменшылася. Адбывалася гэта таму, што закрываліся невялікія манастыры, затое ўмацоўваліся астатнія. Значная частка манастыроў у 1890-я гг. налічвала ў сваім штаце 50 і больш чалавек. Манастыры садзейнічалі аднаўленню брацтваў, стварэнню брацкіх школ, вялі выдавецкую дзейнасць, адкрывалі прытулкі і багадзельні.

У адрозненне ад праваслаўнай царквы, пазіцыі якой у 60 — 90-я гады значна ўзмацніліся, каталіцкая царква працягвала страчваць свой былы ўплыў. Больш таго, у палітыцы расійскага ўрада адносна каталіцкай царквы адбыліся даволі істотныя перамены. Яны былі выкліканы той пазіцыяй, якую займала каталіцкае духавенства ў паўстанні. У адказ урад павёў у адносінах да каталіцкай царквы на Беларусі больш мэтанакіраваную і жорсткую лінію. У выніку да канца XIX ст. у беларускіх губернях засталося толькі 2 мужчынскія кляштары (з 5 манахамі) і 3 жаночыя (з 35 манашкамі). Агульная колькасць касцёлаў і капліц склала 466, колькасць каталіцкіх святароў — 505. Паменшылася колькасць каталіцкіх вернікаў. У мэтах паслаблення ўплыву каталіцкіх святароў на беларускі народ быў распрацаваны план пад назвай „распалячванне касцёла“. Сутнасць яго зводзілася да таго, каб увесці ў каталіцкіх касцёлах беларускіх губерняў рускую мову замест польскай у дадатковае набажэнства і казанні. Моўная праблема ў каталіцкім касцёле беларуска-літоўскіх губерняў, то затухаючы, то зноў успыхваючы, працягвала існаваць усю другую палову XIX — пачатак XX ст.

На тэрыторыі ўсіх беларуска-літоўскіх губерняў, акрамя Гродзенскай, пражывалі стараверы. Старaверства распадалася на дзве галоўныя часткі: папоўшчыну і беспапоўшчыну. Папоўшчына захавала папоў і ўсе духоўныя чыны. Эвалюцыя гэтага напрамку прывяла да з'яўлення ў канцы XVIII ст. аднаверства. Прыхільнікі аднаверства атрымалі права мець святароў з дазволам весці службу па старых абрадах. У 1797 г. такое права атрымалі старaверскія манастыры Беларусі: Лаўрэнцьеў, Чонскі і Спасавай Слабады (мужчынскі і жаночы). Беспапоўшчына адхіліла царкоўную іерархію, яна заўсёды была больш далёкай ад афіцыйнай праваслаўнай царквы. Яна раздзялілася на пяць галоўных толкаў: паморскі, федасееўскі, філіпонаўскі, нетаўскі, пастухова. На тэрыторыі Беларусі атрымалі распаўсюджванне паморскі, федасееўскі і філіпонаўскі толкі. У 60 — 70-я гады XIX ст. адбыліся змены ва ўрадавай палітыцы ў адносінах да старавераў: прыхільнікам так званых „менш шкодных“ сект была даравана палёгка ў адносінах іх грамадзянскіх правоў і выканання духоўных адправаў. Дазвалялася ствараць школы граматы, пасылаць дзяцей у агульныя навучальныя ўстановы без абавязковага вывучэння Закона Божага. Стараверы атрымалі права ладзіць набажэнствы па сваіх абрадах, пры ўмове, каб не было публічнага, „спакуслівага“ для праваслаўных уплыву.

Колькасць пратэстантаў, як і раней, была нешматлікай. На пачатку 1860-х гадоў у пяці губернях пражывала 19 951 чалавек, што належалі да рэфармацкага і лютэранскага веравучэння. Адносіны пратэстантаў з адміністрацыйнымі ўладамі і праваслаўнай царквой былі, звычайна, памяркоўнымі. У другой палове XIX ст. узнікла некалькі плыняў пратэстанцкага сектанцтва. У канцы 1870-х гадоў у Гомельскім павеце былі выяўлены штундысты. Баптысцкія абшчыны былі заснаваны на Гомельшчыне, у Слуцкім і Пінскім паветах, пазней — у Мінску, Віцебскай губерні. Крыху пазней, чым штундызм і баптызм, з'яўляецца на тэрыторыі Беларусі і евангелічнае хрысціянства. У 1882 г. паслядоўнікі гэтага вучэння выяўлены ў Чачэрску. Што тычылася адвентысцкага веравучэння, то яно распаўсюджваецца на тэрыторыі Беларусі ў пачатку XX ст.

У палітыцы ўрада ў дачыненні да нехрысціянскіх канфесій (іудаізму, мусульманства) у 1860 — 1890-я гг. вялікіх зменаў не назіралася. Іудзеі складалі даволі значную ў колькасных адносінах групу па веравызнаннях. Калі на пачатку 1860-х гг. у пяці губернях пражывала 463 217 іудзеяў, то згодна перапісу 1897 г. — 1 209 815. Па губернях гэта лічба размяркоўвалася наступным чынам: у Віленскай губерні — 204 686 чал., што складала 12,86 % ад агульнай колькасці насельніцтва; у Віцебскай — адпаведна 176 629 чал. і 11,79 %; Гродзенскай — 280 489 чал. (17,49 %); Мінскай — 345 015 чал. (16,1 %); Магілёўскай — 203 949 чал. (12,1 %).

Палітыка русіфікацыі беларускага краю наклала свой адбітак і на яўрэйскае насельніцтва. Забаранялася насіць яўрэйскае адзенне, „пейсы хасідаў“. У яўрэйскіх навучальных установах уводзілася абавязковае вывучэнне рускай мовы. Нягледзячы на насцярожаныя адносіны да гэтага з боку меламедаў і трымальнікаў хедараў, цяга яўрэйскага насельніцтва да ўспрыняцця рускай мовы і культуры была вялікай. Яўрэйская моладзь імкнулася вучыцца ў гімназіях, універсітэтах, адыходзіла ад рэлігіі сваіх продкаў. Нягледзячы на перамены, што адбыліся ў грамадстве ў 1860 — 1890-я гг., яны не пахіснулі ролі і значэння, якое займалі яўрэйскія рэлігійныя навучальныя ўстановы, хедары. Як і раней, гэтым школам належала вядучае месца ў пачатковай адукацыі яўрэйскіх дзяцей.

Палітыка ўладаў у дачыненні да мусульман была больш памяркоўнай. Дакладней, татары-мусульмане, што пражывалі ў беларуска-літоўскіх губернях, не прыцягвалі пільнай увагі ўладаў. На гэта ўплывала перш за ўсё невялікая колькасць татар-мусульман. У пачатку 1860-х гг. яны пражывалі ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях у колькасці 6 196 чал. Яны вызначаліся добрымі адносінамі да іншых народаў і канфесій, гэтаму спрыялі працаздольнасць і высокая маральнасць мусульман. Палітыка русіфікацыі беларускага краю закранула і мусульманскую канфесію. У XIX ст., і асабліва ў 1860-я гг., польская мова сярод мусульманскай інтэлігенцыі пачала выцясняцца рускай.

17 красавіка 1905 г. у Расійскай імперыі быў прыняты „Именной Высочайший Указ Правительствующему Сенату“, які атрымаў у гістарычнай літаратуры шырокую вядомасць пад назвай „Указ аб верацярпімасці“. Змены ў рэлігійным жыцці дзяржавы хоць і не пахіснулі пазіцыі пануючай праваслаўнай царквы, але ўсё ж мелі месца. Свабодныя пераходы з аднаго веравызнання ў іншае, свабода ў заключэнні „змешаных“ шлюбаў абцяжарвалі работу праваслаўных святароў, будзілі імкненне шукаць новыя метады работы па падтрымцы ўплыву на мясцовае насельніцтва. За 1905 — 1913 гг. больш за 58 тыс. праваслаўных у пяці беларуска-літоўскіх губернях прынялі каталіцтва. Адбываліся і іншыя пераходы. На другім месцы пасля каталіцкай канфесіі знаходзіліся пераходы ў розныя пратэстанцкія секты (у той час тут меліся на ўвазе т. зв. „адпаўшыя ад праваслаўя“), потым у пратэстанцтва, старaверства, зрэдку ў іудаізм. Адбываліся пераходы і ў праваслаўе з іншых канфесій.

Такім чынам, уключэнне беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі не магло не паўплываць на далейшае культурнае і духоўнае развіццё беларускага краю. І хоць уплывы гэтыя былі далёка неадназначныя, прагрэсіўныя тэндэнцыі ўсё ж перамагалі. Узрос адукацыйны ўзровень насельніцтва, відавочным сталася значнае развіццё культурных асяродкаў беларускіх гарадоў. У той жа час пра культурныя здабыткі беларусаў іх суседзі часцей за ўсё дазнаваліся праз рускае і польскае друкаваныя словы.

Кардынальныя змены адбыліся ў канфесійным становішчы. Галоўны напрамак канфесійнай палітыкі ўрада на замацаванне пазіцый пануючай ў дзяржаве праваслаўнай царквы спрыяў таму, што большая частка насельніцтва стала праваслаўнай. Указ 1905 г., хоць і стаў асноватворным у канфесійнай палітыцы ўрада Расійскай імперыі на пачатку XX ст., аднак не азначаў поўнага адказу ад мінулага. Дазволіўшы свабодны пераход з аднаго веравызнання ў іншае (і галоўнае — з праваслаўя), ён толькі ўскосна аслабляў дзейнасць старых юрыдычных нормаў. Як і да гэтага часу, дзяржаўныя законы лічылі праваслаўную царкву „первенствующей и господствующей“.

А.М. Філатава, В.В. Яноўская



Да зместу

# АДУКАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ. Канец XVIII – першая палова XIX ст.




| тып НУ | 1818 | 1840 |
|---|---|---|
| □ (галоўныя народныя вучылішчы) | 7 | 10 |
| ○ (дзяржаўныя павятовыя вучылішчы) | 5 | 25 |
| ○ (малыя народныя вучылішчы) | 7 | - |
| ○ (манаскія вучылішчы) | 29 | - |
| (ваенныя навучальныя ўстановы) | 2 | 2 |
| ○ (пачатковыя навучальныя ўстановы) | 150 | 160 |
| (жаночыя навучальныя ўстановы) | - | 29 |

Агульная колькасць навучальных устаноў. НУ – навучальная ўстанова

Агульная колькасць настаўнікаў і навучэнцаў

| 1817 | 1840 |
|---|---|
| 326/7 600 | 553/11 900 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі з 1802 г., Беластоцкай вобласці (з 1808 г.)
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі з 1802 г.
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у 1812 г.
- Расійскай імперыі ў 1812 г.
- губерняў Расійскай імперыі з 1802 г.
- паветаў Расійскай імперыі з 1802 г., паветаў Беластоцкай вобласці з 1808 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**МЕЖЫ НАВУЧАЛЬНЫХ АКРУГ**

- Віленская (да 1824 г.)
- Санкт-Пецярбургская (1824–1829 гг.)
- Беларуская (1829–1850 гг.)
- ВІЛЬНА, ВІЦЕБСК — Цэнтры навучальных акруг
- ПОЛАЦК — Цэнтр Полацкай* езуіцкай навучальнай акругі (1812–1820 гг.)
- 1832 — Гады далучэння губерняў і вобласці да Беларускай навучальнай акругі

* У склад Полацкай езуіцкай навучальнай акругі ўваходзілі ўсе езуіцкія навучальныя ўстановы Расійскай імперыі

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ**

- Вышэйшыя навучальныя ўстановы
- Сярэднія навучальныя ўстановы з курсам ліцэя
- Настаўніцкія семінарыі
- Галоўныя народныя вучылішчы
- Дзяржаўныя гімназіі
- Дзяржаўныя павятовыя вучылішчы
- Малыя народныя вучылішчы
- Манаскія вучылішчы: гімназіяльныя, павятовыя
- Пачатковыя навучальныя ўстановы
- Ваенныя навучальныя ўстановы
- Жаночыя навучальныя ўстановы
- Дзіцячыя прытулкі
- 2 — Колькасць навучальных устаноў аднаго тыпу ў населеным пункце
- Навучальныя ўстановы, ліквідаваныя пасля падаўлення паўстання 1830–1831 гг.

Бз — базыльяне; Б — бернардзінцы; Е — езуіты; Д — damінікане; КЛ — канонікі рэгулярныя латэранскія; М — місіянеры; П — піяры; Ф — францысканцы

1:3 000 000



Да зместу

# АДУКАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ. Другая палова XIX–пачатак XX ст.






Да зместу

# УСТАНОВЫ КУЛЬТУРЫ. Канец XVIII–пачатак XX ст.






Да зместу

# КУЛЬТАВАЕ ДОЙЛІДСТВА, ПАЛАЦЫ І СЯДЗІБЫ БЕЛАРУСІ. Канец XVIII–пачатак XX ст.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**КУЛЬТАВАЕ ДОЙЛІДСТВА, ПАЛАЦЫ І СЯДЗІБЫ**

Храмы (колькасць па паветах)

- 15/1 праваслаўныя
- 1/0 каталіцкія

усяго — 15/1 — што захаваліся

- Праваслаўная царква (Валынская губерня)
- Уніяцкія храмы
- Сінагогі (мураваныя)
- Мячэці
- Палацы і сядзібы

- Канец XVIII—першая палова XIX ст.
- Другая палова XIX—пачатак XX ст.

2 — Колькасць аб'ектаў аднаго тыпу ў населеным пункце

**Лічбамі на карце абазначаны:**

| | |
|---|---|
| 1 Новае Поле | 9 Клецк |
| 2 Дубаўляны | 10 Сваятычы |
| 3 Прылукі | 11 Нача |
| 4 Гаруцішкі | 12 Грушаўка |
| 5 Ляды | 13 Туча |
| 6 Вялікі Двор | 14 Цяснoўка |
| 7 Гарадзішча | 15 Падароскі |
| 8 Какорычы | |

1:3 000 000



Да зместу

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА. Канец XVIII – першая палова XIX ст.




### Структура кіравання праваслаўнай царквой. Канец XVIII ст.




### 1817–1824 гг. (перыяд „двайнога міністэрства“)



# ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА. Другая палова XIX – пачатак XX ст.




**Колькасць царкоўных школ (1893 г.)**

| Епархія | Царкоўна-прыходскія школы | Школы граматы | Усяго школ |
|---|---|---|---|
| Літоўская | 139 | 1260 | 1399 |
| Полацкая | 143 | 478 | 621 |
| Мінская | 172 | 1144 | 1316 |
| Магілёўская | 311 | 1271 | 1582 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**МЕЖЫ ЕПАРХІЙ**

- Магілёўскай
- Полацкай
- Мінскай
- Гродзенскай (з 1900 г.)
- Літоўскай
- ПОЛАЦК — Цэнтры епархій
- МІНСК — Месцы знаходжання епіскапскіх кафедраў

**ДОЛЯ ПРАВАСЛАЎНЫХ ВЕРНІКАЎ У КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА**
(у працэнтах, па губернях, 1897 г.)

- больш за 70
- 30–70
- менш за 30

20 025 — Колькасць праваслаўнага насельніцтва (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)

**Праваслаўныя манастыры**

- мужчынскія
- жаночыя
- скасаваныя ў другой палове XIX ст.

**НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ**

- Духоўныя семінарыі
- Духоўныя вучылішчы
- Жаночыя вучылішчы духоўнага ведамства
- Епархіяльныя жаночыя вучылішчы
- 2 — Колькасць навучальных устаноў аднаго тыпу ў населеным пункце

1:3 000 000

# УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА. 1800–1839 г.




**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі з 1802 г., Беластоцкай вобласці (з 1808 г.)
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі з 1802 г.
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у 1812 г.
- Расійскай імперыі ў 1812 г.
- губерняў Расійскай імперыі з 1802 г.
- паветаў Расійскай імперыі з 1802 г., паветаў Беластоцкай вобласці з 1808 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- губерняў, утвораных паводле ўказа ад 9 верасня 1801 г.
- далучаная да Расійскай імперыі ў 1807 г. (з 13 ліпеня 1808 г. да 18 снежня 1842 г. — Беластоцкая вобласць)
- Іншыя губерні Расійскай імперыі
- Тэрыторыя Княства Варшаўскага (1807–1815 гг.), Царства Польскага з 1815 г.

**УНІЯЦКІЯ ЕПАРХІІ (на 1837 г.)**

- Умоўная мяжа паміж епархіямі
- ПОЛАЦК — Цэнтры епархій
- Цэнтры дэканатаў епархій: Літоўскай, Беларускай
- 21 — Колькасць прыходаў дадзенага дэканата

**Базыльянскія манастыры (1800–1839 гг.)**

- мужчынскія
- жаночыя
- са статусам архімандрыі

Заўвага. Схема структуры адміністрацыйнага кіравання ўніяцкай царквой размешчана на стар. 44

1:3 000 000



Да зместу

# СТАРАВЕРСТВА. XIX–пачатак XX ст.




| Колькасць старавераў (чалавек, па губернях, 1897 г.) | |
|---|---|
| Віленская | 25 673 |
| Віцебская | 81 346 |
| Гродзенская | 504 |
| Мінская | 15 860 |
| Магілёўская | 23 349 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ◎ ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ⊙ ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- ○ НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- ○ Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

1:3 000 000

**ДОЛЯ СТАРАВЕРАЎ У КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА** (у працэнтах, па губернях, 1897 г.)

- больш за 5
- 1–5
- менш за 1
- 84 — Колькасць старавераў (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)

**Стараверскія манастыры і скіты**

10–50 чал. 50–100 чал. больш за 100 чал.

мужчынскія жаночыя

**Стараверскія малітоўныя дамы і капліцы**

першая палова XIX ст. канец XIX–пачатак XX ст.

2 Колькасць малітоўных дамоў

**Лічбамі на карце абазначаны:**

1 Дзевятнікі
2 Ендужы
3 Гурылішкі
4 Цыскады
5 Барысаўка
6 Штыканы
7 Рудушкі
8 Ліпушкі
9 Масквіна
10 Ціпы
11 Маслава
12 Фальварак
13 Кавалёва
14 Апчукі
15 Данішэўка
16 Крывашэева
17 Панцелішкі
18 Бікернікі
19 Сідараўшчызна
20 Шмана
21 Канстанцінаўка
22 Латкова
23 Новаіванаўка
24 Касіцкая Слабада 2
25 Раманова Слабада 2
26 Дубовы Лог 2
27 Лявонцева Слабада 3 2
28 Тарасаўка
29 Ветка
30 Агародня-Гомельская 3
31 Тырлава Пустыня
32 Мар'іна Слабада 2
33 Чыстыя Лужы
34 Новыя Крупцы 2 2
35 Новая Беліца 2
36 Чонкі
37 Новая Мільча
38 Жгунская Буда
39 Макараў
40 Гомель
41 Спасава Слабада
42 Нікольскае
43 Пахом'ева 2



Да зместу

# РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА. Канец XVIII – першая палова XIX ст.




НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў з 18 снежня 1842 г.
- ОРША — Цэнтры паветаў з 18 снежня 1842 г.
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

ГРАНІЦЫ
- Расійскай імперыі з 1815 г.
- губерняў Расійскай імперыі з 18 снежня 1842 г., губерняў Каралеўства Польскага з 1845 г.
- паветаў з 18 снежня 1842 г.
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

МЕЖЫ БІСКУПСТВАЎ
- Віленскага (на пачатак 1840-х гг.)
- Інфлянскага (на 1795–1798 гг.)
- Жмудскага (на 1798 г.)
- Пінскага (на 1795–1798 гг.)
- Мінскага (на пачатак 1840-х гг.)
- Беларускага (на 1772–1782 гг.)
- Магілёўская архібіскупства (на пачатак 1840-х гг.)
- ВІЛЬНЯ — Цэнтры біскупстваў

Рымска-каталіцкія кляштары канец XVIII – першая палова XIX ст. (з паказаннем прыналежнасці да ордэна)
- мужчынскія / жаночыя
- Аўгусцінцы
- Бенедыкцінцы, бенедыкцінкі
- Бернардзінцы, бернардзінкі
- Баніфратры
- Брыгіткі
- Дамініканцы, дамініканкі
- Езуіты
- Камуністы
- Канонікі рэгулярныя латэранскія, канонікі рэгулярныя ад пакуты
- Кармеліты босыя, кармеліткі босыя
- Кармеліты абутыя (старажытных правіл)
- Картузы (картэзіянцы)
- Марыявіткі
- Місіянеры
- Піяры, сёстры міласэрнасці
- Трынітарыі
- Францысканцы

РЫМСКА-КАТАЛІЦКІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ
- Вышэйшыя (акадэміі)
- Сярэднеспецыяльныя (семінарыі)
- Спецыяльныя (музычныя школы)
- 2 — Колькасць навучальных устаноў аднаго тыпу ў населеным пункце
- Школы пры кляштарах
  - Бн — бенедыкцінцы
  - Б — бернардзінцы
  - Бр — брыгіткі
  - Д — дамініканцы
  - Е — езуіты
  - К — картузы
  - Мр — марыяне
  - Ц — цыстэрцыы
  - Ш — шарыткі
- ліквідаваныя ў 30–40-я гады XIX ст.

Заўвага. Сярэднія школы, што ўтрымліваліся рымска-каталіцкімі ордэнамі і кангрэгацыямі, паказаны на карце „Адукацыя Беларусі. Канец XVIII – першая палова XIX ст."

1:3 000 000



Да зместу

# РЫМСКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА. Другая палова XIX – пачатак XX ст.




Месцазнаходжанне касцёлаў, падпарадкаваных непасрэдна Магілёўскай архіепархіі, па-за межамі тэрыторыі картаграфавання (на 1854 г.)

| № | Населены пункт | Колькасць прыхаджан |
|---|---|---|
| 1 | Арэнбург | 1 873 |
| 2 | Архангельск | 1 983 |
| 3 | Варонеж | 1 550 |
| 4 | Выбарг (С.-Пецярбургская губ.) | 3 391 |
| 5 | Гросвердэр (Чарнігаўская губ.) | 787 |
| 6 | Дэрпт (Ліфляндская губ.) | 400 |
| 7 | Златавуст (Уфімская губ.) | |
| 8 | Іркуцк | 1 334 |
| 9 | Казань | 4 896 |
| 10 | Кранштат (С.-Пецярбургская губ.) | 3 703 |
| 11 | Красаярск | 1 609 |
| 12 | Масква | 12 501 |
| 13 | Ноўгарад | 400 |
| 14 | Нежын (Чарнігаўская губ.) | 700 |
| 15 | Нерчынск (Забайкальская вобласць) | 1 200 |
| 16 | Палтава | 4 608 |
| 17 | Санкт-Пецярбург | 28 933 |
| 18 | Пскоў | 1 900 |
| 19 | Рыга (Ліфляндская губ.) | 5 000 |
| 20 | Рэвель (Эстляндская губ.) | 1 408 |
| 21 | Смаленск | 472 |
| 22 | Табольск | 1 749 |
| 23 | Томск | 2 356 |
| 24 | Харкаў | 3 250 |
| 25 | Царскае Сяло (С.-Пецярбургская губ.) | 1 449 |
| 26 | Ямбург (С.-Пецярбургская губ.) | 1 500 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**МЕЖЫ ЕПАРХІЙ**

- Віленскай
- Мінскай (ліквідавана ў 1869 г. з падпарадкаваннем касцёлаў Віленскай епархіі, з 1883 г. — Магілёўскай архіепархіі)
- Магілёўскай архіепархіі (з цэнтрам у Санкт-Пецярбургу)

ВІЛЬНА — Месцы знаходжання епіскапскіх кафедраў

**ДОЛЯ КАТОЛІКАЎ У КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА**
(у працэнтах, па губернях, 1897 г.)

- больш за 50
- 10–50
- менш за 10

2 775 — Колькасць насельніцтва рымска-каталіцкага веравызнання (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)

**Рымска-каталіцкія манастыры (у пачатку XX ст.)**

- Бенедыкцінкі
- Бернардзінкі
- Брыгіткі
- Дамініканцы
- Францысканцы

1:3 000 000

22 — Цэнтры дэканатаў і колькасць касцёлаў у дэканаце (на 1872 г.)

**Касцёлы**

2 — Колькасць касцёлаў у адным населеным пункце

**Лічбамі на карце абазначаны:**

1 Германавічы
2 Задзеў
3 Лучай
4 Каркажышкі
5 Мейшагала
6 Клюшчаны
7 Кемелішкі
8 Свіранкі
9 Міхалішкі
10 Касцяневічы
11 Войстам
12 Мураваная Ашмянка
13 Канвелішкі
14 Дзевянішкі
15 Сурвілішкі
16 Юрадыка
17 Геранёны
18 Радунь
19 Суботнікі
20 Ліпнішкі
21 Вавёрка
22 Белы Груд
23 Высокі Лядск
24 Ішчална
25 Каменка
26 Жалудок
27 Індура
28 Эйсыманты
29 Воўпа
30 Струбніца

**РЫМСКА-КАТАЛІЦКІЯ НАВУЧАЛЬНЫЯ ЎСТАНОВЫ**

- Сярэднеспецыяльныя (семінарыі)
- Спецыяльныя (вучылішча арганістаў)



Да зместу

# ІУДАІЗМ. Канец XVIII– пачатак XX ст.






Да зместу




## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

| | |
|---|---|
| ◎ ВІЦЕБСК | Цэнтры губерняў Расійскай імперыі |
| ⊙ ОРША | Цэнтры паветаў Расійскай імперыі |
| ○ НЯСВІЖ | Іншыя гарады |
| ○ Капыль | Іншыя населеныя пункты |

## ГРАНІЦЫ

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

## ДОЛЯ МУСУЛЬМАН У КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА
(у працэнтах, па губернях, 1897 г.)

- больш за 0,25
- 0,1–0,25
- менш за 0,1

219 — Колькасць мусульманскага насельніцтва (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)

Мячэці. XIX ст.

Месцы перапіскі (пражывання перапісчыкаў) кніг татараў XIX ст. – 1917 г.

2 — Колькасць рукапісаў

1:3 000 000



Да зместу




| Колькасць мусульманскага насельніцтва (чалавек, па губернях, 1897 г.) | |
|---|---|
| Віленская | 4375 |
| Віцебская | 583 |
| Гродзенская | 3731 |
| Мінская | 4619 |
| Магілёўская | 184 |

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ◎ ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ⊙ ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- ○ НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- ○ Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- дзяржаў у пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ДОЛЯ МУСУЛЬМАН У КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА**
(у працэнтах, па губернях, 1897 г.)

- больш за 0,25
- 0,1–0,25
- менш за 0,1
- 219 — Колькасць мусульманскага насельніцтва (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)
- Мячэці. XIX ст.
- Месцы перапіскі (пражывання перапісчыкаў) кніг татараў XIX ст. – 1917 г.
- 2 — Колькасць рукапісаў

1:3 000 000



Да зместу


Структура кіравання евангеліцка-рэфармацкай царквой з 1830-х гг.
Імператар
Міністэрства ўнутраных спраў
Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў
Генеральная евангеліцкая кансісторыя (на чале з прэзідэнтам і віцэ-прэзідэнтам)
Віленская евангеліцка-рэфармацкая калегія
Дыстрыкт (акруга)
Пастарат (прыход) (на чале з пастарам)
НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
ВІЦЕБСК Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
ОРША Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
НЯСВІЖ Іншыя гарады
Капыль Іншыя населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаў у пачатку XX ст.
губерняў Расійскай імперыі
паветаў Расійскай імперыі
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
ДОЛЯ ПРАДСТАЎНІКОЎ ЕВАНГЕЛІЦКА-РЭФАРМАЦКАЙ ЦАРКВЫ Ў КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА (у працэнтах, па губернях, 1897 г.)
0,01
менш за 0,01
Колькасць насельніцтва евангеліцка-рэфармацкага веравызнання (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)
Біржы Месцы пасяджэнняў Віленскага евангеліцка-рэфармацкага сінода
Евангеліцка-рэфармацкія зборы. Канец XVIII—пачатак XX ст.
Канец XVIII—першая палова XIX ст.
КОПЫСЬ Цэнтры пастаратаў (прыходаў), пачатак XX ст.
Расна Прыпісныя прыходы
Багадзельня
1:4 150 000
Колькасць насельніцтва евангеліцка-рэфармацкага веравызнання (чалавек, па губернях, 1897 г.)
Віленская 177
Віцебская 78
Гродзенская 135
Мінская 218
Магілёўская 28


Структура кіравання лютэранскай царквой з 1830-х гг.
Імператар
Міністэрства ўнутраных спраў
Дэпартамент духоўных спраў замежных веравызнанняў
Генеральная евангеліцкая кансісторыя (на чале з прэзідэнтам і віцэ-прэзідэнтам)
Курляндская евангеліцка-лютэранская кансісторыя
Курляндская кансістарыяльная акруга
Пробсцкая акруга (на чале з пробстам)
Пастарат (прыход) (на чале з пастарам)
НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ
ВІЦЕБСК Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
ОРША Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
НЯСВІЖ Іншыя гарады
Капыль Іншыя населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
дзяржаў у пачатку XX ст.
губерняў Расійскай імперыі
паветаў Расійскай імперыі
Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь
ДОЛЯ ПРАДСТАЎНІКОЎ ЛЮТЭРАНСКАЙ ЦАРКВЫ Ў КАНФЕСІЙНЫМ СКЛАДЗЕ НАСЕЛЬНІЦТВА (у працэнтах, па губернях, 1897 г.)
больш за 1,0
0,25—1,0
менш за 0,25
Колькасць насельніцтва лютэранскага веравызнання (чалавек, па паветах, па дадзеных перапісу 1897 г.)
Лютэранскія кірхі. Канец XVIII—пачатак XX ст.
Канец XVIII—першая палова XIX ст.
Другая палова XIX—пачатак XX ст.
ГРОДНА Цэнтры пастаратаў (прыходаў), пачатак XX ст.
ВІЦЕБСК Прыпісныя прыходы
1:4 150 000
Колькасць насельніцтва лютэранскага веравызнання (чалавек, па губернях, 1897 г.)
Віленская 4 463
Віцебская 44 480
Гродзенская 12 551
Мінская 5 552
Магілёўская 6 890



Да зместу

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ. БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ



## ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ. БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РУХ

Намаганні кіруючых колаў Расійскай імперыі, накіраваныя на арганічнае „зрастанне“ беларускіх губерняў з тэрыторыямі карэннай Расіі, не прыносілі жаданых вынікаў. Адказам на гэтыя намаганні было нараджэнне новых грамадскіх ініцыятыў. Адной з іх была дзейнасць нелегальных і зарэгістраваных грамадска-палітычных аб'яднанняў і рухаў. У XIX — пачатку XX ст. у цэнтры ўвагі ўладных структур і грамадскіх ініцыятыў (палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў) былі нацыянальнае і аграрнае пытанні. Урад Расіі спадзяваўся вырашыць гэтыя пытанні ў беларускіх губернях, ігнаруючы палітычныя і эканамічныя правы карэннага насельніцтва.

У выніку ў асяроддзі беларускага нацыянальнага руху пачала выспяваць нацыянальна-дзяржаўная ідэя, якая знайшла ўвасабленне ў праграмных дакументах і практычных намаганнях палітычных партый. Беларускія дзеячы звязвалі будучыню з пераходам Расіі ад самадзяржаўя да дэмакратычнага ладу пры якім будуць улічвацца інтарэсы беларускага і іншых народаў. Барацьба за нацыянальныя інтарэсы і была рухаючай сілай, якая спалучала нацыянальна-дзяржаўную ідэю з дзейнасцю беларускіх грамадска-палітычных лідараў, арганізацый і груп рознага сацыяльнага складу. Кансалідацыя беларускай інтэлігенцыі з мясцовым дваранствам і прадстаўнікамі іншых слаёў насельніцтва на грунце барацьбы за аўтаномнае ўладкаванне краю прывяла да фарміравання рэальнай сацыяльнай сілы, з інтарэсамі якой нельга было не лічыцца. У пачатку XX ст. амаль усе палітычныя плыні, якія прадстаўлялі інтарэсы беларускай нацыі, арыентаваліся на аўтаномна-дзяржаўнае развіццё ў складзе будучай Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Але ў гады Першай сусветнай вайны пытанне беларускай дзяржаўнасці набыло іншае палітычнае гучанне: пачала прабіваць сабе дарогу ідэя стварэння незалежнай беларускай дзяржавы.

На пачатаку XIX ст. галоўным каталізатарам грамадскага жыцця была студэнцкая моладзь, так ці інакш звязаная з Віленскім універсітэтам. Большасць культурных асяродкаў і грамадскіх рухаў з'яўлялася польскамоўнай. Гэта можна растлумачыць: інерцыйнымі працэсамі самапаланізацыі адукаваных пластоў насельніцтва былога Вялікага Княства Літоўскага; разрывам паміж старабеларускай моўнай традыцыяй і народнымі беларускімі гаворкамі XIX ст., якія фактычна не мелі пісьмовага варыянту.

Гісторыя палітычных і грамадскіх рухаў у Беларусі XIX—пачатку XX ст., „рабілася“ невялікімі аб'яднаннямі людзей (найчасцей прадстаўнікоў інтэлектуальнай працы). Рознага роду супольнасці ў XIX ст. сталі асноўнай арганізацыйнай формай барацьбы за вяртанне дзяржаўнасці ў той або іншай форме (студэнцкія таварыствы філаматаў і філарэтаў (1817—1823), рознага роду „асацыяцыі“, „брацкія саюзы“, „змовы“ і клубы інтэлігенцыі, якія маглі быць у форме салонаў або канспіратыўных сходак. У гэтым святле арганізацыйнае станаўленне беларускага руху на пачатку XX ст. з'яўлялася натуральным і нават традыцыйным.

У канцы XIX — пачатку XX ст. на беларускіх землях становіцца папулярнай сацыялістычная ідэя, узнікаюць народніцкія і сацыял-дэмакратычныя групы і гурткі. Сацыялізм закрануў прадстаўнікоў практычна ўсіх галоўных нацыянальнасцей, якія ў той час жылі ў Беларусі: беларусаў, яўрэяў, рускіх, палякаў, літоўцаў. У сувязі з наяўнасцю рысы аселасці на тэрыторыі Беларусі быў заснаваны шэраг палітычных партый, якія мелі значна шырэйшы абсяг дзейнасці, чым уласна Беларусь. У ліку іх: Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя, Усеагульны яўрэйскі рабочы саюз у Літве, Польшчы і Расіі, Яўрэйская незалежная рабочая партыя і інш.

У 1880-я гг. у Пецярбургу існавала „беларуская група“ расійскай „Народнай волі“, удзельнікі якой імкнуліся стварыць сваю партыю з мэтай падпарадкаваць сабе ідэйна і арганізацыйна ўсе народніцкія гурткі, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі, але беспаспяхова. У пэўны час „беларуская група“ фактычна імкнулася выкарыстаць аслабленне „Народнай волі“ ўрадавымі рэпрэсіямі, каб гуртаваць выхадцаў з Беларусі ў адну асобную групу. У 1884 г. „беларуская група“ выдала 2 нумары часопіса „Гомон“ і шэраг адозваў, на старонках якіх было ўзнята пытанне пра беларускую дзяржаўнасць у выглядзе аўтаноміі ў складзе будучай дэмакратычнай Расіі. Акрамя „беларускіх народнікаў“ у Пецярбургу ў розны час жылі шматлікія прадстаўнікі Беларусі, якія зрабілі вялікі ўклад у развіццё беларускай нацыянальнай культуры.

На тэрыторыі Беларусі ў 1870-я — 1880-я гг. дзейнічалі 24 народніцкія гурткі і 5 сацыял-дэмакратычных гурткоў. Галоўнымі цэнтрамі сацыялістычнага руху ў той час былі Мінск і Вільна. На пачатку XX ст. найважнейшым арганізацыйным цэнтрам палітычнага руху Беларусі становіцца Мінск (5 арганізацыйных з'ездаў палітычных партый і арганізацый), затым ішла Вільна (4 арганізацыйныя з'езды палітычных партый і арганізацый) і Гродна (3 арганізацыйныя з'езды палітычных партый і арганізацый). Па колькасці арганізацый палітычных партый у перыяд рэвалюцыі 1905—1907 гг. сярод лідараў была Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя (29 арганізацый), Саюз рускага народа (28 арганізацый), Саюз 17 кастрычніка (25 арганізацый). Лічбы, якімі аперыруе сучасная беларуская гістарыяграфія, не з'яўляюцца канчатковымі, паколькі ў большасці выпадкаў даследчыкамі не праводзілася верыфікацыя рэальнага існавання многіх мясцовых партыйных арганізацый. Трэба таксама ўлічваць і тую акалічнасць, што шматлікія апазіцыйныя царызму партыі дзейнічалі нелегальна, а праўрадавыя партыйныя арганізацыі ўсяляк імкнуліся паказаць свой вялікі ўплыў з мэтай атрымання фінансавай падтрымкі.

Працэс вылучэння беларускай нацыянальнай ідэі ў грамадска-палітычнай думцы таго часу быў распачаты навукоўцамі-гуманітарыямі, якія прыйшлі да вываду, што беларусы — гэта асобны народ. У той час гэта была радыкальная выснова, якая супярэчыла пастулатам „заходнерусізму“, прадстаўнікі якога лічылі, на думку А. Цвікевіча, што „Беларусь не з'яўляецца краінай з асобнай нацыянальнай культурай і не мае права на самастойнае культурнае і палітычнае развіццё, але што яна з'яўляецца культурна і дзяржаўна часткай Расіі і таму павінна разглядацца як адзін з яе састаўных элементаў“.

З іншага боку, у асяроддзі беларускай шляхты, якая пачынала разумець, што на землях былога ВКЛ адбываюцца асобныя ад Польшчы нацыятворчыя працэсы, узнікла „краёвая ідэя“. Сутнасць гэтай ідэі была ў тым, што „краёўцы“ абапіраліся на памяць пра ВКЛ як супольную дзяржаву ўсіх народаў, што жылі на тэрыторыі 6-ці губерняў „Паўночна-Заходняга краю“ Расійскай імперыі. Яны сцвярджалі, што ўсе карэнныя жыхары гістарычнай Літвы з'яўляюцца „грамадзянамі краю“ і такім чынам належаць да адзінай нацыі. „Краёўцы“ стаялі на грунце таго, што галоўным аб'яднаўчым момантам з'яўляецца агульная гістарычная традыцыя і агульная памяць пра яе. Прынцыповым з'яўлялася дэмакратычнае ўладкаванне краю ў будучыні, дзе кожная нацыя ў межах адроджанага ВКЛ павінна была атрымаць нацыянальна-культурную аўтаномію.

На пачатку XX ст. на беларускіх землях працягвалася польска-руская барацьба за культурны ўплыў, у якую былі ўцягнуты шырокія пласты адукаванага насельніцтва Беларусі. Менавіта ў кантэксце гэтай барацьбы выйшаў на гістарычную арэну беларускі нацыянальны рух, які выступіў як альтэрнатыва „заходнерусізму“ і „краёвасці“. Галоўную ролю, як і на пачатку XIX ст., для грамадска-палітычнага руху, адыгрывала Вільна, а таксама сталіца Расійскай імперыі — Пецярбург, дзе на той час жыло дастаткова шмат беларусаў. Напярэдадні Першай сусветнай вайны важным цэнтрам беларускага нацыянальнага руху становіцца Мінск.

У 1902 г. у Пецярбургу быў створаны „Круг беларускай народнай прасветы і культуры“, заснавальнікамі якога былі пецярбургскія студэнты беларускага паходжання браты Іван і Антон Луцкевічы, а таксама В. Іваноўскі. Мэтай „Круга“ была публікацыя беларускамоўных твораў беларускіх аўтараў. Былі апублікаваны зборнік паэзіі мінскага паэта Янкі Лучыны „Вязынка“, а таксама зборнікі „Калядная пісанка на 1904 год“ і „Велікодная пісанка“. У 1903 г. гэтымі ж людзьмі ў Пецярбургу створана Беларуская Рэвалюцыйная Грамада (БРГ), крыху пазней, у 1904 г., яна змяніла назву на Беларуская Сацыялістычная Грамада (БСГ).

На пачатку 1906 г. браты Луцкевічы перабраліся ў Вільна бо БСГ лічыла цэнтрам краю менавіта гэты горад. Першым друкаваным органам беларускага руху была газета „Наша Доля“, першы нумар якой выйшаў 1 верасня 1906 г. У „Нашай Долі“ пераважала інфармацыя сацыяльнай скіраванасці, і ў гэтым сэнсе яна, безумоўна, была ідэалагічным рупарам БСГ перыяду рэвалюцыі 1905—1907 гг. Перманентныя канфіскацыі выдання знішчылі „Нашу Долю“. Газета „Наша Ніва“, першы нумар якой выйшаў 10 лістапада 1906 г., ад пачатку свайго выхаду выразна адмежавалася ад „Нашай Долі“, уключыўшы ў сваю назву выраз „першая беларуская газета з рысункамі“.

У 1910 г. у „Нашай Ніве“ было надрукавана 666 допісаў, у тым ліку з Віленскай губерні: Віленскага павета — з 48 месцаў, Вілейскага павета — 30, з Дзісненскага павета — 9, з Лідскага — 8, Свянцянскага — 7, Ашмянскага — 20, з Мінскай губерні: з Мінскага павета — з 18 месцаў, з Слуцкага павета — 39, Пінскага— 2, Навагрудскага — 2, Ігуменскага — 5, Бабруйскага — 2, Мазырскага — 4, Барысаўскага — 9, з Гродзенскай губерні: з Гродзенскага павета — з 27 месцаў, Брэсцкага — з 3, Пружанскага — 3, Кобрынскага — 2, Бельскага — 2, Сакольскага — 8, Беластоцкага — 4, з Магілёўскай губерні: з Магілёўскага павета — з 3 месцаў; Аршанскага — 6, Горацкага — 6, Быхаўскага — 4, Клімавіцкага — 6, Рагачоўскага — 1, Чэрыкаўскага — 1, з Віцебскай губерні: з Віцебскага павета — з 4 месцаў, Лепельскага — 5, з Ковенскай губерні — з 9 месцаў, са Смаленскай губерні — з 2 месцаў. Такім чынам, у „Нашай Ніве“ працавала 427 карэспандэнтаў з 321 мясцовасці Беларусі.

Да іншых структур беларускага нацыянальнага руху адносіліся каталіцкая газета „Biełarus“, рускамоўная „Вечерняя газета“ і польскамоўная „Kurjer krajowy“.

Сфарміраваны вакол „Нашай Нівы“ беларускі нацыянальны рух меў дастаткова добрыя вынікі сваёй дзейнасці. Улічваючы вельмі абмежаваныя ў параўнанні з палякамі, рускімі, яўрэямі і літоўцамі рэсурсы, беларуская інтэлігенцыя здолела стварыць рэальную альтэрнатыву тоеснасці на землях былога Вялікага Княства Літоўскага. Больш за тое, менавіта дзякуючы „нашаніўскай“ супольнасці, беларускі рух за 16 гадоў (1902—1918) здолеў ператварыцца са студэнцкага гуртка ў нацыянальную эліту, якая ўзяла на сябе кіраўнічыя функцыі нацыянальнага маштабу. Гэта прадэманстравалі падзеі 1918—1920 гг., калі беларускае пытанне з унутрырасійскага зрабілася міжнародным. Менавіта гэтым колам людзей быў зроблены вялізны ўклад у стварэнне нармалізаванай беларускай літаратурнай мовы, навуковай тэрміналогіі, класічнай мастацкай літаратуры.

Развіццё і пашырэнне нацыянальнага руху выдатна ілюструецца развіццём беларускага кнігавыдавецтва на пачатку XX ст. Паколькі менавіта пачатак мінулага стагоддзя з'яўляецца часам масавага выдання беларускіх кніг, то гэта дало магчымасць адлюстраваць сітуацыю ў дадзенай сферы з дапамогай табліц і дыяграм.

Адной з важных асаблівасцей беларускага кнігадрукавання з'яўлялася пытанне шрыфту. Выбар стаяў паміж кірыліцай і лацінкай. У выніку даволі працяглага паралельнага суіснавання абодвух шрыфтоў, беларуская нацыянальная інтэлігенцыя паступова ўсвядоміла неабходнасць выбару аднаго алфавіта для беларускай мовы. Гэты выбар быў зроблены ў 1912 г. рэдакцыяй газеты „Наша Ніва“ на карысць кірыліцы. Што, безумоўна, адбілася на кнігадрукаванні. Так, з 1901 г. па 1917 г. кірыліцай выйшла 158 пазіцый, у той час як лацінкай толькі 87.

Што тычыцца асобных выдавецтваў, то безумоўным лідарам з'яўлялася беларускае выдавецтва ў Пецярбургу „Загляне сонца і ў наша ваконца“, якім кіраваў В. Іваноўскі. Яно за 8 гадоў свайго існавання (1906—1914) выпусціла 38 пазіцый (21 кірыліцай, 17 лацінкай) агульным накладам 56 700 асобнікаў. Не нашмат менш кніг выдала выдавецтва „Наша ніва“ (1907—1913), якое размяшчалася ў Вільне — 33 пазіцыі (19 кірыліцай, 14 лацінкай) агульным накладам 53 400 асобнікаў. Тут варта таксама прыгадаць яшчэ Беларускае выдавецкае таварыства, якое за 2 гады свайго існавання (1913—1915) апублікавала 15 пазіцый (12 кірыліцай, 3 лацінкай) агульным накладам 44 500 асобнікаў. Беларускае выдавецкае таварыства было адзіным беларускім выдавецтвам на пачатку XX ст., якое плаціла аўтарскія ганарары.

А. У. Унучак



Да зместу

## ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ РУХ У БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯХ. XIX–пачатак XX ст.




Да зместу

# ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПЛЫНІ Ў БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯХ. XIX– пачатак XX ст.




### КУЛЬТУРНЫЯ АСЯРОДКІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ГУБЕРНЯЎ (другая палова XIX – пачатак XX ст.)

**Польскамоўныя**

- Кнігарня Элізы Ажэшкі (1879 г.)
- Філіял польскай кнігарні Ажэшкі – Макоўскага (1900 г.)
- Прыватная бібліятэка Аляксандра Валіцкага і Соф'і Савіцкай (1863 г.)
- Выдавецтва братоў Завадскіх (канец XIX–пачатак XX ст.)
- Віленская археалагічная камісія (1855–1865 гг.)
- Віленскі музей старажытнасцяў (1856–1865 гг.)

Таварыствы

- Т1 Віленскае таварыства вясковай гаспадаркі (1881 г.)
- Т2 Мінскае сельскагаспадарчае (1876 г.)
- Т3 Гродзенскае сельскагаспадарчае (1898 г.)
- Т4 Віцебскае сельскагаспадарчае (1876 г.)
- Т5 Магілёўскае сельскагаспадарчае (1879 г.)
- Т6 „Агніска“ (1906 г.)
- Т7 „Сокал“ (1907 г.)

Гурткі

- самаадукацыі Станіслава Карповіча (1892 г.)
- настаўніцы Юліі Радзевіч (1895 г.)

Дамы, маёнткі

1. Дом Элізы Ажэшкі (канец XIX–пачатак XX ст.)
2. Маёнтак Эдварда Вайніловіча (канец XIX–пачатак XX ст.)
3. Маёнтак Аляксандра Ельскага

**Рускамоўныя**

- Прыватная бібліятэка Івана Місюры (1864 г.)
- Віленская школа малюнку (другая палова XIX–пачатак XX ст.)
- Віленская археаграфічная камісія (1864–1915 гг.)
- Віцебская губернская вучоная архіўная камісія (1909–1918 гг.)
- Мінскі царкоўна-археалагічны музей (1908 г.)
- К Мінскі царкоўна-археалагічны камітэт (1908 г.)

Таварыствы

- Т1 аматараў музычнага і драматычнага мастацтва (1883 г.)
- Т2 аматараў прыгожых мастацтваў (1898 г.)
- Т3 мінскіх лекараў (1867 г.)
- Т4 аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі (1912 г.)

### КРАЁВЫЯ І ЗАХОДНЕРУСКІ ПЕРЫЯДЫЧНЫ ДРУК І АРГАНІЗАЦЫІ (пачатак XX ст.)

**Краёвыя**

1. Заснаванне „Краёвай партыі Літвы і Беларусі“ (1907 г.)
2. Выданне газеты „Kurier Litewski“ (1905 г.)
3. Выданне газеты „Gazeta Wileńska“ (1906 г.)
4. Выданне газеты „Przegląd Wileński“ (1911 г.)
5. Выданне газеты „Kurier krajowy“ (1912 г.)
6. Гурток моладзі польска-літоўска-беларускай і маларасійскай (1889 г.)
7. Гурток Марыяна Абрамовіча (канец 1880-х гг.)
8. Вучнёўскі гурток Напалеона Чарноцкага (канец XIX ст.)

**Заходнерускія**

1. Рэдакцыя газеты „Минский листок“
2. Таварыства „Крестьянин“ Сяргея Кавалюка (1905 г.)
3. „Белорусское общество“ Лук'яна Саланевіча (1908 г.)
4. Выданне часопіса „Крестьянин“ (1906 г.)
5. Выданне газеты „Белорусская жизнь“ (1909, 1911 г.), з 1911 г. „Северо-западная жизнь“.

### ЭТНАГРАФІЧНЫЯ ЭКСПЕДЫЦЫІ

па губернях

- Павел Шпілеўскі (1823–1861) – „Падарожжа па Палессю і Беларускаму краю“
- Яўхім Карскі (1861–1931) – „Беларусы“
- Пётр Гільтэбрант (1840–1905) – „Зборнік помнікаў народнай творчасці ў Паўночна-Заходнім краі“
- Іншыя экспедыцыі і іх колькасць

па паветах

- Адам Багдановіч (1862–1940) – „Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў“
- Міхал Федароўскі (1853–1923) – „Люд беларускі“
- Павел Шэйн (1826–1900) – „Беларускія песні“
- Ісак Сербаў (1871–1943) – „Прыкметы старажытна-славянскага родавага быту на Палессі“
- 2 Іншыя экспедыцыі і іх колькасць

1:3 000 000




**АСНОЎНЫЯ КАНЦЭПЦЫІ ДЗЯРЖАЎНА-ПАЛІТЫЧНАГА ЎЛАДКАВАННЯ БЕЛАРУСІ**

1. **Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага.** Беларуска-Літоўскі край выдзяляецца ў самастойную адзінку без унутранага падзелу на аўтаномныя тэрыторыі (Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага).
2. **Федэратыўная Беларуска-Літоўская дзяржава** з унутраным размежаваннем аўтаномных Беларускай і Літоўскай земель „паводле матчынай мовы жыхароў". Меркавалася, што гэта федэрацыя будзе існаваць у найшчыльнейшай сувязі з Латвіяй і Украінай (Беларускі Народны Камітэт у Вільні).
3. **Злучаныя штаты ад Балтыйскага да Чорнага мора.** Меркавалася стварэнне пасля заканчэння вайны эканамічнай і палітычнай супольнасці ў складзе незалежных дзяржаў—Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны (Антон Луцкевіч, адзін з кіраўнікоў Беларускага Народнага Камітэту ў Вільні).
4. **Нацыянальна-культурная аўтаномія Беларусі** ў складзе будучай Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з соймам у Вільні (Беларуская Сацыялістычная Грамада).

**НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ**

- ВІЦЕБСК — Цэнтры губерняў Расійскай імперыі
- ОРША — Цэнтры паветаў Расійскай імперыі
- НЯСВІЖ — Іншыя гарады
- Капыль — Іншыя населеныя пункты

**ГРАНІЦЫ**

- Расійскай імперыі ў пачатку XX ст.
- губерняў Расійскай імперыі
- паветаў Расійскай імперыі
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**МЕСЦЫ ПРАВЯДЗЕННЯ АСНОЎНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАЎ ЗВЯЗАНЫХ З БЕЛАРУСКІМ РУХАМ**

**Перыядычныя выданні і гады іх заснавання**

1. Газета „Наша Доля" (1906 г.)
2. Газета „Наша Ніва" (1906 г.)
3. Штогоднік „Беларускі каляндар" (1910 г.)
4. Рускамоўная „Вечерняя газета", рэдагаваная А. Луцкевічам (1912 г.)
5. Польскамоўная газета „Kurjer Krajowy", рэдагаваная А. Луцкевічам (1912 г.)
6. Газета „Biełarus" (1913 г.)
7. Газета „Homan" (1916 г.)
8. Перыядычныя выданні „Саха" (1912 г.) і „Лучынка" (1914 г.)
9. Літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны альманах „Маладая Беларусь" (1912 г.)
10. Газета „Дзянніца" (1916 г.)
11. Газета „Świetač" (1916 г.)

**Галоўныя арганізацыйныя структуры беларускага руху**

1. Група беларускіх народнікаў „Гоман" (1800-я гг.)
2. Беларуская Рэвалюцыйная Партыя (1902 г.)
3. Круг беларускай народнай прасветы і культуры (1902 г.)
4. Беларуская Рэвалюцыйная Грамада (1903 г.)
5. II з'езд Беларускай Сацыялістычнай Грамады, дзе прымаецца новая праграма партыі (1905 г.)
6. Выдавецкая суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца" (1906 г.)
7. Выдавецтва „Наша хата" (1908 г.)
8. Прыватнае выдавецтва Антона Грыневіча (1910 г.)
9. Беларускі літаратурна-навуковы гурток (1912 г.)
10. Грамадскае таварыства „Беларускі музычна-драматычны гурток" (1911 г.)
11. Беларускае выдавецкае таварыства (1913 г.)
12. Беларускае таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (1915 г.)
13. Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Работніцкая Група (1915 г.)
14. Беларускі Народны Камітэт (1915 г.)
15. Канфедэрацыя Вялікага Княства Літоўскага—блок беларускіх, літоўскіх, польскіх і яўрэйскіх арганізацый (1915 г.)

Аматарскі тэатр Ігната Буйніцкага (1907 г.)

**КАРЭСПАНДЭНЦКАЯ СЕТКА ГАЗЕТЫ „НАША НІВА"**

**Колькасць мясцовых карэспандэнцый „Наша Ніва"**

- 9 — па паветах, паводле Ш. Ядвігіна 1910 г.
- 65 — па губернях, паводле Л. Васілеўскага 1910 г.
- 1 — Беларускія школы ў 1915—1917 гг. і іх колькасць

1:3 000 000



Да зместу

## БЕЛАРУСКАЕ КНІГАДРУКАВАННЕ НА ПАЧАТКУ XX ст.

| Год | Мастацкая літаратура | | Фальклорныя зборнікі | Агітацыйная літаратура | Календары | Навучальная літаратура | Музычная літаратура | Навукова-папулярная літаратура | Рэлігійная літаратура | Іншыя кнігі | Шрыфт | | Усяго кніг | Агульная колькасць асобнікаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | арыгін. | перакл. | | | | | | | | | кірыліца | лацінка | | |
| 1901 | 1 | | 1 | | | | | | | | 2 | | 2 | |
| 1902 | 2 | | 2 | | | | | | | | 3 | 1 | 4 | |
| 1903 | 4 | 1 | 3 | 3 | | | | | | | 10 | 1 | 11 | 6 500 |
| 1904 | 4 | 3 | 2 | | | | | | | | 5 | 4 | 9 | 6 110 |
| 1905 | | | | | | | | | | | | | | |
| 1906 | 6 | 1 | | 6 | | 5 | | | | | 10 | 8 | 18 | 26 000 |
| 1907 | 1 | 5 | 1 | 2 | | | | 3 | 1 | | 6 | 7 | 13 | 24 600 |
| 1908 | 3 | | 1 | | | | | 2 | | | 3 | 3 | 6 | 15 900 |
| 1909 | 3 | 1 | | | 2 | | | 10 | | | 7 | 7 | 14 | 19 300 |
| 1910 | 11 | 4 | 3 | | 2 | 1 | 2 | 4 | | 2 | 22 | 7 | 29 | 35 400 |
| 1911 | 1 | 4 | 4 | | 2 | | 2 | 9 | 1 | | 16 | 7 | 23 | 33 100 |
| 1912 | 11 | 2 | 5 | | 2 | | 1 | 3 | | | 17 | 7 | 24 | 39 900 |
| 1913 | 15 | 1 | | | 4 | | 1 | 4 | | 1 | 18 | 6 | 24 | 38 400 |
| 1914 | 12 | 2 | | | | | | 4 | 5 | 2 | 17 | 12 | 29 | 66 060 |
| 1915 | 2 | | 2 | | | 1 | | 2 | 1 | 2 | 6 | 4 | 10 | 16 000 |
| 1916 | | | | | 2 | 4 | | | 1 | | 2 | 5 | 7 | |
| 1917 | 5 | 3 | | 5 | | 2 | | 2 | 2 | 3 | 14 | 8 | 22 | |
| Усяго | 81 | 27 | 24 | 16 | 14 | 13 | 6 | 43 | 11 | 10 | 158 | 87 | 245 | 327 270 |










## КНІГІ, ВЫДАДЗЕНЫЯ ПААСОБНЫМІ БЕЛАРУСКІМІ ТАВАРЫСТВАМІ

| Выдавецтва | Шрыфт | | Усяго кніг | Кнігі дзе наклад не паказаны | Кнігі з паказаным накладам | Усяго асобнікаў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | кірыліца | лацінка | | | | |
| „Загляне сонца і ў наша ваконца“ | 21 | 17 | 38 | 15 | 23 | 56 700 |
| „Наша ніва“ | 19 | 14 | 33 | 10 | 23 | 53 400 |
| „Наша хата“ | 6 | 2 | 8 | | 8 | 15 000 |
| А. Грыневіча | 7 | 3 | 10 | | 10 | 28 200 |
| „Палачанін“ | 2 | | 2 | | 2 | 4 000 |
| „Мінчук“ | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 6 000 |
| „Саха“ | 5 | | 5 | 3 | 2 | 2 000 |
| Беларускае выдавецкае таварыства | 12 | 3 | 15 | 1 | 14 | 44 500 |
| Bielarus | | 9 | 9 | 2 | 7 | 17 060 |
| „Вясёлка“ | 1 | | 1 | | 1 | 5 000 |
| „Гомон“ | 4 | 6 | 10 | 10 | | |
| „Вольная Беларусь“ | 7 | | 7 | 7 | | |
| „Грамада“ | 5 | 1 | 6 | 6 | | |
| „Лучынка“ | 1 | | 1 | | 1 | 2 000 |
| Іншыя выданні | 67 | 31 | 98 | 59 | 39 | 93 410 |
| Усяго | 158 | 87 | 245 | 114 | 131 | 327 270 |

Заўвага. Табліцы і дыяграмы (апошні слупок азначае агульную колькасць асобнікаў) зроблены на аснове наступных выданняў: Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971; Александровіч С. Х. Гісторыя і сучаснасць Мн., 1968; Семашкевіч Р. Выпрабаванне любоўю, Мн., 1982; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн.: БелЭн, 1993—2001; Янка Купала і „Наша ніва“. Мн., 1997

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ НА КАРТАХ КАНЦА XVIII – ПАЧАТКУ XX СТ.



## БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ НА КАРТАХ КАНЦА XVIII – ПАЧАТКУ XX ст.

Да 1772 г. беларускія землі знаходзілі адлюстраванне пераважна на картах заходнееўрапейскага паходжання. Пасля ўключэння ў склад Расійскай імперыі яны трапілі ў поле дзейнасці расійскіх картографаў.

У другой палове XVIII ст. падрыхтоўкай тапаграфічнай прадукцыі ў Расійскай імперыі займаўся Геаграфічны дэпартамент Акадэміі навук. Для вывучэння новадалучаных зямель у 1770-я гг. на тэрыторыю Беларусі былі накіраваны акадэмічныя экспедыцыі І. І. Лапёхіна і Я. Ф. Шміта. Па выніках іх працы былі падрыхтаваны геаграфічныя і генеральныя карты: *„Генеральная географическая карта Псковской и Могилевской губерний с делением на провинции“ (1773)*, *„Генеральная карта Могилевской губернии с делением на 4 провинции“ (1776)*, *„Географическая карта Могилевской губернии с провинциями“* (1777) і інш.

Адным з цікавых твораў Геаграфічнага дэпартамента стала *„Карта путешествия Ее Императорского Величества в белорусские наместничества в 1780 году“* з пазначэннем маршрута падарожжа імператрыцы Кацярыны II па новадалучаных землях (**1**). Яна была створана ў маштабе 20 вёрстаў у англійскай цалі (прыкладна 1:840 000), аздоблена графічнымі малюнкамі і картушам (гравёрамі карты былі К. Фралоў і Я. Худзякоў, гравёрам аздобы — А. Калпашнікаў). Карта выдадзена ў якасці дадатка да кнігі „Топографические примечания на знатнейшие места путешествия Ея Императорскаго Величества в Белорусския наместничества 1780“ (СПб., 1780).

У 1780-я гады на беларускія землі пашырылася дзейнасць межавых канцылярый, якія ствараліся ў кожнай губерні адпаведна з імператарскім маніфестам ад 1765 г. „Аб генеральным межаванні граніц усёй імперыі“. Задачай межавых канцылярый было стварэнне дэталёвых планаў кожнай правінцыі, у далейшым — павета (уезда), з пазначэннем усіх паселішчаў і дакладных межаў зямельных уладанняў (дач). Межавыя планы паветаў Магілёўскага намесніцтва былі створаны ў 1784 г., Полацкага намесніцтва — у 1786 г. Планы межавання з'яўляюцца нетапаграфічнымі (без каардынатнай сеткі), маляванымі ад рукі картамі паветаў. Яны складаліся ў маштабе 2 вярсты ў цалі (1:84 000), у асобных выпадках — 1 вярста (1:42 000). Межавыя матэрыялы надзвычай падрабязныя, яны выкананы ў шмат фарбаў. Да планаў паветаў дададзены планы павятовых цэнтраў. Зараз яны захоўваюцца ў Расійскім дзяржаўным архіве старажытных актаў (РДАСА) у Маскве. Другі асобнік, зброшураваны ў адмысловыя межавыя атласы памерам 58×46 см, маецца ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве (РДГА) у Санкт-Пецярбургу. У якасці ўзору мы друкуем у паменшаным выглядзе план адной з частак Дрысенскага павета Полацкага намесніцтва (**2**). Тапаграфічныя дадзеныя межавання ў далейшым неаднаразова выкарыстоўваліся пры складанні губернскіх і павятовых карт, планаў населеных пунктаў.

У 1786 г. Геаграфічны дэпартамент Акадэміі навук выдаў падрыхтаваную І. Трускотам, Ф. І. Шубертам і Я. Ф. Шмітам *„Новую карту Российской империи, разделенную на наместничества“*. Карта стала вынікам інтэнсіўных экспедыцыйных і картаграфічных прац Акадэміі навук у XVIII ст., у т. л. на беларускіх землях. Межы намесніцтваў на карце былі выдзелены каляровымі фарбамі, а ў левым ніжнім вугле выгравіраваны гербы ўсіх намесніцтваў.

У канцы XVIII — пачатку XX ст. для масавага карыстання сталі выдавацца разнастайныя атласы, якія складаліся з аглядальных ці „семитопографических“ (сярэднемаштабных) карт.

У 1792 г. у тыпаграфіі Сыціна пры Горным вучылішчы быў выдадзены *„Российской атлас из сорока четырех карт состоящий и на сорок два наместничества Империю разделяющий“*. Атлас памерамі 54×38,8 см падрыхтаваны пад кіраўніцтвам А. М. Вільбрэхта (1756—1823), які працаваў над ім з 1785 г. Атлас убачыў свет у 1792 г., хаця шэраг карт у ім датаваны 1786 г. Над атласам працавалі высокапрафесійныя гравёры і мастакі, якія ўпрыгожылі яго дэкаратыўнымі картушамі (гравёр Г. Т. Харытонаў). Яны мелі алегарычны сэнс (адлюстраваны асноўныя заняткі насельніцтва тэрыторыі). Атлас складаўся з агульнай карты Расійскай імперыі і карт асобных намесніцтваў. Карты друкаваліся ў адзін чорны колер, афарбаваны ад рукі толькі межы паветаў.

У 1793 г. атлас быў перавыдадзены пад крыху змененай назвай *„Атлас Российской империи, состоящий из 46 карт, изданный во граде Святаго Петра 1792 года“* (дата адпавядае першапачатковаму выданню). Карты намесніцтваў, у тым ліку Магілёўскага (**3**) і Полацкага (**4**), надрукаваны з тых жа дошак, але з невялікімі ўдакладненнямі. Яны сталі каляровымі, як і прыдадзеныя ў картушах выявы губернскіх гербаў. У дадатак да раней апублікаваных, перадапошні разварот у атласе заняла *„Карта новоприобретенным от Польши Россиею областям в 1793 г.“* (**5**). Нумарацыя карт пачынаецца з № 2, таму іх фактычна 45, а не 46, як згадана ў назве атласа (агляная карта імперыі, карты 43 намесніцтваў і карта далучаных тэрыторый).

Адначасова ў якасці асобнага картаграфічнага твора Геаграфічным дэпартаментам Кабінета Яго Імператарскай Вялікасці была створана карта з памерам рамкі 52×70 см, у маштабе 20 вёрстаў у цалі (1:840 000) пад назвай *„Чертеж новоприобретенным от Польши Россиею землям в 1793 году“*. Паменшаны фрагмент яе мы публікуем (**6**). Аўтарам яе таксама быў А. М. Вільбрэхт, гравёрам — К. Ушакоў.

Пазней гэтая карта была дапрацавана з улікам трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Гэты варыянт вядомы пад назвай *„Чертеж новоприобретенным от Польши Россиею Землям в 1793 и 1795 году“*.

Змяненне межаў імперыі ў выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай выклікала неабходнасць выдання ў тыпаграфіі Сыціна трэцяга, дапрацаванага выдання атласа пад новай назвай: *„Атлас Российской империи, состоящий из 52 карт, изданный во граде С. Петра в лето 1796 г., а царствования Екатерины II XXXV-е“*. Ён быў надрукаваны ў 1796 г. з тых жа дошак, што і атлас 1793 г. Некаторыя карты былі падгравіраваны ці заменены іншымі. Так, замест „Карты новоприобретенным от Польши Россиею областям в 1793 г.“. з'явіліся 8 новых карт, у тым ліку Віленскага (**7**), Слонімскага (**8**) і Мінскага (**9**) намесніцтваў.

Генеральнае межаванне на тэрыторыях, далучаных да Расіі ў 1792 і 1795 гг., не праводзілася. Яго слабым адпаведнікам можна лічыць працу па стварэнні буйнамаштабных рукапісных карт. Падставай для іх паслужыла першая тапаграфічная здымка пад кіраўніцтвам палкоўніка Ж. Барэнвіля, якая праводзілася ў 1796—1798 гг. і закранула Літоўскую, часткова Мінскую і Валынскую губерні. Здымка рабілася даволі паспешна, без геадэзічнай падасновы, з выкарыстаннем простых інструментаў (бусолі, компаса), а часам і вокамерна ці нават шляхам роспыту мясцовага насельніцтва. Прыкладам картаграфічнай прадукцыі, створанай такім чынам, можа служыць *„Генеральная карта Литовской губернии“* (**10**) у маштабе каля 1:300 000, якая была створана каля 1800 г. і зберагаецца ў фондах РДГА.

Вынікі здымкі па тэрыторыі Мінскай губерні былі каля 1800 г. па даручэнні мінскага губернатара З. Я. Карнеева аформлены ў рукапісны *„Атлас Минской губернии составленной из одного губернского и девяти поветовых городов, с их поветами или уездами“* памерам 90×70 см, які зараз захоўваецца ў РДГА. Ён выкананы па ўзоры межавых атласаў 1780-х гг., хаця і значна саступае ім па дакладнасці. Планы паветаў у ім блізкія да маштабу 1:84 000, хаця з-за адсутнасці геадэзічнай падасновы адпаведнасць вельмі ўмоўная. Як і на межавых планах, пазначаны паселішчы, лясы і межы маёнткаў. Маюцца планы павятовых цэнтраў. Цікавасць уяўляе агляная карта Мінскай губерніі маштабу 20 вёрстаў у цалі, змешчаная ў гэтым атласе без арыентацыі па баках свету (**11**).

Адміністрацыйна-тэрытарыяльныя змены, якія адбыліся ў часы праўлення імператара Паўла І, выклікалі выданне ў 1800 г. новага друкаванага атласа пад назвай *„Российской атлас из сорока трех карт состоящий и на сорок одну губернию Империю разделяющий“*. Памеры атласа — 53×70 см. Як і ранейшыя атласы, ён быў падрыхтаваны пад кіраўніцтвам А. М. Вільбрэхта. Друкаваўся атлас у адзін чорны колер, а межы паветаў расфарбоўваліся ўручную. Выданне было ўпрыгожана алегарычнымі малюнкамі з гербамі губерняў. Беларускія землі адлюстраваны на аркушах № 7 (Беларуская губерня) (**12**), № 17 (Літоўская губерня) (**13**) і № 19 (Мінская губерня) (**14**).

З 1797 г. функцыі стварэння картаграфічнай прадукцыі перайшлі ад Геаграфічнага дэпартамента Акадэміі навук і Геаграфічнага дэпартамента Кабінета Я. І. В. да Уласнага Я. І. В. Дэпо карт і Дэпо Світы Я. І. В. па кватэрмайстарскай частцы (утворана ў лістападзе 1796 г.). Галоўнай мэтай іх дзейнасці стала стварэнне ваенна-тапаграфічных карт. У 1812 г. гэтыя ўстановы былі аб'яднаны ў Ваенна-тапаграфічнае дэпо.

Адной з першых карт, якая была падрыхтавана для ваенных патрэбаў, стала *„Подробная милитерная карта по границе России с Пруссиею. Сочинена и гравирована в 1799 году при собственном Его Императорского Величества Депо Карт“*. Яна была выканана пад кіраўніцтвам інжынер-палкоўніка К. І. Апермана ў маштабе 5 вёрстаў у цалі (1:210 000) і складалася з 14 гравіраваных і расфарбаваных аркушаў (памерам 35×40 і 43×55 см). З іх 4 аркушы ахопліваюць заходнюю частку сучаснай Беларусі.

У 1801—1804 гг. на аснове калекцыі карт і матэрыялаў, сабраных і створаных картаграфічнымі дэпо, была створана *„Подробная карта Российской империи и близлежащих заграничных владений“*. Падрыхтоўка гэтай карты вялася пад кіраўніцтвам генерал-кватэрмайстара расійскай арміі П. К. Сухтэлена і дырэктара Уласнага Я. І. В. Дэпо карт К. І. Апермана. Карта была створана ў маштабе 20 вёрстаў у 1 цалі (1:840 000). Першапачаткова яна ўключала 100 аркушаў памерам 60×64 см, адсюль — неафіцыйная назва “столистовая” („стоаркушавая“). Затым колькасць аркушаў была пашырана да 114. Карта ахоплівала тэрыторыю Расійскай імперыі ад заходняй мяжы да мерыдыяна Табольск—Хіва. Акрамя населеных пунктаў, дарог, лясоў і іншых элементаў мясцовасці, на карце быў адлюстраваны рэльеф метадам паўперспектывы і штрыхоўкі. Беларускія землі размясціліся на сямі аркушах гэтай карты (14, 15, 16, 25, 26, 27, 35).

У 1812 г. у Парыжы быў выдадзены французскі аналаг стоаркушавай карты, створаны тапографамі Вялікай арміі пад кіраўніцтвам палкоўніка Ф. Пашкоўскага. Французская карта — *„Carte de la Russie Européenne en LXXVII feuilles exécutée au Depôt general de la Guerre“* („Карта еўрапейскай Расіі…“) — была падрыхтавана ў маштабе 1:500 000. Яна складалася са 104 аркушаў памерам 79×50 см, 77 з якіх ахоплівалі еўрапейскую частку Расіі, астатнія — азіяцкую частку. Карта была падрыхтавана на аснове расійскай „стоаркушавай“ карты, набытай французскай разведкай у адкрытым продажы, з удакладненнямі на падставе межавых карт беларускіх зямель і матэрыялаў тайных рэкагнасцыровак. На аркушы-ўкладцы змешчаны руска-французскі слоўнік тапаграфічных тэрмінаў, у які ўваходзіла каля ста слоў („берег“, „болото“, „брод“, „лес“, „деревня“, „дорога“ і г. д.). Беларускія землі адлюстраваны на чатырох аркушах карты (A-6, B-6, A-7, B-7).

Падрыхтаваныя практычна без апорных пунктаў „стоаркушаўка“ і яе французскі эквівалент не адзначаліся дакладнасцю. Тым не менш менавіта імі карысталася вайсковае камандаванне абодвух бакоў падчас вайны 1812 г. Нягледзячы на недахопы, расійская карта была перавыдадзена ў 1816 г. У нашым атласе прыводзяцца тытульны і агляны аркушы першага выдання „стоаркушавай“ карты, фрагмент аднаго з аркушаў па тэрыторыі Беларусі, а таксама фрагмент французскага выдання (**15**).

Значнае месца ў гістарычнай картаграфіі заняў атлас з доўгай назвай *„Географический атлас Российской Империи, царства Польского и Великого Княжества Финляндского, расположенный по губерниям на двух языках с означением городов, местечек, сел, деревень и всех примечательных мест, почтовых и больших проезжих дорог, станций и расстояний между оными, и прочими селениями в верстах и милях на 70 листах с Генеральною картою и таблицей расстояния верст по почтовым дорогам между знатнейшими городами. Сочинен по новейшим и достоверным сведениям, в пользу обучающихся Российской Географии и для составления дорожников путешественникам“*. Ён быў падрыхтаваны палкоўнікам В. П. Пядышавым і выдадзены Ваенна-тапаграфічным дэпо ў 1827 г. Даты асобных карт у ім пазначаны ад 1820 да 1826 г. У выданні былі выпраўлены шматлікія недахопы, характэрныя для карт першых двух дзесяцігоддзяў XIX ст., пазначаны найважнейшыя дарогі і паштовыя станцыі. Карты беларускіх губерняў змешчаны ў атласе на аркушах: № 4 (Гродзенская губерня і Беластоцкая вобласць, 1820 г.), № 5 (Віленская губерня, 1820 г.), № 11 (Віцебская губерня, 1820 г.), № 12 (Мінская губерня, 1821 г.), № 13 (Магілёўская губерня, 1821 г.). Назвы на карце пададзены на рускай і французскай мовах. Як узор у нашым атласе прыводзіцца ў паменшаным выглядзе Генеральная карта Віцебскай губерні (**16**). Атлас быў затым перавыдадзены ў 1834 г.

Пасля заканчэння напалеонаўскіх войнаў пачалася праца па складанню дакладных карт Расійскай імперыі з выкарыстаннем дасканалых інструментаў і на падставе трыангуляцыйнай сеткі. Трыангуляцыю заходняга рэгіёну з 1816 г. распачаў генерал-маёр К. І. Тэнер (1783—1860). Разам з В. Я. Струвэ ён правёў работы па вымярэнню дугі мерыдыяна (т. зв. „дугі Струвэ“).

На падставе гэтых здымак у 1819—1829 гг. была складзена *„Топографическая карта Виленской губернии, составленная в 1:210 000 долю настоящей величины со съемки генерал лейтенанта Теннера“*. Яна была падрыхтавана ў маштабе 5 вёрстаў у цалі (1:210 000). Карта складалася з васьмі асобных аркушаў (пазначаны рымскімі лічбамі) памерам 63×53 см. Асобна прыкладваўся зборны аркуш. Карта выпушчана ў свет у 1836 г. у адзін колер (без рэльефа) (**17**). Пазней, пасля адміністрацыйнай рэформы 1842—43 гг. яна была перавыдадзена ў 1845 г. пад удакладненай назвай *„Топографическая карта Виленской и Ковенской губерний…“*

Створаны ў 1822 г. Корпус ваенных тапографаў пад кіраўніцтвам генерала Ф. Ф. Шуберта (1789—1856) распачаў шматгадовую працу па стварэнні ваенна-тапаграфічнай карты на ўсю заходнюю частку Расійскай імперыі. З-за недахопу афіцэраў-складальнікаў работы вяліся марудна. Урэшце ў 1842 г. была завершана і выдадзена *„Специальная карта Западной части Российской империи“*. Яна вы-

